Д70
Бібліятэка Навукова-Дасьледч. Інстытуту Сел. і Лясн. Гасп.
Шыфр 37
П-858
48
3ок-2
12651
72138
9888
БИБЛИОТЕКА № 10209

# ПРАЦЫ

Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску.

# ТРУДЫ

Белорусского Государственного Университета в г. Минске

# LES ANNALES

de l'Université de la Blanche-Ruthénie.

## 1. ПЭДАГОГІЧНЫ ФАКУЛЬТЭТ

1927 г. | № 16



Выданьне Праўленьня Б. Д. У.
Менск—1927

Проф. М. М. Піотуховіч.

# Ля вытокаў лірыкі Янкі Купалы.

## („Жалейка“, „Гусьляр“).

Першы верш Янкі Купалы „Мужык“ быў надрукаваны ў Менскай газэце „Северо-Западный Край“ 15 мая 1905 г. Дваццацігодні юбілей літаратурнай дзейнасьці беларускага песьняра, гэткім чынам, супаў з дваццацілецьцем першай рэвалюцыі, і ў гэтым супадзеньні ёсьць свой глыбокі сэнс; яно не выпадковы факт, а выраз гістарычнай дынамікі ў яе законамернасьці.

Буралом першай рэвалюцыі глыбока ўскалыхнуў і ўзварушыў народнае беларускае мора; з глыбінь гэтага мора на шырокую паверхню жыцьця гістарычным працэсам выклікана было шмат талентаў самародкаў. Сярод іх першае мейсца належыць, бязумоўна, Янку Купале. Неспасрэдна ад сахі і плугу, з самых гушчаў працоўнага люду пераходзіць ён да літаратурнай чыннасьці.

Першы зборнік лірычных вершаў поэты „Жалейка“ зьявіўся ў 1918 г. У дадзеным зборніку мы ўжо знаходзім эмбрыон галоўных мотываў творчасьці Янкі Купалы, тут ужо дось.ць выразна вызначаецца мастацкая постаць песьняра. Вось чаму для навуковага дасьледваньня поэзіі Купалы „Жалейка“, калі шукаць аналёгііі ў іншых літаратурах, мае такое-ж вялікае значэньне, як, напрыклад, ліцэйскія вершы Пушкіна.

У „Жалейцы“ пераважаюць об'ектыўныя мотывы лірыкі. Янка Купала выступае тут, галоўным чынам, як назіральнік наўкольнага жыцьця. Гэрой зборніка—беларускі селянін; толькі адзін верш „Шавец“ прысьвечаны тут дробнаму рамесьніку. Спыняючыся пераважна на вясковым жыцьці, поэта асабліва падрабязна распрацоўвае тэму сялянскай беднасьці, социяльныя злыдні беларускага селяніна абхоплены ім усебакова. Вось, напрыклад, якія сумныя песьні мужыка падслухаў ён:

Няма хлеба, няма солі,
Чужому рабі;
Няма шчасьця, няма долі,
Вот тут і жыві;
Вот зіма—мароз вялікі,—
Дровы ў Менск цягні;
Дзеткі зьмерзьлі, енкі, крыкі,—
Вот тут і жыві.

(„З песьняў мужыцкіх“).

У другім мейсцы ад асобы селяніна поэта гавора:

Я мужык беларус,—
Пан сахі і касы;
Цёмны сам, белы вус,
Пядзі дзьве валасы.

Бацькам голад мне быў,
Гадаваў і карміў;
Бяда маткай была,
Праца сілу дала.
Хоць пагарду цярплю,
Мушу быць глух і нем,
Хоць сьвет хлебам кармлю,
Сам мякіначку ем.

На гэтай тэме сялянскай беднасьці поэта спыняецца некалькі разоў і ў іншых вершах. Ён, напр., яскрава малюе нам вясковую хату; яна і старая і крывая, зьлепленая з аднаго гнільля з зялёным мохам на страсе, у ваконцы ўсяго дзьве шыбы і тыя з лучын, падлога выбіта з друзу, столь з драніц („Мая хатка"). У вершы „Спрасоньня" перад намі зноў разгарнаецца малюнак сялянскага гора:

Пярун у хатку б'е крывую,
Пасевы нішча суш і град,
Авечку воўк задраў старую,
Скрыпіць ня мазан панарад,
Худзее жонка ў сьлёзах працы,
Трасе дзюравым каптаном.

Як-бы абагульняючы гэтыя малюнкі, поэта зазначае:

Жыцьцё нашае, нас бедных
Бяспрытомных мужыкоў,
Горш за ўсякага стварэньня,
За сабак і чарвякоў.

Гуманнае сэрца поэты, відаць, асабліва хваравіта адчувала беспрасьветную беднасьць, гэтую адвечную крыўду народнага жыцьця.

Але пясьняр ня толькі канстатуе факты беднасьці, ён паказвае нам і прычыны ненармальнага соцыяльнага становішча беларускага селяніна. У дадзеных адносінах часам Янка Купала выяўляе востры аналіз ня столькі поэты, колькі палітэканамістага. Ён, напр., маляўніча рысуе нам, як выбіваюць з селяніна дадатковую вартасьць.

Пан за тваю працу
Нібы то й заплаце—
Знай плату з палацу;
Зьбярэш з ёй багацьця—
За гадзін семнаццаць
Трудоў у дзень нязьменных
Выйдзе грошай дваццаць
Або й таго меней.

Эксплёатацыя, такім чынам, галоўная прычына сялянскай беднасьці; адзін за другім праходзяць перад намі малюнкі соцыяльнага ўціску. Вось, напр, верш „Гоніш мяне, панічок"; гэта эмбрыон будучага „Раскіданага гнязда": тут поэта малюе нам, як пан выганяе селяніна з яго сялібы. Другі верш „Град" рысуе нам, як пан імкнецца скарыстаць нават няшчасьце мужыка... Селянін любуецца сваёй нівай, яго цешыць надзея на добры ўраджай, выабражэньню рысуецца радасная перспэктыва дастатку і добрабыту, але стыхійныя сілы прыроды разбураюць гэтыя надзеі—град і навальніца зьніштажаюць пасевы, гаспадар у няшчасьці ідзе да пана з просьбай пазычыць яму хлеба, але пан застаецца глухім да сялянскага гора, ён толькі за грошы згаджаецца на пазыку.

Як-бы вывад з гэтага апавяданьня прадстаўляе сабой прадасьцярога „Ня рвіся к багатым“: багацьце робіць чалавека жорсткім і нячулым, „ня найдзеш сэрц братніх, дзе толькі багацьце“.

Апроч земляўласьніка зарысоўваюцца ў „Жалейцы“ і іншыя вобразы эксплёататараў вёскі ў старыя часы: пан з гандляроў, ліхвяр, эксплёататар з інтэлігэнцыі, ксёндз, аконам, шляхціц—усе гэтыя здані мінулага праходзяць перад намі ў куплетах „І як тут не сьмяяцца“.

Ад зоркага вока поэты не захавалася прасякненьне капіталу на вёску і руйнаваньне ім шляхецкай гаспадаркі, на вёсцы зьяўляецца новы пан, „parvenu“, выскачка з нізоў:

Вот мчыцца пан на парцэ,
Упражка зіхаціць.
І конікі абмыты
І панскі лоб блішчыць.
На цэлы сьвет з пагардай
Дзікім глядзіць казлом.—
А быў-жа ён нядаўна
Авечак гандляром.

Шляхта затое галее, але яна ня траціць сваёй пыхі і пагарды ў адносінах да працоўных:

Вот шляхціц, нэндзны шэршэнь,
Той выскачак адзін,
Заціркай душу мучэ,
Ужо ён гаспадзін.
Бяднейшаму ўжо брату
Рукі не падае,
Хоць сам часнок, цыбулю
На рынку прадае.

У „Жалейцы“ Янка Купала ня толькі дае нам агульны вобраз сялянскага жыцьця, поўнага беднасьці ўціску і эксплёатацыі. Гэты вобраз разьбіваецца часам на паасобныя малюнкі—малюнкі працоўнага побыту вёскі. Але ва ўмовах эксплёатацыі праца, якая звычайна нясе з сабой шчасьце і радасьць, проклята: над ёй вісіць пракляцьце паднявольнасьці, яна цяжкая пакута. Вось, напр., перад намі малюнак жніва. Мы бачым гэтых жней з пахіленымі, худымі каркамі, мы чуем іх смутныя песьні:

Асобна кожную загонам
Нас надзяліў пан дабрадзей.
А над усімі злы аконам
Стаіць, ганяець жаць барджэй.

Нават думка аб дажынках не радуе гэтых пакутніц:

Пан справіць гучныя дажынкі,
За пот, кроў, сьлёзы водкі дасьць;
Мы будзем піць, як гора п‘ем,
Паноў хваліць
І дружна ім
Скрозь сьлёзы песьню прапяём.

(„Песьня жнеяў“).

Толькі два малюнкі працы ў Купалы агорнуты поэзіяй вясковага жыцьця: „Касьба“ і „Пры скаціне“. Гэтыя малюнкі як-бы падкрэсьліваюць думку, што сама па сабе праца дае шчасьце чалавеку, проклятай робяць яе ненармальныя варункі жыцьця. Нагародай за працу ў

вясковых умовах зьяўляецца торба жабрацтва; адсюль увага песьняра некалькі разоў спыняецца на сумных вобразах старцоў.

Гэткім чынам ужо ў першым сваім зборніку Янка Купала грунтоўна абхапляе эканамічнае становішча беларускага сялянства; вясковая беднасьць, клясавыя супярэчнасьці зарысоўваюцца ім у сакавітых фарбах.

Адначасна поэта зачэплівае і іншыя бакі сялянскага жыцьця; ім закрануты, напр., сялянскі побыт; сваім чульлівым сэрцам пясьняр прасякае ў трагедыю вясковай жанчыны. У вершы „Сватаная“ ён абхапляе ўсю долю гаротніцы, пачынаючы ад моманта сватаньня і канчаючы раньняй старасьцю, калі ў пакутніцы „патухнуць ад сьлёз ясны вочы, збляднее, паморшчыцца твар“.

Сумна жыцьцё селяніна, нерадасны і канец яго. Вобраз нябожчыка, сумны, за душу хапаючы малюнак вясковых хаўтураў гэтак сама не абмінуты ў першых вершах поэты. Поп з крапідлам, які „чакае на ўзятку“, нудныя сьпевы дзяка, аднастайны звон, жабрацкая труна, вузкая магіла „локцяў тры без мала“, насып, вылажаны дзёрнам, крыж з з каменьняў,—уся гэтая абстаноўка вясковага пахаваньня мастацкі абмалявана ў вершы „Нябожчык“. Не пазабыты поэтай і ціхія вясковыя могілкі, дзе знаходзяць сабе апошні і адвечны прытулак сярмяжныя горапашнікі; да іх поэта зварачаецца з словамі шчырага астатняга „даруй“.

Сьпіце, загнаныя,
Ад сонца скрытыя,
Сьпіце, бяздольныя,
Горам забітыя...

Абмалёўваючы сялянскую долю з яе беднасьцю, уціскам і сумам, поэта, зразумела, не застаецца раўнадушным: ён узвышаецца да сапраўднага абурэньня супроць ненармальных умоў жыцьця. У вочы паном, гэтым адвечным прыгнятальнікам селяніна, ён кідае свой верш, абліты гораччу і помстай:

Гэй, растлумач атродзьдзе ўражжа,
Трутні, зладзеі пчольных прац,
Чаму, дзе труд крывавы ляжа,
Цьвяце загон, стаіць палац.
Чаму я сею, а другія
З сяўбы маёй зьбіраюць плён.
(„Спрасоньня“).

Прадбачыць поэта і нямінучую разьвязку гэтых соцыяльных супярэчнасьцяй—наступленьне рэволюцыі, калі ў крыві помсты загіне адвечная народная крыўда:

На сьвет многа прыдзе бяды,
Бо за крыўду сваю адамсьціць.
Сьвіньням будзе крыві не пабраць. --
Адамсьціць, аж зямля задрыжыць,
Аж віхры зашумяць, загудзяць.
(„Пажалей мужыка“).

У пацьвярджэньне выказанай думкі аб нязьбежнасьці крывавай рэволюцыі поэта прыводзіць гістарычную даведку; зварачаючыся да паноў, ён кажа:

Эх, каб не спаткала вас доля Нэрона.
Рым моцных шаленства к упадку зьвялі,

Апроч соцыяльна-клясавых супярэчнасьцяй вёскі, другая тэма першых вершаў Янкі Купалы—Беларусь. Спачатку тут выказваецца сумны погляд на прыроду айчыны. Вядомы гэты мінорны верш Янкі Купалы:

Невясёлая старонка
Наша Беларусь.
Людзі: Янка ды Сымонка,
Птушкі: дразды, гусь.
Поле: горы ды каменьні,
Потам зьліта ўсё,
Сенажаць—адны карэньні,
Сівец, ды куп'ё.

Потым адзін за другім пералічаюцца і іншыя недахопы: благі ўраджай, адсутнасьць садоў, люд убогі, народная цемра. Як вывад з усяго, жаласьлівае прызнаньне поэты:

Так ня міла, як магілай,
Неяк выдае.
Беларусь, мая старонка,
Но люблю-ж яе!
Я калі-б з ёй разлучыўся,
Плакаў-б з усіх сіл.

Гэта сузнаньне органічнай сувязі з айчынай параджае ў Янкі Купалы нейкую дысгармонію, дваістасьць у яго адносінах да Беларусі. З аднаго боку, поэта, як мы бачым, накідвае сумны колер на яе прыроду, з другога боку, ён захапляецца поэзіяй яе зялёных садочкаў, фантастыкай народнай творчасьці, мінулым роднага краю, ён сузнае, што Беларусь хавае ў сябе вялікія потэнцыяльныя сілы, у гуках радзімай прыроды чуюцца яму крыкі аб жыцьці краіны:

І вот, як не любіць гэтае поле і бор,
І зялёны садок і крыклівую гусь...
А што часам тут страшна заенча віхор...
Гэта енк, гэта крык, што жыве Беларусь.

У гэтым соцыяльна-нацыянальным патосе заключаецца творчая домінанта першага зборніку беларускага песьняра. Матывы так званага „чыстага мастацтва“ амаль што зусім адсутнічаюць тут. Нават малюнкі прыроды большаю часткаю ўплятаюцца тут у вершы з соцыяльным зьместам. Восень, напрыклад, гэта толькі той мрачны фон, на якім яшчэ больш рэльефна акрэсьліваецца ўся трагэдыя сялянскага жыцьця; навальніца і град—гэтыя стыхійныя няшчасьці яшчэ больш выяўляюць экспләатацыю селяніна панам. Можна сказаць, такім чынам, што прырода, як асобная крыніца натхненьня, не займае выдатнага мейсца ў „Жалейцы“.

Больш увагі адводзіцца тут асабістым перажываньням поэты, але гэта лірыка індывідуальных думак і эмоцыяў афарбована пераважна ў мрачны колер. Разлад паміж марамі і дзейснасьцю, раньняе расчараваньне ў жыцьці і людзях, дарэмныя парывы да нейкіх сьветлых сноў, нуда, адзіноцтва—вось звычайныя тэмы сумных, мелянхолічных перажываньняў поэты. І толькі зрэдку сьветлыя праменьні прарэзваюць гэту густую цемру смутку. На момант поэта адпачывае душой у пяшчотным пачуцьці каханьня, але і сюды, у гэты інтымны куток суб'ектыўных перажываньняў, прасякаюць знадворку дысгармонічныя адчуваньні: жаночыя здрады, зьвязаныя з імі мукі рэўнасьці і асабліва соцыяльна-клясавыя супярэчнасьці разбурваюць і гэтую сьветлую

поэзію. У абстаноўцы соцыяльнай няроўнасьці каханьне вельмі часта траціць свой пяшчотны ідылічны характар; перад сузнаньнем поэты яно прадстае як змрочная і грозная сіла, якая на момант руйнуе нават клясавыя загародкі, можа злучыць і шляхцянку з вясковым парабкам, але потым прыводзіць к трагічнай катастрофе. („Адплата каханьня").

Другі промень, які прарэзвае часам густую цемру мелянхоліі поэты, гэта поэзія, мастацкая творчасьць. У Янкі Купалы мы знаходзім тут чыста романтычную концэптыю мастацтва. Песьні—гэта найвышэйшае ў жыцьці чалавека, гэта божы дар („Песьня а песьнях"). Сам поэта творыць стыхійна, песьні не даюць яму супакою, яны не адчэпна прасьледуюць яго:

Хацеў-бы вас, песьні,
Зрачыся, пакінуць,
Сілачкі-ж мне мала,
Буду ўжо так гінуць.
Выплакаў вам сэрцам,
Высьніў вас душою,
Вальчучы з нядоляй,
Вальчучы з бядою,
І цяпер за мною
Ходзіце вы ўсюдых,
І вясной па траўцы,
І ўвосень па грудах,
Па загонах летам.

(„Я не поэта").

Але разам з гэткай стыхійнай патрэбай творчасьці ў Купалы, у першым зборніку яшчэ мала ўпэўненасьці ў сваіх сілах. Мы знаходзім тут надзвычайна скромнае прызнаньне:

Я не поэта, о крый мяне, божа!
Ня рвуся я к славе гэткай ні мала.
Хоць песенку-думку і высную можа,
Завуся я толькі Янка Купала.

У другім мейсцы поэта з яшчэ вялікшай скромнасьцю зазначае:

Я ня сокал зоркавокі,
Не арол адважны,
Што так думна за аблокі
Узносіцца з іх кажны.
Нават я не салавейка,
Што пяе так слаўна,
А я толькі верабейка,
Узрошчаны пад Гайнай.

(З „Маіх думак").

Пясьняр сумняваецца нават у каштоўнасьці сваіх твораў; яму прадстаўляецца часам, што „душы яго тварэньня" будуць марнець у нязнаньні, зробяцца здабычай пацукоў, але калі „нейкі вучоны моль з прыпадку натрапе" на іх, то ён знойдзе там толькі матэрыялы для этнографіі людзей на Беларусі. („Каму?").

Поэта жорстка памыліўся ў ацэнцы сваёй творчасьці; нават яго першы зборнік „Жалейка", ня кажучы ўжо аб пазьнейшых, мае далёка не этнографічнае значэньне, а ўяўляе сабой глыбока ідэёвую каштоўнасьць, паколькі ў ім ускрыты соцыяльны і нацыянальны ўціск, які цягацеў над Беларусьсю ў часы царызму.

Па галоўных мотывах, якія пануюць у „Жалейцы“, Янка Купала прыбліжаецца да народнікаў: пераважным об'ектам яго творчасьці зьяўляецца вёска, народ. Але паміж ім і народнікамі ранейшага часу ёсьць значная розьніца. Як вядома, для народнікаў характэрнай зьяўляецца іх вера ў інтэлігэнцыю. На падставе тэорыі крытычна мысьлячай асобы Лаўрова яны лічылі, што інтэлігэнцыя - гэта галоўны фактар культуры і прогрэсу, гэта соль зямлі. Беларускі пясьняр, вышаўшы з гушч працоўных мас, перажыўшы рэволюцыю 1905 году, далёкі ад гэтай ілюзыі. У яго вершы „Песенька для некаторых маладых людзей“ выразна выяўляюцца крытычныя адносіны да інтэлігэнцыі; тут выступаюць тыпы інтэлігэнтаў, так сказаць, высокай кваліфікацыі - доктар, адвакат, інжынэр, судзьдзя. Для ўсіх іх характэрна тое, што яны, па думцы поэты, рана губляюць свой юнацкі ідэалізм і хутка зацягваюцца жыцьцёвым брудам пошласьці, павялічваючы сабой толькі кадры дармаедаў, якія эксплёатуюць працоўны люд. Поэта гаворыць:

Людзей маладых у нас дужа вучоных
Цяпер надта шмат разьвялося,
Праўд нейкіх шукаюць на сьвеце ня сьнёных,
Над бедным з іх кожны галосе,
Да працы да роўнай, да волі шырокай
Ахвочы крычаці, ўзываці.

Але гэты юнацкі парыў увысь ідэалу, рысуе поэта, адцьвітае, не пасьпеўшы расквеціцца: доктар бярэ з беднякоў рублі і паўрублёўкі, інжынэр будуе турму, вастрогі, судзьдзя асуджае на катаргу галодных людзей і г. д.

Гэтак у „Жалейцы“ Янка Купала выступае як народнік, але народнік sui generis, пазбаўлены некаторых ілюзій народніцтва. І адначасна беларускі пясьняр перажывае трагедыю ўсіх народнікаў; яго вабіць да сябе цэльнасьць сялянскай душы, прастата і нескладанасьць вясковага жыцьця, у абмежаванасьці патрэбаў ён імкнецца знайсьці задавальненьне. Некалькі разоў поэта малюе нам просты ідэал сялянскага жыцьця, які зводзіцца к сытасьці і матар'яльнаму дабрабыту:

Трэба нам, трэба, як ласкі з неба,
Лепшы даўжэйшы зямелькі шнурок,
Сытай скацінкі, новай хацінкі,
Каб красаваўся пры хатцы садок.
На сьвята скварку, часам і чарку,
Булкі і сыра гасьцей частаваць,
Цэлы адзетак, ксёнжак для дзетак.

(„Чаго нам трэба“).

Той-жа ідэал сялянскага жыцьця малюецца ў вершы „Як пайду я, пайду“ і ў творы „Адплата каханьня“ (сон Янкі). У дадзеных выпадках Купала як-бы зьліваецца з народнай душой, імкнецца паглядзець на жыцьцё вачыма селяніна; гэта свайго рода апрашчэньне ў думках; але яно не ўдаецца поэту. Сам ён далёка адышоў ад беспасярэднага сялянскага жыцьця, сам ён страціў цэльнасьць народнага сьветаадчуваньня, захоплены глыбокім і цяжкім задумленьнем, рэфлексыяй. Гэта рэфлексыя далёка адводзіць яго ад сялянскага прымітыву і тады ён кажа:

І шчасьце дым, і праўда дым.

Вельмі часта поэта аглядае жыцьцёвыя ідэалы sub specie aeternitatis. У вершы „Сьцёпка Жук“ ускрыта трагедыя жыцьця наогул: ба-

гацьце, сямейнае шчасьце, задавальненьне—усё гэта нішто, няпрыкметна падкрадваецца старасьць, а разам з ёю і магіла. У сьвятле смутных развагаў робіць поэта агляд розных эгоістычных мэтаў чалавечага жыцьця:

Мы гонімся часта за марай уладнай,
Катарая шчасьцем завецца,
Но трудна яе нам злавіці, ой трудна,
Хоць блізка тут, блізка здаецца...
Адным мара-шчасьцем завецца багацьце,
Што сьвеціцца грошай машонкай;
Другімі—парадак і згода ў хаце,
Іньмі—харошая жонка,
Той рвецца да славы, шырокай, вялікай,
Той—жыці нязнатна, як дзеці;
Той—песьняй азвацца нясвойскай і дзікай,
Той—родную думку запеці...
І роім у мысьлях так цэлымі днямі,
Но шчасьце ня роіцца ройна...
(„Шчасьце").

Гэтая рэфлексыя накідвае мрачны флер пэсымізму на думкі поэты.

Можа не арыгінальны асабліва гэтыя думкі, якія выказвае Янка Купала ў „Жалейцы", але за тое зборнік падкупляе нас сваёй шчырасьцю і беспасярэднасьцю; тут ня чуецца ніводнага фальшывага гуку, усе словы ідуць ад сэрца поэты; тут ён раскрывае уласныя раны сваёй душы, раны і балячкі свайго народу. У зборніку заўважваецца поўная адсутнасьць рыторыкі, фальшывай позы, гукі поэты чаруюць нас і вабяць сваёй прастатой і эмоцыянальнасьцю.

Пячатка той-жа беспасярэднасьці ляжыць і на форме зборніка, Верш Купалы ня дзівіць нас тут сваёй асаблівай бліскучасьцю і мілагучнасьцю, як у пазьнейшых зборніках. Але і тут ужо адчуваецца рука будучага майстра верша; Янка Купала прабуе тут усе клясычныя разьмеры мэтрыкі, але асабліва ўлюблёнымі яго мэтрамі зьяўляюцца харэй і ямб, што адпавядае разгаворнаму і напеўнаму характару яго мэлёдыкі.

Стылістычныя прыёмы гэтак сама не вызначаюцца асаблівай разнастайнасьцю. Маляўнічыя эпітэты трапляюцца рэдка, большаю часткаю яны носяць характар клішэ (чорная зямля, ясная зара, сохі-крывулі, курганы—сьведкі бітваў і г. д.). Сустракаюцца паасобныя прыклады кумуляцыі эмоцыяльных эпітэтаў („Над магілкамі"). Зрэдку сустракаюцца мэтафоры (зоркі ўсьміхаюцца, хмары ішлі і стагналі), абронены і паасобныя прыклады гіпэрбалы:

1) Як я з сошкай пайду,
Увесь сьвет накармлю; (5) [1])
2) Запейма хоць трошкі,
Каб сьвет аж затросься. (14).

Больш багатымі зьяўляюцца ў Янкі Купалы параўнаньні,—пераважна роўнаступянёвыя і конкрэтныя:

1) Бярозкі, як тычкі, стаяць. (3)
2) Сьвеце месяц, сьвеце,
Як дзюрка ў сярмязе. (25)

[1]) Цытаты прыводзяцца з „Жалейкі", выданьня 1908, у Пецярбурзе.

3) Стог стаіць, як пан
4) Сьвеце месяц, сьвеце,
Як лысіна ў пана (26)
5) Мароз, як кат бязжаласны,
У лед рэчкі скаваў. (34)
6) Сэрца, як ліськік на грушцы,
Трасецца... (77)
7) Стара-старая ліпа
Паважная, як свацьця. (81)
8) Як увойдзеш,—пры парозі
З гліны печ стаіць,—
На ўсю хату, як ураднік,
З падылба глядзіць. (17).

Так у Янкі Купалы заўжды конкрэтнае раўняецца з конкрэтным; мы знайшлі толькі адзін прыклад параўнаньня нісходзячага, калі абстрактнае раўняецца з конкрэтным:

Так горшыя думы адна за другою
Снуюцца ў тырана, як стада зімою
Ваўкоў згаладалых, нясытых ніколі,
Шукаючы жыру, валочуцца ў полі. (145)

Асабліва пашыранымі прыёмамі зьяўляюцца ў Янкі Купалы паралелізмы; яны сустракаюцца ў вялікай колькасьці; мы дамо толькі некаторыя прыклады іх:

1) Шумныя бярозы
Пабяліў мароз,—
Хацеў-бы я плакаць
Ды ня маю сьлёз. (7)
2) Сьвеце месяц, сьвеце,
З вечара да рана,
Арэ мужык поле
Не сваё, а пана. (22)
3) Верабейку стужа змора,
Альбо ястраб хваце,
Мяне-ж зломе маё гора,
У зямлю укіне спаці. (64)
4) Жутка стогнуць рэкі
Ўзбураны вясною;
Плачуць мае песьні,
Галосяць са мною. (42).
5) Ня гудзі так восень,
Непагодай дзікай,
Ня крываўся, сэрца,
З нядолі вялікай. (33)

Заўважваецца ў песьняра гэтак сама і некаторы нахіл да алегорыі і сымболікі. Асабліва багата сымболікай абмалёўка рэвалюцыі і зьявіўшайся на зьмену ёй рэакцыі. Рэвалюцыя малюецца ў вобразе вясны:

Вясна, сонце узыходзе,
Сьвеце на зямлі;
Дух збудзіўся у народзе,—
Усталі, пашлі...
Няхай тыя уставаюць
Рана да зары,
Што свабодачку кахаюць,—
А ты, браце, сьпі...

(„А ты, браце, сьпі").

Другім сымболем рэвалюцыі зьяўляецца ў поэты касьба:

Дружна ідзі, бедны люд, калі сонца к касьбе
Заве з неба, ды голадам мучышся ты.
Рэж траву, дабывай долю сілай сабе.
(„Касьба").

Наадварот, зіма бярэцца, як сымбаль уціску і прыгнечаньня:

Цярпі, зямелька родная,
Німа жыцьця, німа.
Цярпі, старонка родная,
Мучэньня пій да дна,
Міне зіма нягодная,
І ўскрэсьне зноў вясна.
(„Зіма").

Вобразы народнай фантастыкі пад пяром Янкі Купалы набываюць значэньне соцыяльных злыдняў:

Ведзьмы, чэрці з таго сьвету,
Пан, чыноўнік, ваўкалакі,
Усе навыперадкі пруцца,
Гікам, сьмехам чартоўскім
Заліліся і нясуцца.
(„З песьняў аб мужыцкім горы").

Сустракаем вельмі часта і вобразы, узятыя з абстаноўкі вясковага побыту: лапаць—сымбаль беднасьці, хата, у якую заходзіць падарожнік—Беларусь, статак—полк, сявец—грамадзкі і культурны дзеяч.

Часам у поэты алегорычнасьць набывае характар эзопаўскай мовы. Гэтак, напр., у вельмі захованых вобразах-найменьнях малюе Купала разбушаваўшуюся стыхію рэакцыі:

Мяцеліцы нашу айчызну зглушылі;
Найлепшых авечак уносяць зьвяры;
Жыцьцё тут заціхшы, як сон у магіле.
(Беларускай выдаўніцкай суполцы
„Загляне сонца і ў нашаваконца").

Зроблены намі кароткі аналіз стылістычных прыёмаў Янкі Купалы ў яго першым зборніку дае нам вельмі каштоўныя вывады псыхолёгічнага і соцыялёгічнага характару.

У Янкі Купалы пераважае конкрэтнае мышленьне, палёт фантазыі пакуль што яшчэ ня высокі; знадворны сьвет беларускі поэта ўспрымае галоўным чынам як сьвет ліній і фарбаў; вобразы яго маюць конкрэтна ашчуповы характар; большаю часткаю гэтыя вобразы вытрыманы ў стылю і духу народнае творчасьці (паралелізмы, сымболіка), крыніцамі іх зьяўляюцца абстаноўка вясковага побыту. Гэткім чынам у „Жалейцы" адчыняецца цесная сувязь тэматыкі і поэтыкі: Янка Купала выступае тут пераважна, як сялянскі поэта, пясьняр беларускай вёскі.

Другая плынь, якая бярэ свой пачатак у вытоках лірыкі Янкі Купалы, гэта зборнік „Гусьляр". Усяго два гады аддзяляе гэты зборнік ад першага (1908-1910), але за гэты кароткі пэрыод утварыліся некаторыя зьмены ў пэражываньнях поэты і ў кірунку яго творчасьці. У „Жалейцы" пераважае момант об'ектыўны. Патос гэтага зборніку соцыяльны. Мы бачылі, як грунтоўна і шырока імкнецца там поэта абхапіць стан сялянства; тэма соцыяльнага ўціску і нацыянальнага прыгнечаньня чырвонаю пасмаю праходзіць праз увесь зборнік; вельмі частае спыненьне на гэтай тэме робіць нават уражаньне некаторай

аднастайнасьці. У „Гусьляры“ на першы плян высоўваецца момант суб'ектыўны; тут паглыбляюцца ўласныя перажываньні поэты, ён імкнецца глыбей асазнаць сваё „я“ і дае нам з гэтай прычыны песьні лірычныя, ва ўласным сэнсе гэтага слова.

Досыць багата прадстаўлена тут лірыка эмоцыяльная. Смутак, як і раней, уяўляе сабою агульны фон перажываньняў поэты; з грудзёў яго вырываецца хваравіты енк:

Смутна мне, божа.—Куды я ня гляну,
Куды ня мчуся з маркотнай душою,
Бачу, што шчасьця зары не дастану,
Бачу, што вечна ня знаць мне спакою.

(„Смутна мне, божа“).

Зноў усплываюць тут матыў адзіноцтва і матыў каханьня, якое часам асьвятляе гэтую цемру адзіноцтва; ня новымі зьяўляюцца тут і настрой разлада паміж ідэалам і дзейснасьцю.

Неяк нясьмела, палахліва прасякаюць тут у лірыку Янкі Купалы мотывы анакрэонтычныя,—заклік да пацехі і забавы. Ужо ў „Жалейцы“ мы знаходзім прызнаньне поэты:

І шчасьце—дым, і праўда—дым,
А клёк—гульня, пахмельле.

Гэтае прызнаньне больш падрабязна разгарнаецца ў вершы „Бяседа“, дзе мы сустракаем такі заклік:

Годзі маркоціцца, хлопцы, дзяўчаты.
Дружна падходзьце к сталу, во сюды.
Будзем гуляці; шынкар наш багаты
Дасьць чым пацешыцца, дасьць, як вады.

Але гэта не радасны заклік да вясельля і забавы радзі самога вясельля і забавы, якія мы знаходзім у Анакрэона, Горацыя, у застольных песьнях Пушкіна, Бацюшкава і інш. Прыпомнім, напр., як Бацюшкаў выражае свой жыцьцё радасны, навеяны антычнасьцю ідэал жыцьця:

Когда жизнь наша скоротечна,
Когда и радость здесь не вечна,
То лучше в жизни петь, плясать
И мудрость с шутками мешать.

Янка Купала далёкі ад гэтага супакойнага ідэалу антычнасьці. У закліках беларускага песьняра да забавы адчуваецца хваравіты надрыў Івана Карамазава з яго замілаваньнем да клейскіх лісточкаў веснавых і пякельным разладам у сэрцы. Вясельле і забава для поэты толькі сродак пазбыцца жыцьцёвай пакуты. Анэкрэонтычны заклік да вясельля пераходзіць у яго ў сумны матыў аб чарцы, у якой заліваюць гора. Пясьняр, заклікаючы да забавы, дадае:

Сэрцы дрыжаць нашы кроўю абліты,
Грудзі пылаюць змучэньня агнём,
Рукі змазолены, дух наш прыбіты;
Гэй-жа! Усё гэта атрутай зальём.

(„Бяседа“).

Гэта знаёмы нам ужо з „Жалейкі“ матыў аб гарэлцы, які разгорнут у вершы „З гора ды з бяды“.

Эмоцыянальная лірыка індывідуальных перажываньняў не дае нам, такім чынам, у „Гусьляры“ новых у параўнаньні з „Жалейкай“ матываў.

Агульны фон яе, як і раней, застаецца сумны, сатканы з мэлянхоліяй, з ціхага задумленьня аўтара над сваёй адзінокай доляй.

Больш цікава тут разумовая, філёзофская лірыка „Гусьляра“.

Элемэнты філёзофскай рэфлэксыі мы знаходзілі і ў „Жалейцы“, але там гэта паасобныя штрыхі пэсымізму, якія не даюць нам цэльнага прадстаўленьня аб сьветапоглядзе поэты. У „Гусьляры“ заўважваецца спроба шчыльна падыйсьці да разьвязваньня розных, гэтак званых, праклятых пытаньняў. Поэта зазначае свой асаблівы нахіл да задумленьня. Ён кажа:

Мае думкі, быццам кумкі,
Назаляцца любяць мне,
То стыдліва, то пужліва,
Тая ў яве, тая ў сьне.
Тая плачэ, тая скачэ,
Тая песенькі пяе;
Як зазюлькі, аздабулькі,
Думкі родныя мае.

(„Мае думкі“).

У сваіх думках поэта выяўляе імкненьне абхапіць увесь космос, ён жадае на скрыдлах сваёй мысьлі падняцца высока над зямлёй і прасякнуць у жыцьцё нават нябесных сфэр; поэта кажа:

Птушкай-бы ляцеў, ляцеў
Весела разгонна,
Па-над хатку, па над хлеў,
Па-над бор зялёны.
Эх, ляцеў-бы глянуць, чуць
Неба сіне мора,
Як гуляюць, як жывуць
Сонца, месяц, зоры.

(„Думка“).

У такіх імкненьнях вызначаецца напружаная праца мысьлі, жаданьне разабрацца ў розных філёзофскіх проблемах. Часткаю поэта знаёміць нас з вынікамі працы, з тымі адказамі, якія даваліся ім на філёзофскія пытаньні. У „Гусьляры“, напрыклад, выразна выяўляецца пэсымістычная філёзофія агностыцызма; поэта зазначае:

Нязнанай сілай праве сьветам
Пачатак, бытнасьць і канец.

Для поэты ўвесь сьвет—гэта толькі бязьмежная арэна нараджэньня, існаваньня і сьмерці; сіла, якая кіруе гэтым процэсам, нязнана.

Побач з некаторымі адзнакамі агностыцызма ў Янкі Купалы выяўляецца ідэя хаоса, як сутнасьці рэчаў, і ідэя колазварота.

Ідэя хаоса выразна выступае ў вершы „Зьнямога“, дзе поэта гавора:

Безнадзейна, бястрывожна,
Ціха, зважна, асьцярожна
*Хаос* гнёзды ўе свае,
Варэ зельля-калуту,
Пое, зводзе князя-духа,
Перадыху не дае.

Для поэты, такім чынам, разгул хаоса, стыхійных сіл уяўляе сабой падставу космоса; князь-дух, разумны прынцып, ён сам на паваду ў хаоса, у стыхіі.

Думкі Янкі Купалы здалёка нагадуюць вядомыя мотывы поэзіі Цютчэва, які зьяўляецца пераважна песьняром хаоса, які, напрыклад, зварачаецца да ветра з такімі словамі:

О, страшных песен сих не пой
Про древний хаос, про родимый!
Как жадно мир души ночной
Внимает повести любимой!
Из смертной рвется он груди
И с беспредельным жаждет слиться.
О, бурь заснувших не буди,—
Под ними хаос шевелится.

Ідэя колазвароту рэчаў выяўлена ў Купалы ў вершы „За годам год“, дзе зазначаецца:

За годам год, за родам род,
Што хвалі хмар, што песьні вод,
Па зьменах зьмен, на ўсход, на сход
За родам род, за годам год.
    На ўсход, на сход ідзе-брыдзе.
    У чарах-снах, у злыбядзе..
    Канца ні ў чом, канца нідзе,
    На ўсход, на сход брыдзе-ідзе.

Гэта ідэя колазварота рэчаў пашыраецца поэтай і на гісторыю; у гістарычнай дзейснасьці ён ня бачыць паступовасьці, а заўважае толькі кругаварот; у вершы пад тэй-жа назвай поэта кажа:

Нічога вечнага на сьвеце
Німа для сумнага жыцьця,
Здарэньня, многія сталецьця,
Ідуць пад века забыцьця.
    Устае рой новых пакаленьняў;
    Старыя сходзяць на той сьвет;
    Нягодны ўнуку ўжо тварэньня,
    Якія меў на ўслугах дзед.
Марнеюць сільныя народы;
Бяруць слабейшыя гару;
Ненавісьць, бітвы, непагоды
Туманяць радасьці зару.

Калі сьвет і гісторыя—арэна зьніштажэньня, то сьмерць, значыць, адвечны ўладар жыцьця. Думка поэты некалькі разоў зварачаецца да гэтай сумнай тэмы. У „Жалейцы“ сьмерць рысуецца ў пэўнай соцыяльнай абстаноўцы, у „Гусьляры“ яна пераважна бярэцца, як об'ект філёзофскіх развагаў. Поэта з вялікім смуткам зазначае:

О, сьмерць, хто дзе цябе асіліў?
Ня ішоў, ня зьлёг пад курганом?
Ідуць усе, і я за ўсімі
Сыйду з нудой, бядой сваёй.
Так цяжка жыць паміж жывымі!
У магіле будзе, мо' лягчэй.

(„На могілках“).

Нават з каханьнем злучаецца ў поэты думка аб сьмерці, і сваёй дзяўчынцы ён гавора:

Ціха ў пасьцелі ляжам жвіровай;
Крыж нам пастаўлюць белы, яловы,
Насып абложуць дзярнінкай;
Буры жыцьця мне слоў не скупілі;
Гэткі-ж спакой у цёмнай магіле,
Ды і з табою дзяўчынка!
(„Дзяўчынцы").

Перад тварам сьмерці, перад гэтым жудасным малюнкам разбурэньня і зьніштажэньня поэта шукае паратунку ў мастацтве. У творах, дзе выяўляецца творчая самасьвядомасьць аўтара, заўважваецца больш бадзёры настрой.

У „Жалейцы" пераважна падкрэсьліваецца стыхійны характар творчасьці, у „Гусьляры" выяўляецца імкненьне філёзофскі асмысьліць задачы і мэты творчасьці. Поэзія прадстае перад Янкай Купалай, як вялікая об'ектыўная сіла. У вялікім захапленьні ад сузнаньня гэтай сілы поэта зазначае:

Моц сваю сьвету пакажам...
Зьдзіўляюцца старцы і дзеці:
Што знача песьня і сіла!
Што знача вельмі хацеці!
(„Песьня і сіла").

Але песьня мае моц пры ўмове выразу ў ёй пэўнага ідэалу; поэта напружана шукае гэтага ідэалу; ён праясьняе свае задачы мастака; ён разьвязвае філёзофскія проблемы аб сутнасьці дзейснасьці і аб сэнсе гісторыі. Як-бы падводзячы агульны сынтэз гэтаму шуканьню ідэала, поэта гавора:

Сьцежку хутчэй ідэалу!
Квецься, палай, хараство
Куйся, зарнічная хвала,
Вечная радасьць, дабро.
(„Жальцеся, жалкія струны")

Акрылены гэткім парывам да ідэалу, поэта адчувае сваю моц. Гэта ўжо не верабейка з-пад Гайны; выступаюць ужо іншыя вобразы, у якіх зазначаецца сутнасьць поэтычнага вобліку песьняра. Поэта, напрыклад, раўняе сябе з ветрам і сокалам, кажучы:

І вецер, і сокал, і я—
Сыны аднэй долі, жыцьця,
Наводзім маркотныя мы
І думы, песьні адны.
(„І вецер, і сокал, і я").

Толькі ў імкненьні да сонца і зораў поэта знаходзіць сваё прызваньне. Прасякнутая вышэйшым ідэалам, песьня для яго прадстаўляе самае каштоўнае ў жыцьці; яна выводзіць поэту з жыцьцёвай тхлані („Сон"); песьня для яго вышэйшая ўцеха; яна, нарэшце, ня ўмірушча („Памяці Шэўчэнкі").

„Гусьляр", такім чынам—пераважна філёзофскі зборнік. Тут вызначаецца спроба разабрацца ў розных пытаньнях чалавечага жыцьця, выяўляецца імкненьне асмысьліць задачы і мэты мастацтва.

Нахіл да філёзофскай рэфлексіі адбіваецца ў дадзеным зборніку і на об'ектыўных мотывах лірыкі песьняра. З аднаго боку, тут выступае яшчэ манера „Жалейкі": зарысоўваюцца паасобныя абразкі і малюнкі жыцьця, часта ўзятыя ў трагічным аспэкце. Але побач з гэтай старой манерай выяўляецца і новая. Янка Купала выражае ў да-

дзеным зборніку імкненьне абхапіць усё жыцьцё чалавека ў цэлым, агледзіць гэта жыцьцё з вышыні ідэалу. Адсюль узьнікае ў лірыцы Янкі Купалы надзвычайна цікавы прыём схэматызацыі. Жыцьцё як-бы вылушчваецца з пэўных рамак побыту і разглядаецца пераважна, як філёзофская абстракцыя і катэгорыя. Так, напрыклад, у вершы „З песен жыцьця“ абмалёўваецца ўсё жыцьцё чалавека ад калыскі да магілы; той-жа прыём мы бачым і ў вершы „Над калыскай“.

У нацыянальных мотывах лірыкі Янкі Купалы гэтак сама заўважваецца некаторы ўплыў рэфлексыі і цяжкога задумленьня. У дадзенай галіне мы часткаю знаходзім абразкі ў стылю і напрамку „Жалейкі“: напрыклад, выяўляецца замілаваньне да айчыны, выказваецца пекная рамантыка мінулага, але і тут філёзофскі аналіз разбурвае гэту рамантыку, і мінуўшчына Беларусі прадстае тады перад поэтай у сваім смутным выглядзе: Ён кажа:

Мы ня жылі, як жывуць людзі,
Гасьцінцам шчасьця не схадзілі,
Не знали ўцехі нашы грудзі,
Вянкоў мы славы не насілі.
Мы ў паніжэньні, ў вечным трудзе,
З днём кожным слабшія па сіле,
Бясцэльна па калючай грудзе
Блудзілі, горасна блудзілі.

(„Наша мінуўшчына“).

Эстэтызм зьяўляўся для поэты адзіным кутком, у якім ён шукаў збаўленьня ад сваіх цяжкіх развагаў. Адсюль узьнікае, як мы бачылі вышэй, высокая роля песьні для мастака, адсюль у зборніку „Гусьляр“ больш мейсца адводзіцца і прыродзе. У „Жалейцы“ прырода пераважна прадстаўляе сабою фон, на якім разгарнаюцца розныя соцыяльныя малюнкі; у „Гусьляры“ прырода зьяўляецца ўжо самастойнай крыніцай натхненьня песьняра. Янка Купала мастацкі абрысоўвае нам розныя поры году; у гэтых зарысоўках ён узвышаецца да пекнай плястыкі вобразаў. Напрыклад, вясна выступае ў яго ў выглядзе прыгожай дзяўчыны:

Ў вянку з пралесак,
У сьветлянай шаце
Ходзе борам-лесам,
Полем, сенажацяй.
Сонцу-яснагрэю
Расплятае косы,
Раніцамі сее,
Як брылянты, росы...
І усюдах гэтак—
Полем, сенажацяй,
У кароне з кветак,
У сьветлянай шаце:

Наогул, у зборніку „Гусьляр“ вызначаецца трапная мэтафарычнасьць стылю. Мы сустракаем тут увасабленьні адцягненых паняцьцяў: думкі поэты плачуць, скачуць, сьпяваюць песенкі, год выступае, як жывая істота. Побач з тым у зборніку „Гусьляр“ разгарнаецца пекная сымболіка. Сонца, напрыклад, бярэцца, як шырокі сымболь ідэалу; такое-ж значэньне надаецца і зорам; сокал і вецер—гэта сымболі поэты і яго творчасьці; крыж—сымболь пакуты; хата—сымболь сялянства і ўсёй Беларусі. З дадзенай сымболікай злучаецца прыём алегорыі. Напрыклад, у вершы „Сон“ поэта ў алегорычнай форме малюе нам уласны стан душы:

Я лесам шоў; якаясь змора
Вяла па ім мой сьпячы дух,
А лес быў цёмны, як дно мора,
Як мора дно быў нем і глух,
Я заблудзіў і страшна стала
Мне ў гэтай пушчы аднаму;
Ды бурай неба разгатала...
І ўздумаў я: памру вазьму!

І падобна таму, як Данте з цёмнага лесу блуканьняў выводзіць Віргілі, так і беларускага песьняра з яго цёмнага леса сумленьня выводзіць песьня. Настрой поэты істотна зьмяняецца пад уплывам песьні:

І дзіва! блуд і страх мой зломан:
Лес прасьвятлеў, загаманіў,
Мне стаў панятен пушчы гоман...
Тут я збудзіўся, не дасьніў.

Мы сустракаем у Янкі Купалы і фігуры пераварочаньня. Напрыклад, у вершы „Шчасьлівасьць“ поэта выражае такое жаданьне:

Мець-бы мне крыльля саколія,
Мець-бы мне волю зарніцаў,
К нізам не рваўся-б ніколі я,
З высі-б глядзеў на зямліцу.

Эпітэты „Гусьляра“ ў параўнаньні з „Жалейкай“, наадворот, параўнальна мала ўносяць новага; як і раней, яны вызначаюцца сваёй канкрэтнасьцю: месяц--лежабока (44) сонца-яснагрэйка (47); кусты калматыя (70); загоны шырокія (45); барозны роўныя і г. д.

Параўнаньні гэтак сама вызначаюцца конкрэтнасьцю; гэта пераважна роўнаступянёвыя параўнаньні. Напрыклад:

1) Як звон гусьляў звонкіх,
Як арол на скале,
Голас ваш свабодны,
Голас ваш, як сталь. (24)
2) Горда мур глядзеў
На зямлю, як леў. (61)
3) Як катух ля кур,
Дрэмле пусткай мур. (61)
4) Дажджу каплі, як сьлёзы, льлюцца. (71)
5) Гінем, як крыгі, у разводзьдзе. (73)

Толькі ў двох выпадках сустракаем мы адступленьне ад гэтай звычайнай для Купалы сыстэмы роўнаступянёвых параўнаньняў. Мы маем наступнае ўсходзячае параўнаньне:

Шуміць пушча, шуміць важна
На усе староны,
Быццам хоча заглушыці
Ўсе няшчасных стоны;
Быццам хоча сказаць сьвету
Дзерава лясное,
Як ідзе несправядліва
Ў нас жыцьцё людзкое.

Другі прыклад нісходзячага параўнаньня:

Скажыце мне, думкі,
Гора весялушкі,
Чаго вы прыціхлі,
Як у восень птушкі? (23)

Шырока карыстаецца Янка Купала адмоўнымі параўнаньнямі:

1) Не на рэчцы лялее вадзіцца,
І не явар калыша лістком,—
Гэта кроў маладая бурліцца,
Гэта сэрца пайшло хадуном. (36)
2) Не груган над ахвярай шыбуе,
Несхаваную высачыў косьць,
К праўдзе ўвагі не знае, ня чуе,
Як зьмея, чалавечая злосьць. (37)
3) Не жалейка іграе
Пад ляском за вёскай,
Не вятрок хістае
Беленькай бярозкай;
Дзевачка нябожа
Уздыхае, плача
Па сваім прыгожым,
Па жыцьці бедачым. (39)
4. Не дубы скрыпяць
Сукам, лісьцямі,—
Два байцы-сьмяльцы
Ненавісьцямі.
І пайшлі ім так
Дні няшчасныя,
Пачалі з сабой
Бойку страшную. (66)

У духу народнай творчасьці рознастайна прадстаўлены ў зборніку „Гусьляр" паралелізмы, напрыклад:

1) Цяжка ў час буры сасонцы хістаціся,
Коласу зімку праводзіці ў полі,
Цяжка са шчасьцейкам быць і растаціся—
Цяжэй-жа шчасьця ня знаці ніколі. (26)
2) Было гэта вясною,
Клаў гняздо верабейка;
На лугу на зялёным
Шчасна іграла жалейка. (39)

Паралелізмы ўжываюцца ў Янкі Купалы ня толькі як стылістычны прыём; часта яны разгарнаюцца ў пэўны прыём композыцыі: цэлыя вершы будуюцца ў Янкі Купалы на падставе паралелізму („Голуб і дзяцюк", „Было гэта" і іншае).

На грунце шырокага карыстаньня адмоўнымі параўнаньнямі і паралелізмамі вырастае ў Янкі Купалы прыём стылізацыі, падробкі пад народныя песьні. Напрыклад, яго верш „Два браты" цалком вытрыманы ў духу народнай творчасьці:

Былі два браты,
Два разбойнікі;
Шмат рабілі зла,
Неспакойнікі.




БИБЛИОТЕКА
10209

05

Як пайдуць гуляць,
Расхахолюцца,
Задрыжаць усе,
Ўся аколіца.
Ні прайці нідзе,
Ні праехаці;
Б'юць паклоны ім
Людзі нехаця.
Сіла-воля іх
Не ўнімаецца,
Гонар-слава іх
Разрастаецца.

Побач з падробкамі пад стыль старой беларускай песьні, мы сустракаем у Янкі Купалы насьледаваньне і дрындушкам, гэтым народным песьням новай фармацыі. Напрыклад:

1) Плыве рэчачка далінкай,
Рыбак шмат у ёй.
Пакахай мяне дзяўчынка,
Як рыбкі ручэй!
Без вадзіцы-бы ніколі
Рыбкі не жылі;
Без каханьня, шчасьця, долі
Няма на зямлі. (42)

2) Бяжыць шыбка ручаінка
Па жвіровым дне;
Жыве ў вёсацце дзяўчынка,
Ўпадобнае мне.
У ручаінцэ днём і ночай
Вадзіца бурліць;
У дзяўчынкі гараць вочы,
Кроў кіпіць, кіпіць. (43)

Аналіз матываў і фармальных прыёмаў у зборніку „Гусьляр" паказвае бясспрэчную паступовасьць яго на творчым шляху. У параўнаньні з „Жалейкай" у „Гусьляры" заўважваецца больш шырокі дыяпазон творчасьці і больш разнастайныя фармальныя прыёмы. Некалькі іншай робіцца тут і эмоцыянальная афарбоўка, заўважваецца, побач з настроямі смутку, і больш бадзёры настрой; мацнее творчая самасьвядомасьць поэты, вырастаюць яго магутныя скрыдлы. Гэта ўжо не верабейка, які скромна чырыкае з-пад Гайны, гэта зоркавокі сокал, песьні якога—вецер і сіла. І мы бачым, як па меры вызваленьня ад стану маральнай дэпрэсыі, робяцца больш разнастайнымі і фармальныя прыёмы яго творчасьці: фантазія поэты робіцца больш багатай, узьнікае трапная мэтафарычнасьць стылю, зьяўляюцца адмоўныя параўнаньні, стылізацыя і г. д.

Узятыя ў цэлым зборнікі „Жалейка" і „Гусьляр", гэтыя вытокі творчасьці беларускага песьняра, выяўляюць нам істотныя адзнакі яго музы. Янка Купала прадстае перад намі тут у дваістым пляне: з аднаго бока, гэта народны трыбун, які абуджае соцыяльную і нацыянальную сьвядомасьць роднага народу і, з другога боку, гэта тонкі мастак душэўных дысанансаў і разнастайных суб'ектыўных перажываньняў; у творчасьці Янкі Купалы ўжо ў першых яго зборніках, такім чынам, выяўляюцца дзьве плыні— грамадзкая і індывідуалістычная. Гэтыя дзьве плыні маюць сваёй крыніцай політычна-соцыяльную

дзейснасьць, сярод якой жыў і выхоўваўся поэта. Рэволюцыя 1905 г., магутны ўзрух працоўных мас, нашаніўская пара—усё гэта дало Янку Купале асноўныя тэмы, асноўныя грамадзкія настроі яго творчасьці. Некаторы індывідуалізм поэты мае свае карэньні ва ўмовах клясавага пахаджэньня песьняра. Сын дробнага працоўнага арандатара, Купала цесна зьвязан з сялянскай гаспадаркай, усё яго маленства і юнацтва прайшло ў цяжкай працы земляроба. „Сяляне працуюць кожны на сваім палетку, кажа М. М. Пакроўскі, параўнальна рэдка дапамагаюць адзін другому, а калі прадаюць вырабы сваёй зямлі, тады ўжо зьяўляюцца супэрнікамі адзін другому. З гэтай прычыны ў селяніна не магла разьвіцца салідарнасьць“.

Апроч социяльна-эканамічнага фактора, разьвіцьцё індывідуалістычных настрояў у Купалы выклікалася і політычна-гістарычнымі акалічнасьцямі царскай рэакцыі, у багне якой прышлося выступаць поэце на літаратурнай ніве. Назіраецца агульны-социяльны закон, што калі рэчаіснасьць не адпавядае ідэалам мастака, то ён адыходзіць ад яе ў глыб сваіх уласных індывідуальных перажываньняў. Дзейства гэтага закону асабліва выяўляецца на сучасных Янку Купале расійскіх поэтах і пісьменьніках. Так, Андрэй Белы заблытваецца ў непраходнай ўхлані містыкі, Бальмант сам сабою „забавляется и развлекается“, Фёдар Салагуб будуе сваю тэорыю „творимой легенды“, Арцыбашаў і Анатоль Каменскі смакуюць палавую праблему, нават Валеры Брусаў і той аддаў належны падатак часу. У параўнаньні з музай гэтых прадстаўнікоў расійскага Парнасу муза нашага беларускага песьняра зьяўляецца больш здаровай; Янка Купала ніколі не даходзіць да ўскрайняга індывідуалізму, у яго мы хутчэй спатыкаем сінтэз індывідуалізму і грамадзкасьці.

72138

**Проф. М. М. Піотуховіч.**

# Поэтычнае сьветаадчуваньне ў творчасьці Якуба Коласа.

У кожнага буйнага мастака ёсьць свой вобраз сьвету, ёсьць свая сыстэма сьветаадчуваньня. Для адных, як скажам, для сучасных пролетарскіх поэтаў, сьвет—гэта арэна барацьбы, арэна катаклізмаў і магутных ўзрухаў, для другіх, як, напрыклад, Гётэ, ён, наадварот, арэна бязупыннай і бязьмежнай эвалюцыі. Оптымістыя бачаць навокал сябе le double jardin—падвойны сад радасьцяй духоўных і фізычных; пэсімістыя, наадварот, успрыймаюць сьвет, як турму, у якой невядомы кат зьдзекуецца над чалавекам; для сатырыка сьвет—гэта шпіталь альбо вар'яцкі дом, у якім крыўляюцца агідныя і брыдкія маскі.

Так кожны поэта па-свойму ацэньвае акаляючую рэчаістасьць; у кожнага дзейснасьць, якую ён будуе ў сваёй творчасьці, ёсьць ня што іншае, як проэкцыя яго ўнутранога „я“ ў знадворны сьвет.

Нам і хацелася-б прасачыць, як гэта праблема ацэнкі разьвязваецца ў Якуба Коласа на яго творчым шляху.

У адным мейсцы сваёй поэмы „Сымон музыка“ беларускі поэта зазначае:

У падножжы лясных шатаў,
Дзе каліна расьцьвіла,
Лягла пышна і багата
Тканка *цені і сьвятла.*

Сама творчасьць песьняра ня што іншае, як пышная і багатая тканка цені і сьвятла. Мы убачым, што абодвы гэтыя пачаткі ёсьць вынік рознай ацэнкі паэтай дзейнасьці, розных адносінаў да яе.

Распачынае Якуб Колас з сумных песьняў. Першы яго зборнік, які вышаў у 1910 г., так і называецца „Песьні жальбы“. Ужо самая назва добра характарызуе творы, зьмешчаныя ў гэтым зборніку; сапраўды, у першых песьнях поэты выяўляюцца скаргі і енк; у іх ясскрава выступаюць настроі гамлетызма. Паэту давіць цяжар думак; ён аплаквае раньняе адцьвітаньне надзей, юнацтва; ён скардзіцца на сваё адзіноцтва. У жалобную вопратку апранаецца песьняром і прырода; у гэтай прыродзе ён бачыць толькі вобразы пакуты; поэта, напрыклад, зазначае:

Я ня знаю, чым мне дораг
Від палёў благенькіх,
Нудны воклік ў родных горах,
Вербаў рад крывенькіх;
Лесу гоман, гул нястройны,
Шум лазы ў балоце
І нудлівы, неспакойны
Шэлест у чароце.

У першым зборніку выступае шэры аднастайны пэйзаж; занатоўваюцца сумна-элегічныя вобразы, якія выклікаюць адпаведны настрой аўтара. Напрыклад, рысуючы адлёт жураўлёў, поэта як-бы адчувае згубу чагосьці роднага; у васеньнім дажджу чуюцца яму сьлёзы; пад шум ветра ён жадае плакаць. Усё забытае, адзінокае асабліва вабіць да сябе песьняра. Жытні колас, застаўлены на ніве, адзінокая краска, прытуліўшаяся на турэмным двары, пахіліўшаяся над вадой вярбіна, пад пяром Якуба Коласа разрастаюцца ў шырокія сымболі духоўнага адзіноцтва і сіроцтва. У тон такім жалобным настроям узьнікаюць і адпаведныя сумныя малюнкі жыцьця. Мы бачым гэту бедную вёску з яе цесна зьбіўшыміся і пахіліўшыміся на бок хатамі, з яе брудам і пылам; поэта зарысоўвае нам смутныя вясковыя могілкі з іх цішынёю і супакоем; ён спыняе сваю ўвагу на малюнку вясковых хаўтур: нудны звон, жабрачая труна, аднастайнае прычытаньне дзяка— гэтыя сумныя акалічнасьці вясковых хаўтур старанна зарысоўваюцца поэтай,

Так, у першым зборніку „Песьні жальбы“ пераважаюць хаўтурныя мэлёдыі смутку і мэланхоліі; тут чуецца сумная песьня пакуты.

У зборніку „Водгульле“, які вышаў у 1922 г., зьмешчаны вершы дарэволюцыйныя і пасьлярэволюцыйныя. У вершах ранейшых, датаваных 1910 г. і іншымі, выступаюць настроі, ужо вядомыя нам па песьнях жальбы. Але адначасна ёсьць і некаторыя далейшыя паглыбленьні і разьвіцьцё гэтых настрояў; тут выступае акрэсьленая сыстэма філёзофскага пэсымізму аўтара; беспрадметны сум і мэланхолія першага зборніка ўступаюць тут мейсца пэўным поглядам, якія, відаць, былі глыбока прадуманы і вынашаны ў душы поэты. Песьняр, як-бы робіць пераацэнку розных каштоўнасьцяй чалавечага жыцьця. Такая пераацэнка, напрыклад, даецца ім у вершы „Раздум'е“ (1910 г.). Самае каштоўнае ў жыцьці чалавека, гэта мысьль, але трагедыя мысьлі ў тым заключаецца, што яна часам бясьследна гіне, не пакідае вынікаў; думка часам падобна хмаркам, якія зьяўляюцца і таюць на небе; падобна таму, як хмаркі

По небе бясплодныя ходзяць,
Глухія на плач збажыны,
І мысьлі тож часта бяз сьледу праходзяць,
Таксама зьнікаюць яны.

Другая каштоўнасьць—хараство, але і яно асуджана на зьнішчажэньне і бясплоднае гібеньне. Хараство падобна жыватворчаму пылу, які падымаецца над закрасаваўшым збожжам, любоўна цалуе калосьсі і потым разьвяваецца злосна падняўшымся ветрам:

У жыцьцю часьцютка ня мала гібее
Такой жыватворчай красы.

Што можа быць далей больш каштоўным, чым моладасьць, але і яна хуткабежна, яна, што лісьці на стагоднім дрэве:

. . . . . . Раскошна галіны
У зелень убрала вясна,
І горда гамоняць яго верхавіны,
І радасьць ў тэй мове чутна.
А восень надыдзе, і лісьцік жалобна
На землю, пажоўклы, спадзе.
І моладасьць наша тым лісьцям падобна:
Як лісьце, яна адцьвіце.

Чалавек, наогул, з усімі яго імкненьнямі, каштоўнасьцямі, ідэаламі—істота адзінага дню. Поэта кажа:

І ты, чалавеча, як сьнег той ў адлігу:
Упаў і сканаў, і няма.
З трывогай глядзіш ты ў адвечную кнігу,
І душу агортвае цьма.

Так, у вершы „Раздум'е“ у пекнай форме, на падставе паралелізму паміж зьявамі прыроды і зьявамі чалавечага жыцьця, выяўлены пэсымістычныя філёзофскія думкі поэты. У іншых вершах як-бы прадоўжваецца гэтая пераацэнка агульных каштоўнасьцяй. Значнай каштоўнасьцю жыцьця зьяўляецца каханьне, якое дае вялікую асалоду чалавеку. Але і яно мае свой трагічны воблік, які выступае ў алегорычным вершы „Вярба“... Маладая вярбіна злучылася і зраднілася з ручаёчкам, але ў гэтай злучнасьці яна знайшла сабе зьніштажэньне і на пытаньне аб прычынах сваёй журбы, яна дае адказ:

Маладасьць сваю я
Марне загубіла...
Ох, на што так шчыра
Я цябе любіла?—

Далей, дабро і зло—гэта тыя полюсы, паміж якімі разгарнаецца гістарычная дзейснасьць. Што пераважае сабою з гэтых абодвых прынцыпаў, што зьяўляецца больш жывучым у памяці людзей? Сумны адказ на гэта пытаньне даецца ў вершы „Пад Новы год“ (1914 г.), які таксама вытрыман у алегорычнай форме... На рубяжы двох гадоў сходзяцца цені старога і новага году; адзін адходзіць у прошласьць, другі толькі зараджаецца, і вось паміж імі завязваецца спрэчка аб дабры і зьле. Навучаны горкім вопытам, стары год выяўляе скэптыцызм; новы год, наадварот, поўны юнацкага захапленьня, веры ў дабро. І як-бы дзеля навочнай ілюстрацыі гэтай спрэчкі выходзяць з глыбіні гадоў цені прошласьці; годы злыя і добрыя разьдзяліліся:

Годы з напісам Чырвоным
Ўсе асобна сталі,
Мноствам страшным, нязьлічоным
Пушчу запаўнялі;
Годы добрыя нясьметна
Сталі ўсе па чыну,
Цьмяна, бледна, чуць прыметна,
Зьліўшыся ў раўніну.

Па чарзе выступаюць далей тры пары гадоў: з аднаго боку, гады ўраджаю, супакою і прасьветы; з другога боку, гады галадоўлі, кары і помсты, мрака і цемры, і аказваецца, зло людзі больш помняць, чым дабро:

Так было і гэтак будзе:
Зла не забываюць!

Верш „Пад Новы год“ зачэплівае, такім чынам, два разьдзельных пытаньні; адно датычыць філёзофіі гісторыі—гэта пытаньне аб тым, што зьяўляецца ў гісторыі пануючым прынцыпам, дабро ці зло. Адказ даецца пэсымістычны: у гісторыі больш зла, больш дзейнічаюць сілы зьніштажэньня, разбурэньня і мрака. Другое—пытаньне маральна-псыхолёгічнае: гэта пытаньне адносна чуласьці людзей да процілеглых прынцыпаў дабра і зла. У адказ выказваецца пэсымістычны погляд на сутнасьць чалавечай прыроды; людзі больш помняць зло, чым дабро.

## А. Форма „буду-лъ“ без значэньня ўмоўнасьці.

У пэўных разох форма „буду-лъ“ азначае дзею, якая прадпалагаецца адбыўшайся ў мінулым, але факт якой яшчэ трэба ўстанавіць.

Такім парадкам, паколькі факт прадпалагаецца ўжо адбыўшымся ў мінулым, то формаю дзеяпрыметніка на—*лъ* паказваецца дзея *прошлага* часу.

Паколькі-ж пішучы (гаворачы) ня пэўны ў тым, ці дапраўды даны факт меў месца ў мінулым, то формаю „буду, будеш, будеть“ і г. д.— ён паказвае, што гэты прадпалажыцельны факт мінулага яшчэ трэба будзе ўстанавіць, констатаваць; тут, значыць, элемэнт *будучага* часу.

### Прыклады з Літоўскай Мэтрыкі.

„... коли ся пригодить дело городовое, ино ты, наместъникъ нашъ а любо иный, который потомъ будеть отъ насъ городъ Полтескъ держати, маеть приказывати и раздавати дело волостемъ Задвиньскимъ и Полоцкимъ пригономъ и иным волостем, которые *будуть* издавна городъ Полтескъ *рубливали*“.—Русская Историческая Библиотека (РИБ), т. XXVII, стар. 29. Сэнс: „Мае прыказваць і раздаваць дзела (толькі тым) валасьцям..., аб каторых к таму часу будзе выясьнена, што яны здаўна горад Полацк рубілі (г. зн. усякі раз, калі трэба было будаваць горад,—яны прыцягваліся да работы).

З гэтага-ж прыкладу ясна, што пішучы добра адрозьніваў сінтаксічную ролю будучага апісальнага (складанага) з *„буду“+неазначальная форма* (*будеть держати*) ад будучага *з „буду“+дзеяпрыметнік* на—*лъ* (*будуть рубливали)*; „будеть держати“ тут азначае факт будучага безадносна да фактаў прошлага; наадварот,—„будуть рубливали“—гэта ўжо вельмі ўдалая, надзвычайна багатая выразнасьцю, форма *„прошлага ў будучым“*, як мімаходам называе гэтую форму А. Пацебня [2]).

У тым самым значэньні:

„... нижли што *будеть* Мацъко къ тому именью *прикупилъ*, або розширилъ самъ собою, въ томъ онъ воленъ отъдати и продати и, где хочеть, обернути“, РИБ, XXVII, 419-420.

Сэнс: „На будучы час Мацъко мае права распараджацца па сваёй волі толькі тым, што (у мінулым) ён (на свае срэдзтвы) прыкупіў, або расшырыў сваімі заботамі“.

—„А што *будуть* тыи невѣстъки его въ томъ именьи *побрали* статъковъ братьи его, то мають ему все поотдавать; нижли што *будуть* по собе за мужей своих *принесли*, то мають свое взять“—РИБ, XXVII,422.

—„... а што *будуть* они сего лета дубровъ *розробили*. и они мають то къ своей руце съ обу сторонъ мети обадва“... РИБ, XX, 1271.

—„... а што онъ *будеть* съ того человека дани медовое и поплатовъ грошевыхъ въ тыи лѣта *взялъ*, на што доводъ слушный тотъ ч(е)л(о)в(е)къ вчинить, маеть Елець то заплатити“—РИБ XX 1228, 1229.

—„И врядили есмо межи ними тымъ обычаемъ: ижъ мають тамъ дельчие съ обу сторонъ выехати и того ся доведати, што *будеть* князю Василью Божанъ *записалъ*, взявши его за сына место, а особно, што *будеть* ему въ пенезехъ *записалъ*, и тѣхъ, колько *будеть* перве' того Божанъ *продалъ*, або кому *отдалъ* у Волковыску“.—РИБ, XX, 531 і многа інш.

---

[2]) Op. cit., 294. А. Пацебня „вскользь“ і толькі, здаецца, усяго адзін раз называе цікавячую нас форму „прошедшее в будущем“. Мы лічым, што гэты тэрмін настолькі ўдалы, што яго варта закрапіць за гэтаю формаю.

У двух апошніх прыкладах маем найбольш яскравае пацьвярджэньне нашых меркаваньняў аб асобным сінтаксічным значэньні формы „буду-лъ“, якая паказвае на дзею, што ўжо адбылася, але факт якой яшчэ *трэба констатаваць* (у адносінах да мінулага), на што проста паказвае сам пішучы: „на што доводъ слушный тотъ человек *вчйнить*“..., „*мають*... дельчие выехати и того ся *доведати*“...

У прыкладзе-ж—„а што *будуть* они сего лета дубровъ *розробили*, и они мають то къ своей руцѣ... мети обадва“—у форме „будуть розробили“—можна бачыць форму „перадбудучага часу“ (предбудущего времени). Сэнс гэтага сказу такі: „што да канца гэтага году яны разробяць (акажацца к канцу года разробленым), тым яны павінны ўладаць абодва“.

## Б. Форма „буду-лъ“ са значэньнем умоўнасьці.

Асобная сэмасіологічна-сінтаксічная прырода складанага будучага формы „буду“+дзеяпрыметнік на-*лъ*“, яго роль, што складаецца ў абмежаваньні пашырэньня тае дзеі, якая называецца стаячым тут-жа другім будучым, надае яму значэньне ўмоўнасьці, альбо—тачней кажучы—„ускладальнасьці“ (сослагательности).

Гэтая абставіна і прымусіла ў свой час *Ф. Буслаева* і *А. Х. Вастокава* падобныя формы назваць *будучым умоўным*[1]).

Буслаеў у гэтай форме разглядае значэньне ўмоўнага будучага побач з значэньнем будучага закончанага, без адценьня ўмоўнасьці.

А. Пацебня ўносіць у азначэньне катэгорыі форм „буду-лъ“ з адценьнем умоўнасьці дэталізуючае разьясьненьне,—што присутнасьць пры гэтай форме ўмоўнага саюзу не канешне надае ёй умоўны сэнс[2]) у дапраўдным значэньні гэтага слова.

З свайго боку мы лічым, што пэўнае адценьне ўмоўнасьці такою формаю ўсё-ж такі выражаецца ў большасьці выпадкаў.

Паколькі пры форме „буду-лъ“ заўсёды ёсьць яшчэ другое будучае ў розных формах (будучага абвяшчальнага альбо загаднага ладу), дзею якога мы мысьлім або жадаем у будучыне ў залежнасьці ад таго, будзе ці ня будзе констатаваны адносна прошлага факт, азначаны формаю „буду-лъ“, пастолькі зьмест умоўнасьці такіх конструкцый сам сабою разумеецца,—будзе пры „буду-лъ“ умоўны саюз, ці такога саюзу ня будзе. Як факт ужо адбытай, гэтак і факт прадстаячай дзеі, ставяцца *ўмовай*, або *абмежаваньнем* сфэры другой дзеі, пазьнейшае ў адносінах дзеі, выражанай формаю „буду-лъ“.

Такім парадкам гэтую апошнюю форму трэба лічыць формаю прадбудучага часу (предбудущего времени), у пэўных выпадках з выразным значэньнем умоўнасьці; у апошнім разе гэта ўжо *будучае ўмоўнае*.

Для паясьненьня сказанага зьвернем увагу на тое, што ва многіх з прыведзеных вышэй прыкладаў гаворыцца ўласна аб тых-жа рэальных узаемаадносінах, што і ў формальна-ўмоўных конструкцыях.

Гэтак, у словазлучэньні—„нижли што будуть по собе за мужей своихъ принесли, то мають свое взять“—маем такое прадстаўленьне рэальных узаемаадносін: „калі (=ежели, если) акажацца, што пэўныя рэчы яны прынесьлі з сабою (факт праўдападобны, магчымы), ідучы замуж, то яны (жонкі) могуць (рэчы) узяць, як свае“.

---

[1]) *Ф. Буслаев.* Историческая грамматика русского языка. Изд. 5-е. Москва, 1881, стар. 144—145.

*А. Х. Востоковъ.* Грамматика церк.-слав. языка, 92.

[2]) *А. А. Потебня.* Из записок по русской грам., стар. 291.

Рэальнага сэнсу не зьмяняе даданьне конструкцыі з „буду-лъ“ умоўнага саюзу „естьли“ (естли).

Возьмем, напр., складанае словазлучэньне—„... нехай тотъ твой слуга на томъ прысягнеть, *естли* я *буду* року тымъ людемъ *не положилъ*, и имъ до тебе того *не отказалъ*“—РИБ, XX, 375.

Хоць па форме гэтае словазлучэньне „естли я буду... не положилъ“... і напамінае—да факцічна і ёсьць умоўнае, бо мае ў сабе ўмоўны саюз „естли“ (если), але, уласна, яно роўна сучаснаму—„калі я сроку не назначыў“—у такім складаным словазлучэньні: „няхай твой слуга прысягне, *калі* я тым людзям сроку не назначыў“; параўнай таксама: „каб мне з гэтага месца не сайсьці, калі (=есьлі) я зманіў“.

Аднак, умоўнасьць у такіх конструкцыях (з *естли, естьли*, сучасн. *есьлі, калі, ежалі*) зусім іншага характару, чым у конструкцыях з саюзамі *естлибы, естьлибы, бы*, або пры ўмоўным ладзе „бых-лъ“.

Розьніца паміж гэтымі конструкцыямі ў наступным.

Першая конструкцыя ўмоўнага (з „естли“=калі) азначае такую ўмову, якая, на погляд пішучага ці гаворачага або дапраўды існавала ў мінулым у відзе адбытага або неадбытага факту, або яшчэ напэўна явіцца ў будучым.

Так у нашым прыкладзе—„естли я буду року тымъ людем не положилъ“—у словазлучэньні „естли... не положилъ“ разумеецца тая дзея (назначэньне сроку), якая, на погляд аднае стараны (ісца), дапраўды была ў мінулым, а на погляд другой (адказчыка)—ня была.

У словазлучэньні „каб мне з гэтага месца не сайсьці, калі я зманіў“ словамі „калі зманіў“, як і ў папярэднім прыкладзе словамі „естли... не положилъ“, гаворачы паказвае, што нехта якраз уцьвярджае факт маны ў той час, як гаворачы гэты факт адмаўляе.

Першае словазлучэньне, іншымі словамі, азначае: „нехай тотъ твой слуга... прысягнеть, ці дапраўды акажацца, што я сроку тым людзям не назначыў“, альбо: „раз (=коль скоро) твой слуга цьвердзіць, што я року тым людзям не палажыў, то няхай ён прысягне (і мы тады *даведаемся, ці* так гэта *было*)“.

У іншых-жа выпадках дзеяслоў з саюзам „калі“ (=если) паказвае на дзею (стан, факт), якая служыць ужо дапраўды *ўмоваю* нашай дзеі. Напр.: Калі (если) хочаш,—прыходзь“, „калі здолееш,—зрабі“, „калі ты выпаўніў маю просьбу, то я табе падзякую“ і да т. п.

Тут дзея, што служыць умоваю другой дзеі, прадстаўляецца толькі *магчымай, праўдападобнай* (вероятной) у мінулым, цяпер і ў будучым.

Іншае значэньне набывае ўмоўнасьць пры саюзах *есьлі-бы, калі-б, каб* (=как бы, як бы): „Каб вы зайшлі да нас учора, то сустрэліся-б з цікаваю асобай“—(але вы *не* зайшлі); я-б гэта зрабіў, каб мог“ (але я *ня* мог); „каб да гэтага марозу да вецер (але ветру няма), дак ня вытрымаць было-б“... Таксама па—латыні:

Nisi Sokrates omnibus vera dixisset, capitis damnatus non esset.—Nisi Alexandr essem, ego vero vellem esse Diogenes.

Ва ўсіх гэтых прыкладах (і ім падобных) ўмова, як і вынік (условие, как и следствие), разумеюцца гаворачым, як *процілежныя* таму што ёсьць, альбо было ў дапраўднасьці; таму такія ўмова і вынік ёсьць *ірэальныя*.

У процілежнасьць гэтай апошняй—ірэальнай конструкцыі—умова і вынік, што мысьляцца гаворачым як толькі магчымыя, прадпалагаемыя,—складаюць конструкцыю, якую-б можна назваць „ірэальнапотэнцыяльнаю“; напр.: „Я-б ня вытрымаў такога зьдзеку“ (разумеецца:

„калі б гэты зьдзек быў нада мной“; але яго *ў адносінах да мяне* няма, а ёсьць адносна некага іншага).

Выражэньне ўласна толькі гэтых двух відаў умоўнасьці—*ірэальнай* і *потэнцыяльна-ірэальнай*—і надае конструкцыям з умоўнымі саюзамі значэньне дапраўды *ўмоўнага ладу*.

Ва ўсіх-жа тых выпадках, калі ўмова і вынік прадстаўляюцца гаворачым без паказаньня таго, адпавядаюць яны дапраўднасьці, ці не, умоўнасьць набывае толькі адносны характар, і фактычна ў такіх разох мы ўжо часта ня маем *умоўнай конструкцыі*, нават ня гледзячы на прысутнасьць у ёй „умоўных“ саюзаў. Напр., па расійску: „*Если* на меня нападают, я защищаюсь “=„*когда* (случается, что) на меня нападают, я защищаюсь“.

Як бачым, тут—да і ва ўсіх падобных разох—умоўны саюз „если“ па сутнасьці не яўляецца ўмоўным. У беларускай мове ён нават і ня ставіцца ў гэтых случаях і наагул ня ўжываецца, як умоўны саюз, у большасьці гаворак: „Калі (случыцца, што) на мяне нападуць, я буду бараніцца“.

Факты старадаўняй мовы таксама кажуць за тое, што *естъли*, *есьли*, *естьли*, нават з „бы“ (3 асоба *аорысту* ад „быти“), часта не азначалі ўмоўнасьці. Напр.: „И пытали дей есмо тыхъ бояр. маете-ль вы на то довод, естли-бы их пачаток былъ?“—РИБ XX,-40.3—Тут фактычна такое значэньне: „Ці маеце довад на тое, што пачатак быў іх?“, альбо „есть ли так (ці дапраўды так), какъбы (что бы) ихъ початокъ былъ“.

— „Ино и тотъ, у праве ставъши о(т)поведи не хотелъ [дати] и доводу никоторого не чинилъ на то, *естли бы* отецъ ихъ а любо они *впоминалися* о тыи именья за о(т)ца нашего Казимира короля его милости„—ib. 552.

— „... Положили другий рокъ... ку слуханьню тыхъ светковъ сведецтва, *естли бы* (с)только *было* коней и животины у домехъ людей Есмановыхъ“ (=ці дапраўды столькі было коней і жывацiны...)—РИБ XX, 1342.

— „И мы пытали тое Альжбеты, *естли бы* она шляхтянка *была?*“—ib. 393.—Сэнс: „Мы пыталіся ў Альжбеты, ці дапраўды яна (была) шляхцянка“.

Такое самае значэньне мае „естли“ і ў конструкцыі з „буду-лъ“, якая выказвае ўмоўнасьць толькі *рэальную*, як гэта мы ўжо бачылі ў словазлучэньні—„нехай тотъ твой слуга присягнеть, естли я буду року тым людемъ не положилъ“.

Яшчэ прыклады:

— *Естьли будуть* тые люди мои тот кгвалтъ *учинили*, и я тобѣ тыи люди шиеми выдаю—РИБ XX, 57.

*Естьли будеть* тобѣ Якимъ мѣне въ той подруце *выдалъ*, и я готовъ виненъ в той подруце – ib 62.

У конструкцыі *рэальнай* можа быць апушчана „есть“. „И Ганна Пашковая рекла: я того не вѣдаю, *заплатилъ ли* ты *будьшь* мужу моему, не заплатилъ ли—ib. 55. Гэтую апошнюю конструкцыю бяз „есть“ трэба прызнаць больш правільнай, бо „есть“ тут адчуваюцца лішнім, паколькі ўжо ёсьць „будешь“.

У падобных конструкцыях—ёсьць тут саюз умоўны, ці не,—паказваюцца рэальныя адносіны прычыны (аснаваньня) і выніку (сьледзтва), як-бы падводзіцца вынік (ітог), або паказваецца, які павінен быць зроблены лёгічны вывад з тых фактаў, якія будуць (альбо *магчыма*, што будуць) констатаваны.

Падчыркуем, што магчымасьць—потэнцыянальнасьць тут проста адносіцца не к самаму факту, але толькі к яго констатаваньню.

Такім парадкам тут ня бывае таго, што надае ўсёй конструкцыі значэньне *ірэальнай* альбо *потэнцыяльна-ірэальнай* умоўнасьці, якая ў старыну выражалася асобаю формай умоўнага ладу (условного на-наклонения), што складалася з *аорысту* ад „быти" і дзеяпрыметніка (причастия) прошлага на—*лъ*; цяпер гэтая форма ўмоўнага складаецца з тых-жа самых, уласна, форм з той разьніцай, што аорыст ужо абярнуўся ў нашым сазнаньні ў умоўную „часьціцу" *бы*, якая па большасьці ставіцца цяпер *пасьля* дзеяпрыметніка на—*лъ* (—ў).

Паколькі ў старыну—да і цяпер—для азначэньня ірэальнай і потэнцыяльна-ірэальнай умоўнасьці ўжывалася і цяцер ужываецца спэцыяльная граматычная форма *ўмоўнага ладу* (conditionalis), то і мы будем лічыць *уласна-ўмоўнымі* толькі тыя конструкцыі, у якіх маем формы умоўнага ладу.

Ад гэтай асноўнай формы выражэньня ўмоўнасьці будзем адрозьніваць ўмоўнасьць другога роду, якая хоць і выражалася і выражаецца даданьнем умоўных саюзаў (*калі, раз, што=если*), але бяз формы ўмоўнага ладу. Такая ўмоўнасьць—рэальная, і такую конструкцыю можна-б называць „*рэальна-ўмоўнай*".

Рэальна-ўмоўная конструкцыя, як ведама, не выражалася асобнаю формаю ўмоўнага ладу, апроч старых славянскіх моў, яшчэ напрыклад і ў *лацінскай*. У апошняй у та.іх случаях ставіўся *indicativus* (абвестны лад, изъявительное наклонение) усіх часоў, як у галоўным, гэтак і ў даданым сказе. Напр.: Si pace frui volumus, bellum gerendum.—Калі хочам насладзіцца мірам (а мы гэтага хочам), то трэба ваяваць.

— Si feceris, quod ostendis, magnam habeo gratiam... і пад.

Прыклады з „Літоўскай Мэтрыкі":

1. *Рэальны случай:* „*естли* тые слуги путные тыми разы *седять* домы своими на той же земли за Ловейкомъ, которую жъ ему продали, ино и н(ы)нѣ Петрашку не надобе въ нихъ вступатися"... РИБ XX, 524.

„И въ томъ послалися зъ абу сторонъ на Станиславовую Гошейковую: естли она посветчить,... ино завишичи въ томъ винъни будуть" —РИБ XX, 545.

Прыклады на рэальна-ўмоўную конструкцыю з формаю „буду-лъ" мы ўжо прыводзілі (гл. стар. 72).

**2. Ірэальна-потэнцыяльная конструкцыя.**

„а *естли бы* тыи люди на Петрашковой земли *седели*, тогда мають Петрашку служити"—РИБ, XX, 524-525.

Сэнс: „Калі-б аказалася, што (путныя) людзі сядзяць на зямли Пятрашкі (але ў даны момант самім судзьдзёй канстатавана, што людзі сядзяць *не* на Пятрашкавай зямлі), то яны тагды павінны будуць служыць Пятрашку". Пастанова гэтая, так сказаць, платонічная—„на ўсякі случай"; скарэй за усё яе трэба разумець нават не як пастанову, але як разьясьненьне. Характар ірэальнай потэнцыяльнасьці ў такіх случаях выступае няйясьней тады, калі сказьнік (сказуемое) выражан у форме ўмоўнага ладу і ў даданым сказе, іншымі словамі: калі і ўмова і вынік (условие и следствие) прадстаўляюцца толькі магчымымі, аднак не рэальнымі.

У ніжэй даных прыкладах характар гэты ня так ясны таму, што пастановы, у іх заключаныя, маюць агульны характар, не адносячыся да пэўнага, вядомага нам факту. Аднак, ад гэтага конструкцыя ня тра-

ціць свайго характару: у ёй паказваецца ўмоваю для другога факту такая абставіна, якая *магла быць* у мінулым, але якая *не вядома* нам, як факт конкрэтны.

—„*естли бы* хто о которую близкость свою за о(т)ца нашого Казимира короля его милости *не вноминался*, тотъ вжо вечне о то не маеть вноминатися"—XX, 552.

—„пакъ ли бы тотъ Микола' не хотелъ съ него того именья выкупити, и мы... дозволили князю Глебу тое именье заставити"—ib. 567. У апошнім случаі ўмова, ўласна, мысьліцца, як факт, які *можа* адбыцца ў будучым.

У злучэньні з „естли бы" ірэальна-потэнцыяльнае значэньне набывае і конструкцыя з „буду-лъ". Нам давялося натрапіць на такі прыклад:

„... нижли *естли бы* после того, как вже есмо князя Юрья делу допустили, тешча князя Костентинова або князь Костентинъ *будуть ли* имъ на роки положоные делъ *о(т)волокали*, а доходы на себе *брали*, о томъ князь Юрьи передъ нами нехай мовить"—РИБ, XX, 677.

У такой конструкцыі дапраўды ўжо маем як-бы *будучае ўмоўнае*. Аднак, уважна разабраўшыся ў гэтай конструкцыі, знаходзім у ёй такі сэнс: „Няхай нам князь Юры (цяпер) скажа толькі аб тым, ці не магло быць так (ці не акажацца, што было так), што ўжо пасьля таго, як мы дапусьцілі князя Юрыя да разьдзелу,—цешча князя Косьценціна або князь Косьценцін (ці ня будзе так, што яны фактычны) разьдзел адцягвалі да (апошняга) паложанага сроку, а даходы (тым часам) бралі ў сваю пользу. Пасьля расшыфраваньня гэтай, ня зусім складнай конструкцыі, бачым, што тут мы, уласна, ня маем умоўнай потэнцыяльна-ірэальнай конструкцыі, а маем *косьвеннае запытаньне* (косвенный вопрос), у якім „если бы" па сутнасьці яўляецца лішнім.

### 3. Ірэальная конструкцыя.

„... *коли бы* Матей дѣтей не мелъ, *тогды бы* могла быти жона Петрова Кгеложева къ тому близкая; а коли (=а так как в действительности) въ Матея дети (есть), тогды къ тому именью его нихто не близкий, только дети его".—РИБ XX, 1327.

Прыкладаў на ірэальную конструкцыю з формаю „буду-лъ" мы ня сустрэлі.

Такім парадкам, з усяго вышэйзложанага мы бачым, што ў параўнаньні з іншымі дзеяслоўнымі формамі, якія ўжываюцца пры ўмоўных конструкцыях рэальнага, ірэальнага і ірэальна-потэнцыяльнага характару—форма „буду-лъ" пэўна ўжываецца толькі ў рэальна-ўмоўнай конструкцыі і ў косьвенным запытаньні.

Умоўны саюз з „бы" ў конструкцыі з „буду-лъ" не надае ёй характару ірэальнасьці і нават ірэальнай потэнцыяльнасьці, у дапраўдным яе, поўным значэньні. Прыклад на апошні случай умоўнай конструкцыі з „буду-лъ" яўляецца надта сумненным, і таму мы ў праве пакуль ня знойдзецца іншых, больш пэўных прыкладаў,—ня лічыць яго даказальным...

Наколькі сьвядома адносіліся пісаўшыя на старой беларускай мове ў XVI ст. (і, напэўна, раней) да ўсіх рознастайных адценьняў умоўнасьці, гавораць многалікія месцы з дакумантаў Літоўскай Мэтрыкі.

У даданьне да ўжо прапанаваных вышэй прывядзем яшчэ:

„И панъ Венцлавъ поведилъ: я де' тобе жадное кривъды черезъ судъ пана Петра кухмистра не вчинил...; *а естли* де' я *буду* е(й) где кгвалтъ або которую шкоду... *вчинилъ*, нехай панъ кухмистръ тамъ едеть... (=нехай панъ кухмистръ туды поедеть і ўстановіць, ці дапраў-

ды я ей кгвалт. вчинилъ“). І далей: „Маеть панъ кухмистръ тамъ выехати и того досмотрети: *естли будеть* пан Венцлавъ *не переступилъ* ни въ чомъ суда пана кухмистрова (=кали акажацца, што пан Венцлавъ не переступил), тогды пани Юрьевая Пацевича маеть тотъ закладъ... платити..; *пакъ-ли будеть* в томъ черезъ судъ пана кухмистровъ панъ Венцлавъ *переступилъ*, а пане(й) Пацовой чересъ тотъ судъ которую *будеть* кривду *вчинилъ*, тогды тотъ закладъ панъ Венцлавъ маеть платити. РИБ, XX, 593.

І самы яскравы прыклад:

„*естли* Глиньски' въ тыхъ золотыхъ *сознается*, тогды они, тыи золотыи въ него вземъши, мають во'ту о(т)дати; а *естли бы* се онъ ку тымъ золотымъ *не зналъ*, и они *бы* на него доводу *не вчинили*, ино мы казали подстолему нашему... будованье того дому, што *будеть* войтъ *побудовалъ* (=тое з будаваньня дому, пра якое будзе ўстаноўлена, што яго зрабіў войтъ), ошацовати, и што ошацуюць, то ему мають.. заплатити“... РИБ, XX, 540 (1507 год).

Разам з тым мы пераканаліся ў тым, што ў старой літаратурнай беларускай мове форма так званага „будучага другога“ (*буду-лъ*) выпаўняла зусім пэўную, строга-вызначаную сэмасіолёгічна-сінтаксычную роль.

Як мы ўжо бачылі, разгледжваемая форма — „*буду-лъ*“ у паказаных намі прыкладах мае зусім спэцыфічнае сінтаксічна-сэмасіолёгічнае значэньне, і яго памылкова было-б, нам здаецца, называць проста „другое будучае“, бо такая назва нічога ня кажа аб яго запраўднай функцыі. Ясна, што ў адных разох гэта будзе форма „прошлага ў будучым“, або „прадбудучага“ („а што будуть они сего лета дубровъ розробили, и они маюць то къ своей руце... мети...“ гл. стар. 2), або, ўрэшце, гэта — форма *будучага ўмоўнага* ў рэальнай конструкцыі (прыклады гл. на стар. 5) У апошнім случаі, як і ў першым, форма „буду-лъ“ азначае пэўны факт *прошлага*, які патрэбна яшчэ констатаваць (*у будучым*) для таго, каб ён мог паслужыць падставаю для другой пэўнай дзеі (таксама, разумеецца, будучай). Апошняя выражаецца ўжо або простым будучым, або складаным апісальным з „буду, маю, хочу, павінен і п.“ + infinitiv.

Аднак ужо, здаецца. у XV ст.[1]) можна адзначыць у літаратурнай мове случаі ўжываньня формы „буду-лъ“ для азначэньня ўжо толькі дзеі будучай, безадносна да прошлага часу, гэтак што значеньне такой формы прыроўніваецца да значэньня формы будучага апісальнага з „буду, маю“... + infinitiv. Напр.: „Есть ли же, милостивый королю, рачишъ ваша милость по вси... часы уставичъне съ пильностью около того працовать, мыслигь и радить, тогды... панство свое дедичное *будешъ рачылъ*... не мъней у себе важить,... яко и Коруну Польскую“ — РИБ XXX, 19 (1538 г.).

— „Добре годни суть быти и воевати того неприятеля нашого въ земли его, тамъ, где того часъ и потреба вкажеть, за справедливостью нашою, колько намъ всемогучий Пан Бог допомочи *будеть рачилъ*“, ib. 410.

Тут трэба заўважыць, што старадаўнія ўсходня-славянскія памяткі форму „буду-лъ“ у значэньні тым-жа, што і „буду, маю..+infinitiv“ ужываюць вельмі рэдка. Для таго, напрыклад, каб знайсьці вышэй даныя прыклады на форму „буду лъ“ у апошнім значэньні ў мове Літоўскай Мэтрыкі, нам прышлося перагарнуць і прачытаць не адну сотню старонак з XX, XXVII і XXX тамоў „Русской Исторической Библиоте-

[1]) „будеши отвѣтъ имѣлъ (=будзеш адказваць), княже, оже ти манастырѣ разъграбять“ — Ипат. лет. 4 л. (А. Потебня. Из записок по русской грамматике, 293).

ки“. Пры гэтым у першых двух томах не давялося пакуль што знайсьці аніводнага прыкладу.

Калі-ж зьвернемся да *польскіх* пісаных памятнікаў, то заўважым, што форма „będą-l“ у іх куды часьцейшая, чым у беларускіх.

Гэтак, у двух толькі „Уставах“, пісаных па-польску (РИБ, XXX, стар. 600—628), знаходзім тры случаі ўжываньня формы „będą-l“:

Liczbę kazdy *będzie czynił* s pieniędzy y z gumien po Bozem Narodzeniu wedle dni y czasow od nas naznaczonych“...—Устава Зыгманта-Аўгуста, азначаючая абавязкі старост, дзяржаўцаў і ўраднікаў замкаў, дзяржаў і двароў гаспадарскіх В. К. Л. у Віленскім і Троцкім паветах. XXX, РИБ.

—„К temu *będą mieli* mieć panowie liesnicze pokłony, przesądy od osocznikow, połaznikow, bobrownikow, strzelcow y z wolan, ktorzy ym będą poruczeni“ - устава і інструкцыя гаспадарскім лясьнічым, даная в. кн. Сігізмундам-Аўгустам, 1567.—РИБ, XXX, 627 стар.

—„... aby na to... kwity brali y w rok o takowych kwitach wiadomość krol[u] iego mci vdzielali przez tego, komu tego krol iego mc przesłuchać rozkazać *będzie raczył*“, ibid. 628 стар.

—„... poniewaź żaden niewie kiedy posel pański duszę moię, z nendznego ciała moiego powołać *będzie chciał*“.—Духоўніца (Testament) Бярэсьцейскага ваяводы Крыштофа Зеновіча 1611 г. Собрание госуд. и частных актов, касающихся истории Литвы и соедин. с нею владений, изд. Виленскою Археологическою комиссией, под ред. Маврикия Круповича, ч. I, Вильно, 1858 г., стар. 49.

—„ onego ducha y duszę mą, pod skrzydla swe naświętsze, na sąd swoi panski... miłosciwie zachować *będziesz raczył*“—ib. і мн. інш.

Як бачым з прыведзеных прыкладаў, форма „będą-l“ ня мае ніякіх адносін да прошлага часу, у некаторых разох яна яшчэ можа азначаць дзею будучую, што мае адбыцца пасьля нейкай іншай будучай-жа дзеі, але і гэта неабавязкова. Такім парадкам форма „będą-l“, як відаць, у польскай літаратурнай мове XVI ст. ужо набыла значэньне толькі разнавіднасьці апісальнай формы будучага, якая цалком роўна форме będą+infinitiv.

З тае-ж прычыны, што ў Літоўскай Мэтрыцы, да і ў іншых беларускіх памятніках, форма „буду-лъ“ у значэньні звычайнага будучага апісальнага сустракаецца вельмі рэдка,—трэба, мусібыць, прызнаць гэту форму ў апошнім значэньні выпадкова трапіўшай у старую беларускую літаратурную мову з польскай, напэўна праз канцэлярскую дыплёматычную перапіску з палякамі.

Тут-жа трэба заўважыць, што прыклады на „буду-лъ“—у значэньні звычайнага апісальнага будучага—знойдзены намі пакуль што толькі ў мове дакумэнтаў, зьмешчаных у XXX томе „Русской Исторической Библиотеки“. Дакумэнты-ж гэтага тому якраз і належаць да дыплёматычнай перапіскі Вялікага Княжаства Літоўскага (кнігі „публичных дел“). Пры знаёмстве з мовай гэтых дакумантаў, адразу ж кідаецца ў вочы яе куды большая трафарэтнасьць і большая колькасьць полонізмаў, чым гэта можна заўважыць у мове дакумэнтаў, надрукаваных у т. т. XX і XXVII РИБ.

Як трафарэты, гэтак і полонізмы яўляюцца натуральна вырабіўшыміся ў працэсе дыплёматычнай перапіскі, у якой шаблон, агульнапрынятая формула разам з запазычаньнем чужых слоў граюць выключную роль.

З другога боку - форма „буду-лъ“ у значэньні звычайнага будучага апісальнага трапіла ў беларускую літаратурную мову ўжо напэўна

тады, калі ў жывой мове гэтая форма магла ўжо страчвацца ў асноўным сваім значэньні—„прошлага ў будучым".

На пачатак гэтай страты як-бы паказваюць зрэдка трапляючыяся случаі замены актыўнай конструкцыі з „буду-лъ" конструкцыяй з „буду"+дзеяпрыметнік прошлага часу пасыўнага стану ў кароткай безасабовай форме; напр.:

„Господаръ его милость казалъ вам мовити... кгды, дасть бог, там (у Літве) будеть, тогды кажеть пану Точиньскому привил(ь)е и данину на то именье... положити—которым обычаем то *будеть* имъ *дано* и на привильи *описано* (=мы паглядзім, як то ён дасьць гэты привилей і ці будзе ў ім тое напісана, што дае яму пэўныя правы) XXX, 48 стар. (1538 г.).

— „Што будеть статъковъ перъвого мужа ее въ томъ именьи побрано.., нехай на брате на его ищеть"—РИБ XX, 556. Сэнс: „Што *акажацца*, што з статкаў яе мужа... (будуть) пабралі, няхай шукае на яго браце".

Случаі такой замены, паўтараем,—рэдкія. Наогул-жа ў мове Літоўскай Мэтрыкі назіраем пэўна-сьвядомае ўжываньне формы „буду-лъ" выключна для азначэньня прошлага факту, які мае быць яшчэ констатаваным, альбо ў некаторых выпадках і для азначэньня „прадбудучага", і ні ў якім іншым значэньні.

Такое пасьлядоўна сьвядомае ўжываньне формы „буду-лъ", як формы „прошлага ў будучым", у *літаратурнай* мове можа быць да пэўнай ступені паказчыкам і таго, што гэтую форму ў яе асноўным значэньні магла ведаць яшчэ і *жывая* беларуская мова XVI сталецьця,

Разам з тым для нас цяпер ясна, што вывады акад. *Е. Ф. Карскага* адносна польскага пахаджэньня формы" буду-лъ у старадаўняй беларускай літаратурнай мове[1]) могуць быць аднесены толькі да тых случаяў яе ўжываньня, дзе яна роўналежна формам звычайнага будучага складанага (апісальнага)—з „буду", „маю", „хочу" і г. д.—у складаньні з незначальнаю формай (infinitiv'am).

Цалком трэба згадзіцца з Е. Ф. Карскім у тым, што захаваньне формы „буду-лъ (—ў) " у ролі апісальнага будучага (у тым жа значэньні, што і ў сучаснай польскай мове) у некаторых сучасных заходня беларускіх гаворках,—трэба аб'ясьняць уплывам гаворак польскіх, з імі суседніх. [2])

У вялізнай жа большасьці іншых беларускіх гаворак форма „буду-лъ" (—ў) „цяпер ужо саўсім невядома.

З усходня-славянскіх дыялектаў толькі *вялікарускі* захаваў астатак гэтай формы ў відзе саюза „*буде*" (=*если*).

Гэты апошні явіўся не адразу, але праз некаторую пераходную конструкцыю, дзе спачатку на дапаможны дзеяслоў „буду" перанесла-ся значэньне ўмоўнасьці; у такой конструкцыі ўся форма „буду-лъ" ужо набывае значэньне *будучага ўмоўнага* у ірэальна-патэнцыяльнай конструкцыі.

Якраз у такой ролі гэтую форму і знаходзім у старой беларускай літаратурнай мове:

„И *будешь* у которых государей *отвѣдала*, дочери есть, гдѣ бы ми сына своего Василья женити, и ты бы о томъ ко мнѣ отказала"

---

[1]) Е. Ф. Карский. Белоруссы. II, 3 вып. Очерки синтаксиса белор. наречия. Варшава 1912, стар. 97.

[2]) Напр.:„—Adna dziėuka kazàłэ, szto za taho annó zàmuż puojdziä, chto budzia mieu zielonyja wûsy „(Mołczadź)—M. Federowski. Lud białoruski na Rusi litewskiej... Krakow 1902., m. II, стар. 252.—„Jak ty hetaho pnia raździärész, to budziäsz muoch za mnoju barukaćsie"—ib., 339.

—1503 г.—Акты Зап. Рос., I, 318 (А. Потебня. Из записок по рус. грам., 295).

— „А *будешь* ли ихъ пану *о(т)далъ;* а ими *не покорыстовалъ,* присягни на томъ, а либо я присягну“, 1510 г.—РИБ, XX, 50.

Далейшым шагам явілася злучэньне *„буду“* ўжо не з дзеяпрыметнікамъ на-*лъ*, а з *простым будучым*; з апошнім „буду“ спачатку сагласуецца, а затым ужо і не сагласуецца:

а) „*Будешь* ты, душа, *прилюбишься,* я товарищу похвалю“—Рыбн. IV, 151.

б) „А *будетъ* мы *учнемъ* на него царю бити челомъ“—1656 г. (Буслаевъ)—Из записок по рус. грам., 295 стар.

З „будет“ – праз адпадзеньне-*тъ* і страту значэньня прэдыкатыўнасьці яўляецца ўжо ў сучасных вялікарускіх гаворках саюз *буде*: *буде* любишь, так скажи: „буде пришел, так сиди“ і пад.[1]).

8. IV. 1927 г.



[1]) Больш падробна аб ужываньні „будзе“ ў знач. саюза ў жывых усх.-слав. гаворках (вялікарускіх і украінскіх) гл. у А. Патебні—Из записок по рус. грам., 296—299.

Л. М. Цьвяткоў.

# Увагі аб мове філёматаў.

## I. Некалькі слоў аб беларусізмах у філёматаў у іх польскіх творах.

Два сумежныя народы: беларускі і польскі маюць шмат чаго супольнага і ў сваім пахаджэньні і ў сваёй мінуўшчыне. Паміж імі існаваў сталы ўзаемаабмен культурнымі дасягненьнямі. Але ў часе нашага заняпаду, выкліканага дрэннымі эканамічнымі і палітычнымі ўмовамі, больш выяўляўся польскі ўплыў на нашу культуру, чымся, наадварот, наш уплыў на палякаў.

Дзякуючы гэтаму, і пазьней, ужо ў XIX-м сталецьці, нашыя выдатныя сілы вельмі часта перацягвае шляхоцкая Польшча на свой бок. Дзеці беларускае зямлі працуюць для чужое культуры, ці цалком, як Адам Міцкевіч, ці часткова, як Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, Алесь Рыпінскі, Людвік Кандратовіч, Вінцэсь Каратынскі ды іншыя пісьменьнікі, якія карысталіся дзьвюма мовамі.

Але ці можа чалавек у сваёй творчасьці нават у чужой мове не адбіць асаблівасьцяй матчынай гутаркі?

У 1925-м годзе ў Пазнані адбыўся зьезд польскіх гісторыкаў, які даў наагул шмат карысных вынікаў, ня толькі ў сэнсе новых фактаў, але і ў галіне мэтадалёгіі.

У чацьвертай сэкцыі гэтага зьезду быў заслухан даклад Габрыэля Корбута „O konieczności najrychlejszego zbadania języka i wysłowienia Mickiewicza“.

У гэтым дакладзе ёсьць некалькі вельмі цікавых думак, з якімі нам карысна будзе пазнаёміцца.

„Каб добра зразумець песьняра“, кажа Корбут: „трэба перш за ўсё дакладна ведаць яго мову, галоўным чынам—яго штодзённую гутарку, якою ён карыстаецца ў сваім звычайным жыцьці, гаворачы з сям'ёю, з слугамі, таварышамі, прыяцелямі і знаёмымі. Ня ведаючы яго штодзеннае мовы, часам не зразумееш і яго пясьнярскага стылю, а таксама і яго думак. А мова, якую ўжываў Міцкевіч ня толькі ў штодзенным жыцьці, але і ў паэзіі, гэта ня была мова ва ўсіх сваіх уласьцівасьцях карэнна-польская, але правінцыяльная.

Таму, так-жа сама, як нельга зразумець псыхікі песьняра, не зразумеўшы перш псыхікі таго пляменьня, з якога паходзіць яго род (на што, на жаль, нашыя дасьледчыкі звычайна забываюцца),—цяжка бывае часам зразумець мову паэты, або можна зразумець яе памылкова, а, значыцца, няправільна ўцяміць і яго думку. Так бывае, калі хтось не пазнае загадзя дакладна мовы таго пляменьня, з якога паходзіць пясьняр, або сярод якога ён жыве ці жыў даўней, бо гэтая мова, зразумела, павінна мець уплыў на яго родную—матчыну і бацькаву.

Міцкевіч ня быў карэнным палякам, але паходзіў з роду, які калісьці быў беларускім (мо', літоўска-беларускім). Гэта даводзіць ня толькі яго прозьвішча, але й рысы яго твару,—як гэта ў роўнай меры можна сказаць і аб прозьвішчах ды рысах іншых пісьменьнікаў, што паходзяць з Беларусі, напрыклад, Чачота, Ходзькі, Кандратовіча, Пяткевіча і г. д. Беларускае пахаджэньне Міцкевіча давядуць бяспрэчна (калі выпадае філёлёгу ўжываць гэты выраз)—і дакладнейшыя досьледы над псыхікаю і моваю песьняра. У даным выпадку я тут цікаўлюся толькі моваю Міцкевіча".

Далей Корбут скардзіцца на тое, што камэнтатары Міцкевіча ня ведаюць добра беларускае мовы. Яны нават і не дамысьляюцца, нават і ня думаюць аб уплыве нашае мовы на мову Міцкевіча. Часта саўсім беспадстаўна яны лічаць пэўнае слова, выраз, зварот, фанэтычную або марфалёгічную асаблівасьць індывідуальнаю, асабістаю ўласьцівасьцю песьняра або паэтычнаю вольнасьцю (licentia poëtica),—а ў сапраўднасьці гэта проста беларусізм.

Возьмем, напрыклад, чароўны верш „Polały się łzy me"...

У рукапісах песьняра ён мае наступны выгляд:

Polały się łzy me czyste, rzęsiste,
na me dzieciństwo sielskie, anielskie,
na moję młodość górną i durną,
na mój wiek męzki, wiek klęski,
polały się łzy me czyste, rzęsiste.

У некаторых выданьнях, нават у выданьні такога, наагул кажучы, сумленнага дасьледчыка, як Пётра Хмялёўскі (Warszawa 1888 г.), аднаго з найлепшых жыцьцяпісцаў песьняра, замест durną пастаўлена chmurną. Паміж іншым, Хмялёўскі павінен быў-бы добра ведаць, што моладасьць песьняра саўсім ня была хмарная.

Жылося небагата, але вясёла, праца чаргавалася з гулянкамі ў прыяцельскім гуртку і нават раман з Марыляю першапачаткова ня меў у сабе нічога трагічнага.

Але пясьняр справядліва, слушна назваў гэты час „дурным", бо было шмат чаго неразважнага, што й падрыхтавала пасьля ўжо сапраўдную бяду (klęskę).

Тыя дасьледчыкі, якія не адважыліся замяніць durną на chmurną, таксама не зразумелі з поўнаю дакладнасьцю гэтага беларускага слова, а тлумачаць яго, як zuchwały, pyszny, гэта ўжо некалькі іншае адценьне сэнсу. Для нас вялікае значэньне мае ўласны погляд песьняра на сваю моладасьць. Гэта дае ключ да псыхалёгіі яго творчасьці ды цікава й наагул.

А няправільныя тлумачэньні пераходзяць з навуковых досьледаў у школьныя выданьні і робяць блытаніну ў навуковых ведах вучнёўскае моладзі.

Ня толькі паэзію, але й навуковую прозу Міцкевіча часам цяжка бывае зразумець, калі пакладацца выключна на веданьне польскае мовы.

У артыкуле „O krytykach i recenzentach warszawskich" Міцкевіч ужывае слове tusza, неўласьцівае польскай мове. У слоўніках польскае мовы слова tusza мае саўсім недарэчнае тлумачэньне—tuzin, што раўняецца й нашаму выразу „тузін" і значыць тое самае, што расійскае „дюжина".—„У сапраўднасьці-ж",—гаворыць Корбут: „туша пабеларуску і парасійску значыць вытрыбушанае тулава сьвіньні або наагул якое-небудзь жывёліны"...

У артыкуле аб творы Станіслава Трэмбэцкага „Zofijówka“ Міцкевіч піша: „mowa Trembeckiego potężna... bogata, rozmaita, powinnaby zawstydzić... nas, że tak ją na *czerkieską* przerabiamy“. Камэнтатары пакідаюць слова czerkieski без тлумачэньня. Гэты выраз ужывае, паміж іншым, і Ян Сьнядэцкі ў сваёй працы „O literaturze“, там мы знаходзім такі сказ: „biedny umysł ludzki w swoim postępie pokazuje się *czerkieski*, chromy, i jak na łożu Prokrusta obcięty“. У даным выпадку нам дапаможа слоўнік Ліндэ. Там ёсьць, поруч з іншымі, і наступнае тлумачэньне: „ladajaki, byle zbyć, nie rzetelnie dobry“, ёсьць і адпаведныя цытаты з пісьменьнікаў XVIII-га сталецьця.

У „паэзіі філёматаў“, выдадзенай у 1922 годзе Янам Чубэкам, (Archiwum filomatów, część III$_2$, poezya filomatów. Wydał Jan Czubek. Kraków. 1922 r. Nakładem Polskiej Akademji Umiejętności) том II, старонка 295, радок 81—мы знаходзім дзеяслоў „Wyczerkiesić“, але ў слоўнічку (дадатку да выданьня) Чубэк памылкова тлумачыць гэты выраз, як „po czerkiesku urządzić, gwałtem, samowolnie zmienić“.

Далей Габрыэль Корбут гаворыць аб цікавым слове matecznik, ужытым Міцкевічам у паэме „Pan Tadeusz“.

Ніводзін з камэнтатараў Міцкевіча не адзначыў, што гэтае беларускае слова ўвёў у польскую мову па першы раз ня хто іншы, як ён. Толькі прафэсар Растафінскі ў сваёй працы „Las, bór, puszcza, matecznik, jako natura i baśń w poezji Mickiewicza“ зьвярнуў на гэта ўвагу. Праўда й тое, што Міцкевіч у сваёй паэме даў падрабязнае апісаньне „матачніка“ (у чацьвертай песьні).

Першы раз ужыў ён гэтае слова яшчэ ў трэцяй песьні, радок 736. Але, зразумела, апроч тлумачэньня цікава ведаць і сапраўднае (у даным выпадку—бясспрэчна беларускае) пахаджэньне слова.

З уваг Габрыэля Корбута бязумоўна вынікае неабходнасьць вывучэньня мовы ня толькі Адама Міцкевіча, але й наагул яго сучасьнікаў. Трэба вывучаць іх літаратурную гутарку і іх штодзенную гаворку; апошняя адбівалася даволі яскрава, напрыклад, у іх лістох. Мы цяпер ужо маем даволі друкаваных матар'ялаў, каб выканаць гэтае заданьне. Што датычыцца да літаратурнае мовы, дык цікава будзе зьвярнуць асаблівую ўвагу на Яна Сьнядэцкага, які лічыўся добрым польскім стылістым і меў уплыў на Міцкевіча, а паміж іншым, ужываў такія выразы, як czerkieski. Корбут лічыць гэты выраз беларускім. Мне не даводзілася пачуць яго ў тых мясцох Беларусі, дзе я быў. Але можна сказаць напэўна, што гэта не сапраўднае польскае слова.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на творчасьць найбліжэйшага атачэньня маладога песьняра—на філёмацкі архіў.

Цяпер выдадзена і паэзія і проза (нават пратаколы і лісты) гэтых, раней мала вядомых, маладых дзеячоў. Там ёсьць і беларускія творы. Але яны тонуць у цэлым моры даволі нязграбнае пальшчызны, якая мае пэўны процант чыста беларускіх слоў і зваротаў.

Некаторыя назіраньні ў гэтых адносінах мне і ўдалося зрабіць, праглядаючы філёмацкія пясьнярскія творы.

Студэнцкія гурткі, якія ў першай чвэрці XIX сталецьця існавалі ў горадзе Вільні пад назвамі філёматаў, прамяністых і філярэтаў, яшчэ й цяпер ня вывучаны з належнаю паўнатою. Некаторыя пытаньні адносна іх і цяпер яшчэ не разьвязаны.

Удзельнікі гэтых гурткоў добра ведалі нашу мову, але большая частка іх твораў напісана папольску.

Як-жа разьвязаць праблему аб іх нацыянальнай прыналежнасьці? Яны помняць аб тым, што іх бацькаўшчына завецца Беларусьсю. У

вершы Яна Чачота (том I філёмацкае паэзіі ў выданьні Яна Чубэка, стар. 24, радок 77), мы чытаем:

Sława nauk po Białej tak błąka się Rusi. Але часьцей сустракаем мы назву „Літва“ (Litwa), г. зн. тэрмін дзяржаўны, а не нацыянальны. Некаторыя філёматы ўжываюць назву Polak, бо і, сапраўды, культура, якую яны ўспрынялі, была ў цеснай сувязі з Польшчаю.

Прачытаўшы ўважна іх творы. мы атрымаем усё-ткі не саўсім поўнае ўяўленьне аб іх нацыянальнай самасьвядомасьці.

Нупрэй Петрашкевіч піша гістарычныя думы і аб Леху і аб Гедыміне, ідыліі (сялянкі) і з нашага і з чужога быту. Тамаш Зан нават польскага Твардоўскага прыўлашчаў свайму роднаму краю. Твардоўскага д'яблы забіраюць з сабою ў пекла з мястэчка Раманава, бо ён абяцаўся аддаць ім сваю душу ў Рыме, а Раманава—гэта Roma Nova—Новы Рым, пабудаваны рымскім эмігрантам Палямонам у нашай краіне.

Адам Міцкевіч нават сваёй пераробцы аднаго з Вольтэравых твораў (Pani Aniela. Naśladowanie z Woltera) надае некаторыя мясцовыя рысы—уся справа адбываецца ў Наваградку.

У Яна Чачота мы знаходзім пераробку народнае песьні: „Przez me podwórze ciecierа leciała“.

Гэта ўсё мы маем у першым томе філёмацкіх твораў, дзе былі сабраны вершы, якія можна было падрыхтоўваць да друку.

Другі том, выдадзены Чубэкам, самі філёматы саўсім ня думалі выдаваць. Гэта былі вершы інтымнага зьместу, часткова—паважнага, часткова—жартлівага, але ў кожным выпадку не разьлічаныя на чужых чытачоў.

Тут мясцовы элемэнт мацнейшы. Ян Чачот тут выступае з творамі, напісанымі пабеларуску, тут ёсьць і наагул водгукі нашае народнае творчасьці—прыслоўяў, прыказак і г. п.

Мы ня будзем тут разглядаць падрабязна палітычную і нацыянальную ідэялёгію філёматаў. Магчыма, што яны былі й сапраўды Natione Poloni, gente autem Alboruthenі, што яны хацелі проста даўнейшых суадносінаў паміж Літвою і Польшчаю (якія склаліся на падставе акту Люблінскае вуніі), але ўсё-ткі яны самі не забываліся на сваё беларускае пахаджэньне і цікавіліся гісторыяю свае бацькаўшчыны.

Беларуская мова ў творах, напрыклад, Яна Чачота даволі добрая, але не саўсім беззаганная. Полёнізмы сустракаюцца, ёсьць (як гэта ні дзіўна) нават і расіізмы: „водка“ замест „гарэлка“, „нет“ замест „няма“ і г. п.

Але за тое ў польскіх творах у філёматаў ёсьць шмат беларусізмаў. Агульнае ўражаньне такое, што пісьменьнікі не саўсім добра валадалі польскаю моваю, хоць увесь час практыкаваліся ў пісаньні папольску. Хутка і плынна пісаць яшчэ ня значыць пісаць беззаганна.

Часам беларускае пахаджэньне пісьменьнікаў выяўляецца ў слове, у звароце, у граматычнай форме, неўласьцівых польскай мове. Пры гэтым падобныя факты сустракаюцца саўсім ня толькі ў жартлівых зваротах, дзе падобныя макаранізмы маглі быць ужыты знарок дзеля камічнага ўражаньня. Мы бачым гэта і ў паважных творах і пры тым саўсім бяз імкненьня да мясцовае ахварбоўкі (couleur locale).

А гэта як раз найбольш паказальна.

Бо, сапраўды, калі мы, чытаючы старажытна-баўгарскі (старасьлавянскі) тэкст, заўважаем у ім чэхізмы (у так званых кіеўскіх фрагмэнтах), дык гаворым, што пісаў чэх. Чаму-ж, калі ў польскім тэксьце мы знаходзім бясспрэчныя беларусізмы, мы ня мелі-б права зрабіць аналёгічныя вывады?

Ідэялёгічныя пытаньні разглядаць трэба, бязумоўна, паасобку, але нацыянальныя рысы пісьменьніка, зразумела, адбіваюцца на яго мове.

На яе мы цяпер і павінны зьвярнуць увагу.

Пры гэтым такі твор, як Gryczane pierożki Тамаша Зана з дадаткам, напісаным Адамам Міцкевічам, трэба паставіць саўсім паасобку.

Справа ў тым, што тут выводзіцца немец пірожнік Цьвібак, які доўгі час жыў у Менску.

Ён гаворыць мяшаным польска-беларускім жаргонам з значнаю прымешкаю нямецкага элемэнту. Зразумела, што і нямецкі і беларускі ўплыў на польскую мову Цьвібака падкрэсьлены наўмысна. Такім парадкам, гэты твор яшчэ нічога ня можа нам сказаць аб беларускасьці самых аўтараў таксама, як, напрыклад, нямецкі акцэнт „Вральмана“ ў „Недоросле“ ня мае ніякае сувязі з германскім пахаджэньнем самога Фонвізіна (продкі гэтага расійскага пісьменьніка былі немцы).

Паасобку павінны разглядацца таксама і даслоўныя цытаты з беларускае народнае творчасьці, напрыклад, з прыказак і г. п.

Але і апроч усяго гэтага ёсьць шмат беларусізмаў у філёмацкіх творах. Ян Чубэк зрабіў спробу даць невялічкі слоўнічак няпольскіх выразаў, якія сустракаюцца ў філёматаў. Слоўнік гэты ахапляе толькі лексычныя асаблівасьці і пры гэтым далёка ня ўсе. Некаторыя беларускія словы Чубэк адзначае толькі як няпольскія, не гаворачы нічога аб іх беларускім пахаджэньні:

У якасьці беларусізмаў у яго прыведзены наступныя словы:

*bohozerca* II 167.110—(z błr. Boh, Bóg i zerić, patrzyć)) wpatrzony w Boga, rozmodlony, zachwycony,

*boryczki* I 144.253—(z błr. borki) bójka,

*buś* II 121.143; 122.165—(z błr. pocałunek,

*cieciera, cieciorka* I 109.1, II 35.51—(z błr) cietrzew,

*ciosek* II 167.115—(z błr.) jednoimiennik, imiennik,

*dziątel* I 233.76—(z błr.) dzięcioł (? Л. Ц.),

*hlaczek* II 92.24; II 150.105—(z błr.) naczynie na płynу, dzbanek,

*karzan* I 292.85... (wyraz białoruski) nietoperz,

*kazan* I 307.12—(z błr.) kocioł,

*komie* I 302.325—(z błr. gałki z ciasta.

*kostra* II 37.21—(z błr.) paździerze,

*kożelny* I 297.225—(z błr.) płótno kożelne—cienkie, używane na bieliznę,

*kraska* II 132.32—(z błr.) ozdoba, kwiatek (i II 125.225 Л. Ц.),

*kusać się* II 251.161—(z błr.) gryźć się, martwić się,

*łaszczyć się* II 133.70—(błr.) łasić się,

*nawda* I 236.137—(z błr.) korzyść, zysk, pożytek.

*oplauszyć* II 183.235—wypoliczkować, wyciąć policzek (у сваёй увазе Я. Чубэк робіць адноскі на Насовіча і на праф. Пігоня,

*pokucie* II 158.7—(z błr.) poczestne miejsce w izbie pod obrazami,

*porosza, poroszek* II 242.259; II 279.64; II 290.182—(z błr.) śnieg, zawieja śnieżna.

*posobić* I 198.83—(z błr.) wspomagać,

*pszyk* II 290.195—(z błr.) spalenie prochu na panewce,

*skomczyć* I 269.663—(z błr.) ugnieść, ulepić.

*skryhiczeć* I 307.23—(z błr.) skrzypieć,

*stomić* II 355.114—(z błr.) zmęczyć, zmordować,

*wereszczaka* II 199.102—(z błr.) wiejska potrawa z świeżej wieprzowiny,

*wijun* II 30.78; II 72.72—(z błr.) piskorz,

*wo!* II 36/.52—(z błr.) oto,

*zazłować* I 100.9—(z błr) rozgniewać się,

*zyczyć* II 181.203—(z błr.) krzyczeć, wrzeszczeć,

*zyk* II 182.217; II 235.77—(z błr.) krzyk, wrzask.

Слова dziąteł не беларускае, а зьяўляецца перакручанаю формаю польскага dzięcioł. Слова „казан“ запазычана беларусамі ў татар таксама, як „наўда“—у ліцьвіноў. Porosza і posobić маглі філёматы ўзяць і з расійскае мовы, а wereszczaka з w цьвёрдым нагадвае ў большай меры ўкраінскую фанэтыку, чымся беларускую.

У слоўнічку Я. Чубэка некаторыя словы, бясспрэчна беларускія, ня маюць адзнакі błr,

*rozkaraczyć* II 129.6—rozkraczyć, rozstawić,
*hładysza, hładyszka* II 308.112; II 308.116—naczynie na mleko,
*kieszenia* II 72.63—kieszeń, (слова, магчыма, запазычанае беларусамі ў палякаў, але тут яно з зьмененым канчаткам, што і зьяўляецца беларускаю асаблівасьцю).

Словы з зьмененаю фанэтыкаю Я. Чубэк звычайна не адзначаў, як беларускія. Дзеля таго словы:

*gledzić* I 258.462—patrzyć, oglądać (g, а не h! Л.Ц.),
*kolosa* I 262.526—kolasa, wóz (ko-,а не ka-!Л.Ц.),
*korowajna dzieża* I 299.233 (koro-,а не kara-!Л.Ц.) dzieża, w której się żmie, miesi korowaj, weselny placek,—ня маюць адзнакі błr.

У тых выпадках, калі слова можна тлумачыць, як вынік беларускага або расійскага ўплыву, Я. Чубэк часта (хоць і не заўсёды) прымае пад увагу выключна гэты апошні:

*kudry* II 63.78—(z ros.) kędziory,
*pojasek* II 217.302—(z ros.) pasek,
*mieł* II 107.13—(z ros.) kreda,
*czarto-połoch* I 302.322—(z ros.) oset (carduus acanthoides),
*horodniczy* II 30.67; II 35.54—(z ros.) burmistrz, хоць слова „гараднічы“ і было як раз у старой беларускай мове, адкуль, магчыма, яго запазычылі і расійцы).

Некалькі вельмі цікавых слоў ня маюць ніякіх уваг адносна свайго пахаджэньня, як, напрыклад:

*birulka* II 205.12; II 286.87—słomka, gra w słomki, dziecinna zabawka, baraszki,
*cierlica* I 302.311—przyrząd do otłukiwania włókien lnu z paździorów
*czurkiem* II 226.79—ciurkiem (цурком, л.ц.),
*duhowaty* II 102.30—krzywy, zakrzywiony (jak duha),
*druzgi* II 338.34 - drzazgi,
*hojdy* I 300.255—huśtanie,
*hybliwa sroka* I 302.302—gibliwa, co się giba, chwieje,
*kabanka* II 263.182—świnka,
*kaduk* I 140.148—djabeł,
*nie lza* II 90.34—nie można, nie wolno,
*nieochajny* I 304 358—plugawy, nieczysty, nieokrzesany, prostacki,
*pohań* I 54.28—pohańce, pogaństwo; *rusawy* II 178.126—nieco rusy, *rusy* I 201.147; II 183.255—jasnokasztanowaty; *sporysz* II 262.158—szkodliwy pasorzyt w zbożu (polygonum aviculare).
*rozjawić, rozziawić* II 44.13; II 70.3—rozdziawić.
*sklut* II 289.167—rodzaj topora.
*sustawa* II 235.81—staw, członek.
*zajca* II 170.186—zająca і г. п.

А паміж іншым, трэба заўважыць, што частка гэтых слоў—усходня-славянскага пахаджэньня, а некаторыя, хоць запазычаны з іншых моў, але атрымалі ўжо правы грамадзянства ў усходніх славян.

Урэшце Я. Чубэк адзначыў, але не растлумачыў, вельмі цікавыя прыклады непатрэбнае палёнізацыі:

*brzedzić* II 234.53—bredzić.
*jaskrzawo* I 25.101—jaskrawo.

Саўсім так-жа сама, як мазур, жадаючы правільна гаварыць папольску, скажа ня толькі czapka, szary, żelazo замест сваіх capka, sary, zelazo, але і czepa, szen, żając (cepa, sen, zając)—беларус скажа brzedzić і jaskrzawo. Ён баіцца свайго беларускага цьвёрдага *r* і дзеля таго ставіць *rz* нават і там, дзе ў самых палякоў ёсьць цьвёрдае *r*. У некаторых адносінах падобныя прыклады маюць нават большую вартасьць, чымся звычайныя беларусізмы. Гэтыя апошнія могуць зьявіцца і ў паляка, які доўга прыслухваўся да нашае мовы, а „беларусізмы на выварат" могуць быць толькі ў беларуса і пры гэтым сьведчаць аб адсутнасьці жывога пачуцьця польскае мовы, аб недасканалым валаданьні ёю.

Калі мы знойдзем у царкоўна-славянскім помніку „мла́нии" замест „мълнии", дык гэта сьведчыць, што перапісчык, усходні славянін, сам вымаўляў: мо́лонья або нешта падобнае з так званым другім ці глухім поўнагалосьсем. Поўнагалосьсе ў царкоўнай кнізе дапусьціць ён ня мог і перарабіў сваё „молонья" паводле саўсім няправільна ўтворанай ім прапорцыі—молотъ: млатъ=молонья : X. Адгэтуль X=млания (як яму здавалася). Нешта падобнае маем мы і ў словах brzedzić і jaskrzawo.

Апроч усяго вышэй паказанага, Я. Чубэк саўсім не зьвярнуў увагі на некаторыя словы—і маёю мэтаю зьяўляецца дапоўніць яго індэкс.

Поўнагалосьсе мы бачым ў слове *czereda* II 199.109; гэтае слова ёсьць і ў украінцаў.

Усходня-славянскія рэфлексы юсаў апроч адзначаных Я. Чубэкам duhowaty, kożelny, kusać, pokucie, sustawa ды інш., мы знаходзім у словах: *hałubczyk* II 1151; II 120.120; II 214218.

(hołubiec, як назву мясцовых скокаў, мы можам ня прымаць пад увагу).

*ruka* (trzymać w ruce) II 237.148.

(poruczać I 305383, а таксама і ня ўжытае ў філёмацкай паэзіі слова porucznik, зразумела, выразы ня чыста польскія, але яны сустракаюцца ў польскім пісьменстве, а porucznik нават адзіная літаратурная форма).

*lwiatek* II 120.115 у Чубэка выпраўлена на lwiątek, што я не магу лічыць бясспрэчным.

Цікавыя вінавальныя склоны siła II 189.51 і trocha II 102.32 і II 213211. даволі сьмела было-б тлумачыць так, як расійскае былiннае: „под старость надо *душа* спасти" і г. п., бо магчыма падобнае вымаўленьне, звычайнае ў польскім дыялекце нашае краіны,—аб'ясьняць і фанэтычна (бо і ў дзеясловах мы знаходзім тую-ж самую зьяву: prosza замест proszę).

Неўласьцівае польскай мове праясьненьне глухога гука ъ, мы знаходзім у слове:

*młokososy* II 353.73.

У польскім młokos з даўнейшага асноўна-славянскага *melkosъsъ мы знаходзім незразумелае зьняменьне двух глухіх у суседніх складах, і далей—адно *s* з двух—у выніку спрашчэньня. Але калі-б і не зьнямеў першы глухі гук ъ, дык ён праясьніўся-б у *e*, а не ў *o*—было-б *młokosesy, а не młokososy і *młokoses, а не młokosos. *Młoko*=замест *mleko*=іншае пытаньне, якога мы тут закранаць ня будзем.

Dońka (слова, уласьцівае беларусам і ўкраінцам), ужыта ў філёмацкіх творах у выразе „Pastorowa dońka". II 64101. У слове wspomionę I 14.130 (замест wspomnę) *ь* чамусьці праясьніўся ў нейкі гук поўнага ўтварэньня

можна думаць,—у *е* памякчальнае (тут няма розьніцы паміж усходнім славянствам і палякамі). Але потым мы бачым пашырэньне ў *о* памякчальнае, што ўжо ў польскай мове не зьяўляецца ўласьцівым для рэфлекса даўнейшага *ь*. Nadniemoński. II 148.36 (у жартлівым сказе) замест nadniemeński—мае *о* на месцы даўнейшага *ъ* і літоўскага *u* кароткага (Nĕmunas=Нёман).

Аканьне мы знаходзім у вышэй адзначаным haŀubczyk, а таксама і ў слове charosz II 184.275.

Уласныя йменьні з гэтаю асаблівасьцю, як, напрыклад, Alona I 196.10; I 19617; I 197.15 мы ня будзем прымаць тут пад увагу, бо, даючы сцэнку з беларускага (або з якога-небудзь іншага) быту, кожны пісьменьнік імкнецца захаваць мясцовае вымаўленьне ўласных іменьняў. Гэта надае твору мясцовую ахварбоўку. Адсутнасьць так званага пахіленьня, або сьціcканьня галосных (даўней доўгіх) гукаў сустракаецца даволі часта, хоць большаю часткаю—дзеля рытмы. Але бывае і бяз гэтае прычыны, напрыклад, у слове chodź I 106.9. Łętowski (Błędy nasze) лічыць гэтую форму наагул чужою, неўласьціваю для польскае мовы ў сэнсе przyjdź. Заўважым аднак, што слова pódź (замест pójdź) мае пахіленьне, але чамусьці згубіла j.

Паколькі адсутнасьць пахіленьня на пісьме лёгка можа зьявіцца чыста графічным шляхам, калі забудуцца на дыякрытычны значок, дык мы гэтае рысы ня будзем наагул прымаць пад увагу.

Нясьцягнутая форма членавога ймя приметнага сустракаецца толькі адзін раз, але гэта ўжо выразнае парушэньне правіл польскае фанэтыкі—відавочны беларусізм:

miłosnyje II 251.156. Мы бачым і цікавыя займеньнікі: ni sioje, ni toje I 314.110 (параўнай siaki-taki II 205.2, II 213.202, II 149.76).

Наадварот,—замест нармальнага польскага czyimi мы знаходзім czyjmi I 54.19.

У галіне кансанантызму мы знаходзім перш за ўсё *r* цьвёрдае. Ня толькі ў адзначаных Я. Чубэкам выпадках: kudry I 63.78, kudrawy II 249.115; II 338.23, II 341.87, і г. д., але і ў некаторых іншых словах мы заўважаем зацьвярдзеньне *r* мяккога. Апроч слова dranie I 50.18, дзе мы не знаходзім поўнага супаданьня з беларускаю фанэтыкаю, бо ў нас гавораць: дрэнь, мы маем, напрыклад, *bury* II 66.24 (у сэнсе нагонкі), zrucić II 51.63 замест zrzucić (падобны выраз ёсьць у Віцебскім слоўніку М. Касьпяровіча і ў дзеньніку Тодара Еўлашэўскага ў апісаньні яго прыгоды з „агністым чалавекам“, але лепш будзе тлумачыць гэта нармальнаю польскаю дысыміляцыяю, як źrenica, srebro г. г. д.).

Элевае памякчэньне губнога гука мы знаходзім у слове ziemlankę I 41.172. Асаблівасьць у рэфлексе асноўна-слав. *dj*—ryże (у сэнсе rude); а грыб-рыжык па-польску будзе з нармальным рэфлексам—з гукам dz —rydz. Ryże мы бачым у адным месцы I 12.88. *H* замест *g* можа быць у выніку ўплыву збоку розных славянскіх моў. Таму словы: bohaty II 46.36, bohomazy II 207.55, zahacał II 49.96 і г. п. не зьяўляюцца паказаньнем на запазычаньне абавязкова з нашае мовы.

Але *dzie-ż* замест нармальнага польскага gdzież II 72.62 ёсьць сапраўдны беларусізм. Тут задня-нёбны гук саўсім зьнік. Нядобра зрабіў Я. Чубэк, што дадаў да пачатку слова—*g*. Гэтым ён схаваў цікавы факт. Ёсьць і jdzie II 175.28 таксама самавольна выпраўленае Чубэкам на gdzie. Такое самае тлумачэньне, як для jaskrzawy і brzedzić павінны мы дапусьціць і для слова *krwiożerce* I 316.39 (імя прыметнае). Ведаючы, што часта там, дзе пабеларуску ёсьць *ч*, у палякаў мы знойдзем *ц* (noc—ноч, lecę, лячў-лётаю),—малады пясьняр-беларус падумаў, што krwio-żercze будзе гучэць не папольску, а пабеларуску,—і зьмяніў *cz*

на *с*). Іншага тлумачэньня для польскага пісьменьніка, не мазура, мы ня можам знайсьці.

Гэты выпадак, разам з jaskrzawo ды brzedzić, нагадвае нам такія зьявы, як вымаўленьне цяпер пры беларусізацыі некаторымі расійцамі слоў *палка* і *полка* з *ў* на месцы *л*,—памылкі ў выніку няправільнае аналёгіі.

Заўважым яшчэ некаторыя цікавыя беларусізмы ў галіне лёксыкалёгіі.

*chwost* II 52.26 (слова звычайнае ў усходніх славян).

*dzieciuk* II 313.82.

*durny* II 35.32.

*durnowaty* II 262.172.

*kożuch* II 214.213.

*łomie* (замест łamie) I 302.325.

*chystać się* II 238.177.

*nie lza* II 11.80 (кампраміс паміж беларускім *нельга* і расійскім *нельзя*—адзначан і Чубэкам, толькі ў іншым месцы—II 39.34).

*skok* (у сэнсе „танец") II 298.153; II 315.144; II 280.92; II 338.24.

oń II 213.190; uń II 213.192; II 286.94; II 287.122; II 184.275; II 184.276.

*stołowanie* (замест stalawańnie чыста беларускае формы=столь, а польскаму sufit) II 210.129.

З галіны марфалёгіі варта зьвярнуць увагу на формы *carmi* I 52.82, хоць я і ня ведаю, ці ёсьць такая форма ў беларускіх дыялектах.

Далей цікаваю зьяўляецца форма myślów II 38.54 (у іншым месцы I 78.436 ёсьць і zbrodniów, але, паколькі ў польскай мове ёсьць ня толькі zbrodnia злачынства, а і zbrodzień, тое самае, што zbrodniarz—злачынец—гэты прыклад ня можа лічыцца пэўным).

Адзначым таксама выраз: w niezdrowym *humoru* II 103.14, беларускі дыялектызм, ужыты Адамам Міцкевічам. У сучаснай літаратурнай беларускай мове было-б „гумары", а ў польскай—humorze.

Далей ёсьць *z brzucha*, а ня z brzuchu, што было-б нармальным для слова brzuch. Таму можна думаць, што тут (II 174.4) мы маем форму ад слова ніякага роду—*brzucho, а гэта ўжо нагадвае нам беларускае „бруха" (і расійское „брюхо").

Ёсьць *Chrysta* замест Chrystusa II 197.62, *tygry* (замест tygrysy) II 108.30.

Ёсьць формы загаднага ладу, дзе зьнікканчатковы j: *pękni* II 214.213 (przypomnicie II 172 (проза 8) і przypomnicie II 194.74, магчыма, будучы час)

*kował* (замест нармальнага польскага kuł II 101.1.

*pława* (замест pływa) II 212.176

У сынтактычных адносінах варта зьвярнуць увагу на сказ; ja wielki baba II 71.29. Далей трэба адзначыць, што пабеларуску часам якбы „злоўжываюць" словам „яно", устаўляючы яго нават без сапраўднае патрэбы. Мусіць, у некаторых філёматаў заўважалася гэтая загана, бо мы знаходзім прыяцельскія пародыі: a, ono, lej równo II 180.162; jak, ono, Bożydar II 180.174.

Гэты раестр няпольскіх слоў і зваротаў можна было-б значна пашырыць.

Але, па-першае, мы бралі толькі найбольш цікавыя і характэрныя прыклады (адкідаючы ўсё няпэўнае, усё тое, што можна тлумачыць іншым спосабам), а па-другое, мы абмежаваліся толькі філёмацкаю паэзіяю.

У прозе—галоўным парадкам—у лістох беларусізмаў таксама нямала.

Пабачым цяпер, якія беларусізмы найбольш цікавы ў кожнага з маладых пісьменьнікаў—філёматаў.

*Адам Міцкевіч.*

borуczki, busiak, hlaczek, kraska, kudry, łaszczyć się, kował (замест нармальн. польск. kul), rozkaraczony, siaki-taki, w niezdrowym humoru, rozziawić (беларускае „разьзявіць“, тады як па-польску павінна быць rozdziawić)“, ды жартлівае nadniemońskim.

*Ян Чачот.*

busiać, busiak, cieciera, pohań, pokuć (у Чубэка няправільна ўтворана форма наз. скл. адз. лік—уроkucie: здаецца, што ў нас гаворадь: „покуць“, а не „пакуцьце“, sporysz, sustawa, zazłować, zyk, ruka, chodź, bura (=нагонка; гэтае слова і наагул сустракаецца ў польскай літаратуры), ziemlanka, ryży, chwost, durny, durnowaty, chystać się, skoki (=танцы), Chrysta, tygry.

*Нупрэй Петрашкевіч,*

bohozerca, ciosek, hładysza, hładyszka (гэтыя два словы знаходзяцца ў творы, які Чубэк прыпісвае Петрашкевічу), rusy, zajca, dzieciuk (слова, ужытае Нупрэем Петрашкевічам, як думае Чубэк), skok (=taniec)—таксама.

*Тамаш Зан,*

buś, cieciorka, hlaczek, hybliwy, każan (у аўтэнтыку няправільна—karzan), kieszenia, kolosa, korowajny, komie, kostry, kużelny (у аўт. kóżelny), kraska, nieochajny, oplauszyć, rusy, rusawy, sklut, skryhiczeć, zyczeć, zyk, hałubczyk, lwiatek (р. скл. мн. л.), charosz, ni sioje, ni toje, siaki-taki, dzie-ż, kożuch, stołowanie, skoki (=танцы), łomie (3-ая асоба адзін. ліку), oń, uń, myślów (р. с. мн. л), pękni (загадны лад), pława (3-я ас. адз. л.), rozjawi (=разьзявіць).

*Тодар Лазінскі.* Kusać się, stomić, wo, milosnyje, kudrawy.

Гэта, зразумела, далёка ня поўны пералік філёмацкіх беларусізмаў.

Тая абставіна, што найбольш беларусізмаў знайшлі мы ў Тамаша Зана і Яна Чачота, саўсім не даводзіць, што яны найлепш захавалі сувязь з роднаю моваю, што яны найменш падпалі пад уплыў польскае культуры. Справа ў тым, што Зан і Чачот далі найбольш мат‘ялу для філёмацкіх зборнікаў.

У процантных адносінах Адам Міцкевіч і Нупрэй Петрашкевіч даюць ня менш, а, мо‘, й крыху больш беларусізмаў, чымся Зан і Чачот.

Уласныя йменьні і мянушкі ў філёматаў у значнай меры беларусізаваны. Мы знаходзім „Язэпа“ (Jeżowski), „Ануфрука“ (Pietraszkiewicz), „Цішку“ (Kowalewski Józef), „Тодара“ (Łoziński), „Казюка“ (Piasecki).

Знаёмую кабету Ізабэлю Збароўскую яны завуць Забэляю (звычайнае ў беларусаў скарачэньне гэтага ймя).

Усё чыста, што толькі мае сувязь з роднаю краінаю, вельмі цікавіць філёматаў.

Ня толькі пішучы свае „сялянкі“ (з Палахнамі, Арынамі, Алёнкамі, Анікамі і г. п. ў якасьці дзейных асоб) філёматы выяўлялі гэту цікавасьць. Ім хочацца ведаць, як трэба скакаць менскага „Мікіту“. (Тамаш Зан. II 101.148 і 149, гаворыць: W nieznanym wam tańczyku pokażę się solo. Oto wam potańcuję mińskiego Mikita).

У польскія свае творы філёматы ўстаўляюць ня польскія, а чыста беларускія прыказкі й прыслоўі.

1) Czem chata bohata, tem ci budzieć rada II 36.62. (Ян Чачот).

2) Не адзін Гаўрыла ў Полацку (Czyż rozumiesz, że jeden Hawryło w Połocku? I 260.196. Словы Вятрана ў камэдыйцы Тамаша Зана Gryczane pierożki). Гэтае прыслоўе ўсім добра вядома. Заўважым паміж іншым, што „Гаўрыла з Полацку“—адзін з псэўданімаў Цёткі (Алёізіі Пашкявічанкі).

3) Niech silnie, jak się kto chce, wierci—i tak prędzej czy później nie uniknie śmierci, (там-жа словы Хватоша I 246.284,285). Гэта польскі пераклад нашае прыказкі: „Круці, ня круці, а трэба ўмерці". Сама гэтая прыказка ўгрунтавана на нашай-жа беларускай казцы аб лекару і сьмерці. Лекар ведаў: калі сьмерць стаіць над галавою хворага, дык гэта знак, што той памрэ.

Вось лекар і зрабіў сабе ложка на аднэй ножцы, каб яно магло круціцца. Калі прышла сьмерць, дык стане яна над галавою лекара, а ён перакруціць ложка—і сьмерць ужо стаіць у нагах, а не над галавою яго. Сьмерць зазлавалася, ускочыла на ложка, села на галаву дасьціпнага лекара. Як ён тады ні круціўся, а сьмерць усё роўна была ўжо на яго галаве і ўрэшце задушыла яго.

Часам можна думаць, што было нейкае прыслоўе, цяпер забытае, якое ведалі філёматы.

Z dawnej polskiej szarawary zrobił byś fraków dwie pary (Ян Чачот II 14.79,80. Walka miodowa. 21 сьнежня старога стылю 1818-га году).

У вершы Яна Баршчэўскага „Рабункі мужыкоў", напісаным у 1812-м годзе, мы чытаем амаль што тую-ж самую жартлівую ўвагу аб старых польскіх вопратках у параўнаньні з новымі модамі: „З аднэй палы ў тых паноў семера-б пашыў штаноў".

Мне асабіста здаецца, што філёматы маглі пачуць дзе-небудзь гэты твор Яна Баршчэўскага і запазычыць гэты гіпэрбалічны цікавы сказ.

Але ня выключана магчымасьць, што ў народзе існавала, а, мо' й цяпер існуе нешта падобнае.

Ян Чачот у сваім вершы на імяніны Зана (Na święto Tomasza) 21 сьнежня 1819 году карыстаецца нейкім апокрыфам, які да філёматаў дайшоў, магчыма, праз беларускую народную творчасьць.

Там гаворыцца, што фарысэі з ашуканскімі мэтамі схавалі пад карытам адну з сваіх кабет і яе дзетак, і што за гэта ашуканства жанчына зрабілася сьвіньнёю, а дзеткі парасятамі.

А дзеля гэтага патомкі фарысэяў цяпер ніколі не адважваюцца есьці сьвініну.

Ян Чачот аб гэтым паданьні гаворыць: „Może też niosę i niepewne wieści, co usta rozsiały mnisze". II 196 34:35. Магла падобная легенда дайсьці да народу і далей пашырацца пры дапамозе малаасьвечаных праваслаўных і каталіцкіх манахаў, пілігрымаў, пабожных вандроўнікаў і г. п. Але адкуль яна прышла да нас і якая яе першакрыніца?

Гэтую легенду мы знаходзім у выдадзеных Інстытутам Беларускае Культуры „Казках і апавяданьнях беларусаў Слуцкага павету" Аляксандра Сяржпутоўскага Менск 1926 г. (стар. 97 і 98. „Адкуль узялася сьвіньня", апавядаў Бохмат з Чудзіна).

А падобных неразьвязаных пытаньняў паўстае шмат пры чытаньні філёмацкіх твораў. Апошняе слова тут належыць спэцыялістым—дасьледчыкам фальклёру.

Але і цяпер ужо можна сказаць, што бясспрэчнаю зьяўляецца сувязь філёматаў з беларускім народам. Якая была гэтая сувязь: ці толькі бытавая (уплыў на філёматаў з боку жывое народнае гаворкі і фальклёру ў выніку іх дробна-шляхоцкага пахаджэньня і доўгага жыцьця на вёсцы), ці, мо', нават і ідэялёгічная ў пэўным сэнсе (natione Poloni, gente autem Alboentheni),—гэтага я пакуль-што вырашыць не магу.

Тут патрэбны доўгія, усебаковыя досьледы. Я-ж меў сваёю мэтаю зьвярнуць увагу на неабходнасьць такіх дасьледзінаў, бо бяз іх шмат чаго няяснага застанецца ў гісторыі нашае бацькаўшчыны і яе літаратуры.

5 студзеня 1927 г.

**Л. М. Цьвяткоў.**

# Увагі аб мове філёматаў.

## II. Асаблівасьці нашае мовы ў беларускіх філёмацкіх творах Яна Чачота.

Ян Чачот, як Адам Міцкевіч, Тамаш Зан і некаторыя іншыя філёматы (члены культурна-асьветнага студэнцкага Віленскага гуртку першае чвэрці XIX сталецьця), паходзіў з тае краіны, адкуль бярэ свой пачатак наша сучасная літаратурная мова. Большая частка нашых найлепшых пісьменьнікаў вышла з працоўных мас цэнтральнае Беларусі, да якое належыць і Наваградзкі павет, радзімая старонка Яна Чачота.

Найлепшы знаўца беларускае дыялекталёгіі ак. Карскі ў сваіх „Белоруссах" характарызуе цэнтральны дыялект у наступных словах:

„Гутарка чыста беларуская з мерным аканьнем. Калі пачаць з Навазыбкава і весьці мяжу на захад па паўднёвых частках паветаў Гомельскага, Бабруйскага, Слуцкага, Наваградзкага на Слонім, Ваўкавыск і далей на поўночны захад да ўтоку Ратнічанкі (Друзгенікі), а потым па паўночна-заходняй мяжы беларускага пляменьня, дык мы большменш дакладна вызначым граніцу гэтых гаворак. Іх адзнака—мернае аканьне ў складох, адсунутых ад націску да пачатку слова, а таксама і ў складох, якія стаяць беспасрэдна за націскнымі, але не ў канцовых адкрытых—магчымым бывае зьяўленьне ненаціскных *о* і *е*. У паўднёвых частках—замест іх у некаторых выпадках бывае магчымым зьяўленьне закрытых *о* і *е*, блізкіх да *у* і *ю*, а ў націскных складох у тых-жа мясцовасьцях спарадычна (як відаць) зьяўляюцца дыфтонгі. Другая рыса гэтае групы—адсутнасьць-*ць* у трэцяй асобе адзіночнага ліку пасьля *е*, дзеясловы з асновамі на -*і* маюць-*ць*, у іншых выпадках яно зьяўляецца толькі спарадычна (ёсьць, дасьць і яшчэ дзе-не-дзе).

На ўсход ад Менску нават і замест—*іць* бывае *е* (кіне). Дз' і ц' мяккія ў поўнай моцы; усюды *р* цьвёрдае; канчаткі ў дзеясловаў -*ся*,-*се* але -*ца*, перад *о* звычайная прыстаўка *в*, хоць замест *в* асноўнага ў пачатку слоў часам бывае *h* („горабей" пры „верабей").

Назіраньні акад. Карскага для нас вельмі цікавы з розных поглядаў.

Папершае, мы бачым, што нашая літаратурная мова, якая ня ведае ненаціскнога *о*, ёсьць у пэўнай меры kојnе dialektos—вынік сынтэзу моцнага і мернага аканьня. Барысаўска-Полацка-Магілеўская гутарка мела ўплыў у тым сэнсе, што ў нас *о* ня пішуць цяпер у ненаціскных складох, але краіна мернага аканьня ўсё-ткі мае перамогу, бо *е* ў нашай літаратурнай мове вельмі часта зьяўляецца і бяз націску. Я-б сказаў нават, што чуецца ня *е*, а гук даволі блізкі да *і*, бліжэйшы да *і*, чымся да *е*.

Далей такія формы, як *кіне*, *нясе*, у літаратурнай мове пераважаюць над формамі *кінець*, *нясець*. Гэтая зьява, як гаворыць акад Карскі, характэрна для цэнтральнае гаворкі.

Найбліжэй да літаратурнае мовы з усіх цэнтральных гаворак стаіць, як здаецца, гутарка Менска-Вілейская, ужо сумежная з краінаю моцнага аканьня.

Усе гэтыя пытаньні, аднак, разглядаць падрабязна тут мы ня можам, хоць у некаторых адносінах яны цікавы ня толькі тэарэтычна, але таксама й практычна (напрыклад, у сувязі з праблемаю рэформы нашага правапісу ды інш.). Мы цяпер хочам нашыя апрыёрныя, перадузятыя думкі адносна беларускае мовы ў ранейшых творах Яна Чачота праверыць на фактычным матар'яле.

У Яна Чачота апроч беларускіх уставак у польскіх вершах (Czem chata bohata, tem ci budzieć rada. II 36.$_{62}$ і г. п.), якія мы знаходзім і ў іншых філёматаў, напрыклад у Тамаша Зана („Panie! księże! szto heta? Da nie durej wasza... Oto-wże...“ II 217.$_{300}$ : $_{301}$; Ej, padymi, padymi пу: a u lesie kot! Hu, kot tut!)—ёсьць і цэлыя беларускія творы з тае-ж самае філёмацкае эпохі.

Гэтыя творы наступныя: 1) Імянінпае павіншаваньне (Язэпу Яжоўскаму)—цікавая невялічкая драматычная сцэнка з песьнямі; 2) Прывітаньне Францішку Гераніму Малеўскаму і 3) Верш на прыезд Адама Міцкевіча.

Карыстацца мы будзем выданьнем Яна Чубэка (Archiwum Filomatów, część III $_{2}$ Poezya filomatów. Kraków 1922 г.).

Парадак разгляду ў нас будзе такі. Мы возьмем характарыстыку цэнтральнае гаворкі, дадзеную акад. Карскім і кожную рысу будзем прасочваць па нашым матар'яле.

Пачнем з фанэтыкі.

Ненаціскное *о* мы знаходзім часам нават у апошнім адкрытым складзе.

heto II 76.$_{1}$, 77.$_{26}$, 78.$_{35}$ і інш. (поруч з hetta II 77.$_{16}$; 78.$_{33}$; 84.$_{172}$, borzdo II 78.$_{38}$; leto II 79.$_{66}$ (рытма heta ў папярэднім вершы); sonko II 80.$_{79}$; smaczno II 80.$_{81}$; brydko II 81.$_{99}$; baćko II 82.$_{121}$, sieno II 82.$_{130}$; czasto II 83.$_{141}$; Alenko II 83.$_{149}$; usiuteńko II 83.$_{151}$; kolko II 82.$_{121}$; kiepsko II 82.$_{124}$; zamnoho II 79.$_{65}$; tolko II 79.$_{69}$; charaszenko II 202.$_{9}$; borzdzienko 202.$_{10}$; jasno 202.$_{23}$; milaho II 80.$_{93}$; Alonko II 84.$_{169}$; słonko II 84.$_{171}$; krikniemo II 187.$_{3}$; naprasno II 202.$_{25}$; smutno II 202.$_{31}$; mutno II 202.$_{33}$; douho II 203.$_{38}$ і 83.$_{141}$; mało II 82.$_{120}$ і II 79.$_{60}$.

Аднак часам мы бачым аканьне ў апошніх адкрытых складох: naprasna II 82.$_{135}$; heta II 84.$_{167}$ (і вышэй прыведзенае hetta), horła II 187.$_{1}$; sonka II 202.$_{23}$; dobra II 81.$_{115}$.

Я ня ведаю, як трэба тлумачыць гэтую зьяву. Магчыма, што оканьне на пісьме ёсьць проста ўступка этымалёгіі і не адбівае фанэтычнае сапраўднасьці, але давесьці гэта вельмі цяжка. З другога боку, калі мы будзем думаць, што оканьне тут не правапіснае, а сапраўднае, дык heta, hetta, horła, sonka ды інш. прыдзецца лічыць простымі lapsus calami.

Прыклады оканьня ў пасьлянаціскных складох апроч вышэй адзначаных форм наступныя.

Żyznoj II 76.$_{2}$; і pszenicoju II 77.$_{7}$; dziewoczki II 73.$_{37}$; ustużaczcy II 78.$_{38}$; pakosom II 79.$_{67}$; nosom II 79.$_{69}$; czerwońcou II 79.$_{70}$; niekrutou II 79.$_{72}$; biełoje II 80.$_{81}$; chlebom II 80.$_{95}$; pannou II 81.$_{102}$; naszoj II 87,$_{124}$; zielonoj II 93,$_{154}$; czystom II 83,$_{166}$; żadnoj II 84,$_{175}$; dziewoczku II 187.$_{19}$; tymczasom II 202.$_{18}$; smutok II 203.$_{37}$; sinioj 78.$_{36}$; sotnoje II starość II 81.$_{112}$; dobroj II 82.$_{126}$; prychilność II 77.$_{23}$; sieno II 82.$_{130}$.

Оканьне бывае і ў перадпаціскных складох.

Wozić (інфінітыў) II 79.$_{52}$; koristać II 81.$_{106}$; na kochaniu rozwiesielić II 84.$_{119}$; pojmaci II 187.$_{15}$; powierni II 84.$_{185}$.

Некаторыя выпадкі оканьня мне здаюцца не саўсім пэўнымі. Światoho II 77.22; miłaho II 80.93; załatom II 201.5 можна лічыць проста вынікамі сьпешнага пісаньня. Mikitoju, mukoju пастаўлены дзеля рытмы. (II 82.138; 140), Haryłoczku II 202.20 для мяне не саўсім ясна. Ры (ry) замест рэ (re) бывае звычайна ў ненаціскных складох, а тут на гэтым складзе павінен быць націск, Z hareɫkoi (калі нават мы выправім і на j) усё-такі не саўсім ясна, бо сказ: Da z hareɫkoi plaszeczku swat ad niaho k niej jechau II 137.9 i 10 ня будзе зразумелым без некаторых зьмен (напрыклад, можна першыя словы чытаць: Da z hareɫki plaszeczkaj).

Odkryć II 84.176 (словы дзесятніка) можна лічыць знарок пастаўленым польскім словам: у дзесятніка мы наагул сустракаем шмат палёнізмаў. Moliny (замест maliny) II 84.186, зразумела, просты недагляд, бо *о* тут быць не павінна Tobie II 84.186 можна тлумачыць такжа сама, як і odkryć.

Прыкладаў аканьня апроч апошніх адчыненых складоў можна знайсьці шмат, *А* на месцы *О* сустракаецца часта.

Перад націскам: abaczyu II 77.3; astrowy 77.6; charoszy 77.8; czarnaziemny II 77.8; II 83.157; smałoju II 77.11; ablepleny II 77.11; dastau II 77.13; wałacuhu II 77.12; taje II 88.19; razkoszy II 77.12 і ў інш. месцах; adnak II 77.13; pa niebieśkoj woli II 77.15; pahadziemsia II 77.17; my sia dawiedali II 77.21; Jazepa II 77.22; sabie II 77.23; і ў інш. месцах; paznali II 77,23 dwara II 77.25; maskalou II 78.28; maładziec II 78.31; żaunier II 78.31; daskanały II 78.31; staić II 78.31; u Madlinie II 78.32; kabylinku II 78.32; Alonka II 78.35; baicca II 78.48; zdarou II 79.50: pa polu II 79.51; saławiej II 79.53; II 202.27; charaszo II 79.53; zdarowy II 79.55; twajo 79.57; razmowy II 79.57; saławja II 79.58; sachi II 79.59; barany II 79.59; pakosom II 79.67; kasiec II 79.68; tabie II 79.69; і ў інш. месцах; da biesa II 80.73; adjeduć II 80.78 ad matulki II 80.78; charoszoje II 80 79; małaczko II 80.81; u dajoncy II 80.82 cnatliwa II 80.86; razumnaja II 80.86; saroka 80.92; da nas II 80.94; paczciwych II 80.96; paszlubiać II 81.98; paprausie II 80.107; kali II 80.112; і ў іншых месцах; mauczycie II 82.119; hałubczyku II 82.122; pa ruśki II 82.123; pa polśki II 82.124; haworać II 82.124; kazioł II 82.125; swajej II 82.128; Alonki II 82.128; pahonisz II 82.129; chałodnym II 82.131; Jazepowy II 82.132; maja-ż II 82.133; litawacca II 82.137; paznacca II 82.139; paciechy II 83.142; ad ciebie II 83.142; dahetu(l) II 83 145; paznała II 83.145; taboju II 83.146; II 187.20; ahledała II 83.147; majeje II 83.148; hadzinu II 83.148; paznaj II 83.149; Alenko II 83.149; twaje II 83.150; twaju II 83.180; awieczek II 83.153; pa zelonoj paszy II 83.154; karou II 83.155; abory II 83.156; maje II 83.157; II 84.184; Alonko II 84.169; majeju II 84.170; razumny II 84.178; pażyteczny II 84.176; gadzinu II 84.180; kachany II 84 185; adnak II 84.188; praporcy II 84.188; hareɫki II 84.190; pakincie II 187.1 і 2; adno II 187.3; zdarow II 187.4; błahasławi II 187.5; pakachau II 187.8; hareɫkoi II 187.9; Hieranim II 187.13; da byczka II 187.16; admowisz II 84.174. paczali II 187.18; charaszenki II 201.3; pad niom II 201.4; waranienki II 201.4; adziet II 202.9; charaszenko II 202.9; atczyniajcia-ż II 202.11; waratca II 202.11; na dwary II 202.12; małatca II 202.13; zdarou II 202.14; hawary II 202.17; kaubasy II 202.19; haryłoczku II 202.20; wazmiom II 202.21; hałasy II 202.21; pa tabie II 202.32; naharadzi II 203.37.

Такім парадкам мы бачым, што аканьне на месцы даўнейшага *о* у перадпаціскных складох зьяўляецца правілам, а оканьне—рэдкім выключэньнем.

Прасачым цяпер аканьне ў пасьлянаціскных складох (апроч апошніх адкрытых):

dobraje II 77.17; acesara II 78.27; nieszczyraści II 78.15; hołas II 79.58; uczapy II 79.61; niehadziaju II 84.168; (ад слова *niehadź такога-ж самага скланеньня, як косьць); acesar II 84.179; (і два макаранічныя выразы leżanc i kryczanc II 84.183; 184; пры krycząc II 74.191); radaści II 202.25.

Мы лёгка можам пераканацца, што ў філёмацкіх творах Яна Чачота перадпаціскное аканьне значна больш пашырана, чымся пасьляпаціскное.

Пераходзім цяпер да яканьня.

У перадпаціскных складох:

siahodnia II 77.21; imianiny II 77.22; szczebiatała II 80.91; ciałuszcy II 187.14; wiasioł 202.16; wiasioł II 202.22; laleja (замест *leleja—рас. лилия); ad niaho II 187.10.

У пасьляпаціскных складох:

zalecajecia II 77.7; niehadziaju II 84.168; ziaja II 201.5; taja II 201.6; atczyniajcia-ż II 202.11; prymajcia-ż II 202.13; dzieja II 202.15; uspieja II 202.17; budziam II 202.19; II 202.22; pieja II 202.27.

Яканьне, як мы бачым, пашырана нязначна. Большаю часткаю мы знаходзім еканьне і перад, і пасьля паціску.

Гэтых выпадкаў такое мноства, што прыводзіць іх усіх я лічу непатрэбным: czujem II 78.13; pawinszujem II 78.17; znajem II 78.19; siedzim II 77.19; zaspiewajcie II 78.37; zaspiewajem II 78.44; nieszczyraści II 78.44; soleju II 80.95; wiesioł II 79.56; spiewaci II 79.60; budziem II 79.50; uciekajem II 7972; ładnyje II 81.108; pieje II 79.53; tyje II 84.182; toje II 187.17; ablepleny II 72.11 і г. н.

Думаецца, што, калі мы маем дублеты, як wiasioł і wiesioł, pieje і pieja, дык трэба яканьне лічыць фанэтычнаю зьяваю, а еканьне тлумачыць імкненьнем да этымалёгічнага правапісу.

*Е* непамякчальнае большаю часткаю застаецца бяз зьмены:

waszeć II 76.1; pszenicoju II 77.7; choczem II 77.13; czerwiaczok II 79.4; czerwoncou II 79.70; zausze II 79.71; pszeniczka II 80.80; szczebiatała II 80.91; jedź-że II 80.94; choczesz-że II 83.147; ciełuszeczek II 83.155; czernaziemny II 77.8; II 83.157; pszenicu II 83.158; żenoju II 84.170; waszej II 187.14; iszczem II 202.25; płacze II 202.32; bolszej II 77.18; piered II 79.69; skażem II 78.39; zwiażem II 78.41; niechaj-że II 83.143; Elżbietka II 78.36.

*Я* замест *i* знаходзім у слове dziwiam II 77.9; (дзеяслоў другога спражэньня dziwicca прыняў у данным выпадку канчатак-iem, а ў выніку яканьня атрымалася-iam; нармальнымі гэтыя канчаткі маглі-б лічыцца для першага спражэньня).

Замест niama мы бачым nima II 77.12; замест śpiawać—spiwać II 84.192. Гук *ы* замест *a* ў сучаснай нам мове мы знаходзім у слове *dy—ды*, а ў філёмацкіх творах Я. Чачота мы бачым—*da*: II 80.94; II 81.99; II 187.1 3, 4, 7, 9, 12, 13, 16, 17, 18, II 201.3; 202.14, 15, 16.

Замест даўнейшага ѣ мы ў адным выпадку знаходзім і нават пад паціскам: snih II 201.6.

Замест *sia* мы бачым у вадным выпадку *sie*: paprausie II 81.107.

Замену на пісьме даўнейшага *ja* праз *je* мы заўважаем ў слове rownaje (pszeniczka) II 80.80.

Можна тлумачыць гэта тэю абставінаю, шко канцовыя *je* і *ja* не адрозьніваліся ў вымаўленьні.

Пашырэньне *e* памякчальнага („пераход *e* ў *ё*") адбываўся не заўсёды.

Па-першае зазначым, што няправільнага пашырэньня перад мяккасьцю няма. Слова jeśćзаўсёды пішацца праз *e*, а не праз *o*. Прыкладаў мы прыводзіць тут ня будзем, бо іх за шмат.

Так-жа сама мы бачым ня z joju, a z nieju II 80.89; II 81.97, ня k joj, a k niej II 187.10, не majoju, a majeju II 84.170.

Ёканьне пры адсутнасьці націску мы знаходзім у слове jona II 202.77, поруч з jena II 80.89; II 80.93; (нармальнага ў сучаснай літаратурнай мове слова jana ў разгледжаных намі творах Яна Чачота саўсім няма); цікава яшчэ слова cieniom II 82.131

Пасьля зацьвярдзелых зычных, зразумела, будзе ўжо ня *ё* а *о*: charaszo II 79.53 (ёсьць і дзіўная форма charoszoje з *о* ў двух суседніх складох), czerwiaczok I172.49. Аднак усюды мы бачым jeszcze, без пашырэньня, якое ёсьць ў расійскім *ещё*

Адзначым яшчэ форму twaje (szczaście) II 83.150, a таксама й слова uże II 84.167. (аднак ёсьць і użo-ż II 202.12; II 83.143). Такім парадкам адсутнасьць пашырэньня ў канцы слова можа быць ня толькі пасьля зацьвярдзелых зычных, але і пасьля j.

У літаратурнай беларускай мове *у* і *о* націскныя ў пачатку складу і, асабліва, у пачатку слова прымаюць прыгук *в*: вуха, вока, навука, заворваць. У некаторых выпадках (ужо нефанэтычна, а пад уплывам аналёгіі з боку іншых форм) зьяўляецца j: ён, пад уплывам яго, яму і г. п.

Наагул кажучы, мы можам заўважыць, што націскныя *о* і *у* не могуць пачынаць сабою слова.

У разгледжаных намі творах гэтае правіла не захоўваецца; on II 77.25; usa II 78.29; a oń, a oń II 201.2; nauczny II 84.178; O.5 II 78;31; nie uczany II 79.61; oczy II 78.35.

*У* складовае і *ў* нескладовае так-жа сама, як і ў цяперашніх песьняроў, ужываюцца не заўсёды згодна з правіламі нашае граматыкі (licentia poëtica). Прыкладаў прыводзіць ня буду: па першае, іх за шмат, а па другое, яны нічога новага не дадуць нам у сэнсе фанэтычных зьяў, бо тут мы маем літаральна тое-ж самае, што і ў кожнай чытанцы з творамі нашых сучасьнікаў. У аўтэнтыку няма паасобнага значка для *ў* нескладовага; але рытм дапамагае нам адрозьніваць *у* ад *ў*. Часам *ў* выражаецца напісаньнем *w*: salawja II 79.58; rownaje II 80.80; zdarow II 188.4; (пры роўналежным напісаньні zdarou II 202.14).

*I*, як мне здаецца, не пераходзіць у нескладовы стан пасьля канцовага зычнага, які знаходзіцца ў папярэднім слове. Паводле правіл вершаваньня мы павінны чытаць, напрыклад, словы: swinie u repie i dziubu i polskije tancy II 78.34.—з *ў* нескладовым (у рэпе), але з складовымі злучнікамі *і* ў адным або двух выпадках. Так-жа сама: cnatliwa i razumnaja трэба чытаць з *і* складовым (як гэта відавочна з ліку складоў у адпаведным папярэднім радку—jaśniejsza jeść i bielszaja) II 80.84:86.

У вершы на прыезд Адама Міцкевіча мы чытаем: Smacznu haryłoczku pić... i budziam wiesiело żyć II 202.20:22, хоць перад *і* стаіць галосны гук у (ы) у слове halasy.

Тое самае і ў рамансе Мікіты: Uzdychać jeszcze naprasna i cierpieć na siercu nudu II 82.185:186, у словах дзесятніка: Razumny i nauczny, ludziam pażyteczny II 84.178.

*Е* замест *я* мы знаходзім у слове paparausie II 81.107. Ня ведаю, ці можна так-жа сама глядзець на прыклад: „Da jak się tabie dzieja?" (II 202.15). Тут усё-такі ж напісана *е* насовае, хоць, магчыма, філёматы, як і шмат іншых людзей польскае культуры, вымаўлялі слова się без насовага прыгука, нават чытаючы польскі тэкст. Аднак асьцярожней будзе ня лічыць гэты прыклад бясспрэчным. *О* замест *у* (*u*): Pszenicu rodziać bojnuju II 83.158 я лічу не фанэтычным зьявішчам, а вынікам уплыву з боку слоў: „бойкі", „баявы" і г. п.

Е (іе), а ня Э (е) бачым мы ў слове па siercu (мы чакалі-б па sercy—месны склон адзіночнага ліку); serce II 84.176. знаходзіцца ў польскім сказе; але таксама ёсьць і z serca II 187.8—у чыста беларускай песьні „Da pakincie horla drać“.

Адносна зычных трэба заўважыць цікавую асаблівасьць: *S* у суфіксе—СЬК захоўвае сваю мяккасьць—сьлед даўнейшага *Ь*. Гэта не паасобныя выпадкі, а сталае правіла: niebieśkoj II 77.15; sielśki II 77.26; w Gdańśku II 78.30; pa-ruśki II 82.123; pa-polśki II 82.114; kiepśko II 82.124. Аднак ёсьць і polskije II. 78 34. Таксама і ў макаранічным слове Jeżauskiego II 81.104. мы знаходзім s цьвёрдае (як і ў польскай мове). Мяккае ń ёсьць у слове czerwońcou II 79.70. *H* перад *d* ў слове hdzie застаецца II 77 16; перад іе таксама Hieranim II 187.13. *Cz* перад *n* не зьменяецца ў *sz*—smaczno (а ня smaszna) II 80.81. Чужаземнае f (а таксама і ph) даюць p; Jazepowy II 82.132; u praku II 81.116; Dapnisie II 84.185; Dapnisy II 84.187.

Mikita II 82.127 і Mikitoju II 82.138 і II 84.172—звычайная ў нашай мове форма грэцкага ймя—Aniketos, як Мікола—Nikolaos.

*Ch* бывае перад *i* звычайна мяккае II 79.59 ad sachi, але ёсьць і lichym II 77.18; paciechy II 83.142, а *R* заўсёды цьвёрдае апроч аднаго выпадку—krikniemo II 187.3. Можна думаць, што тут мы маем справу не з фанэтычнаю зьяваю, а проста з недаглядам.

У слове siahodnia, *d не* назалюецца, не прыпадабняецца наступнаму *n*, II 77.21.

У адносінах да мяккасьці прыпадабненьне папярэдняга зычнага наступнаму адзначана далёка не заўсёды.

Мы бачым: jeść II 76.1; Il 77.17; II 77.25; 81.118; II 83.156; II 83.159; daść II 78.38; jeści II 202.19; dość II 203.36; hość II 203.38; szczaście II 83.150; prychylność II 77.23; radaści II 102.25; усё гэта прыклады на злучэньне *ść*; ёсьць яшчэ і па uścinie; але здаецца, лепш чытаць: па wicinie).

Ёсьць прыклады і на śl, śn. śm: myślim II 78.43: myśl II 78.42; śliwy II 83.159 jaśniejsza II 80.84; pieśni II 82.121 (pieśni II 82.119 знаходзіцца у макаранічным сказе); pieśniu II 82.127; па predwieśniu II 82.128; pieśń II 202.21; chliśniem II 84.190 (макаранічны сказ); śmierci II 83.148; Але мы маем і выпадкі без адзначэньня мяккасьці: Нават у тым-жа самым злучэньні sl дыякрытычнага значка над *s* часам ня бывае: zaslepion II 81.101 (макаранічны сказ); slimaki II 77.11: slimakou II 78 48; таксама і злучэньне zl: zlepki II 77.5; Вось яшчэ цікавыя прыклады: borzdzienko II 202.10; swidrujeć II 82.125; zwiażem II 78.41; smiejsia II 77.14; swinie II 78.34; zaspiewajcie II 78.37; swinie II 78.34; zaspiewajem II 78.44: spiewaci II 79.60; spiewania II 84.181; (здаецца, што тут немакаранічны сказ), spiwać (=сьпяваць; макаранічны сказ) II 84.192; pakincież II. 187.1 і pakincie II 187.2; uspieja II 202.17; spiewać II 187.2. Перад *j* і перад w памякчэньня ня бывае zjadau II 78.32; cwiet II 202.28.

Перад задняпаднябеннымі памякчэньня звычайна ня бывае. Мова тут ідзе ўжо не аб гуках *z* і *s* (мы ўжо гаварылі, што суфікс *sk* мае *s* мяккое, хаця-б далей быў і гук не пярэдняга раду, але гэта, зразумела, не памякчэньне, а захаваньне даўнейшае мяккасьці).

Апроч суфікса sk у нашых тэкстах няма выпадкаў, дзе *s* або *z* стаяла-б перад *k* мяккім, як гэта мы бачылі ў выразах pa-ruśki ды pa-polśki. Таксама няма і злучэньняў *s* або *z*—з іншымі задняпаднябеннымі гукамі.

Але зьвернем увагу на словы charaszenki II 201.3: waranienki II 201.4; (аб charaszenko і bordzienko мы ўжо і не гаворым). Цікава, што слова milenki II 203.35 ня мае мяккасьці ў гуку *n* тады, як тое самае слова ў іншым месцы II 201.1 пішацца mileńki з мяккім ń.

Перад *c* мяккасьць *n* захоўваецца czerwońcou II 79.70.

Падваеньня мяккіх ń, l, ź, dź у нашых тэкстах не заўважаецца.

Swinie II 78.34; soleju (а ня sollu) II 80.65; па kochaniu (у макаранічным сказе); niehadziaju (а ня niehadździu II 84.168; spiewania II 84.181; (у макаранічным сказе), ziaja (а ня źziaja) II 202.5.

Замест—суі (-цыі)—знаходзім проста су (-цы) nie dla praporcy II 84.188.

Зычныя звонкія часам робяцца глухімі ў канцы слова, а таксама й перад глухімі зычнымі: ci-sz (замест ci-ż) II 83.145; malatca (він. скл. адз. ліку ад слова maladziec) II 202.13 G сустракаецца толькі ў запазычаных словах і то не ва ўсіх; напрыклад мы бачым слова szwagierki II 83.161, але hrunt II 77.8; уласнае геаграфічнае ймя Gdańsk II 78.30 захоўвае тое g, якое яно мае ў польскай мове; таксама мы знаходзім і ўласнае ймя асабовае Giertruda. Што датычыцца да слоў greczny II 84.177 і gadzinu II 84.180, дык гэтыя словы знаходзяцца ў макаранічных сказах. Як выключэньне адзначым слова jego ў чыста беларускім творы (II 187.5).

Слова siny (замест нармальнага беларускага sini), як мне здаецца, можна лічыць паленізмам II 206.7 Na szapcy siny baran, Czy сустракаецца толькі ў макаранічных сказах II 84.174 і II 84.186. У рэшце выпадкаў знаходзім ci.

Праўда й тое, што czy ёсьць у словах войта II 82.120, але на радок вышэй той-жа самы войт ужывае ci. У яго мове ёсьць і паленізм się urwała. Таму яе можна лічыць макаранічнаю.

Націск у нашых тэкстах, з сылябічным вершаваньнем часам бывае спрэчным. Але можна сказаць з пэўнасьцю, што ён не саўсім супадае з сучасным нам літаратурным.

У некаторых выпадках а́каньне і я́каньне дапамагаюць нам вызначыць места націску.

Напрыклад, саўсім ясна, што Чачотава charoszo ня супадае ў сэнсе акцэнтуацыі з нашым „хараша“, II 77.5, тады як charoszy II 77.8 нічым не адрозьніваецца ад нашага слова „харошы“, а charaszo II 79.59 нагадвае ўжо расійскае „хорошо“, таксама charaszenko, charaszenki, waranienki маюць саўсім выразны націск на перадапошнім складзе (верш на прыезд Адама II 201.3; II 201.4; II 202.9); слова malatca II 202.13 адносна націску згодна з адным расійскім адменьнікам (молодца́) і нязгодна з другім (мо́лодца).

Чытаць нашыя тэксты паводле правіл танічнага вершаваньня саўсім немагчыма. Такім парадкам атрымалася-б вельмі дзіўная акцэнтуацыя; пшаніцо́ю, давяда́лі, пе́е, соле́ю, мілагȍ, Мікіто́ю, цялушэ́чак, яха́ў, гала́сы і г. п. (а не пшаніцаю, давѐдалі, пяе́, сȍляю або сȍльлю, мі́лага, Мікі́таю, цялу́шачак, е́хаў, галасы́).

Нават у якасьці сылябічных, разгледжаныя намі вершы трэба лічыць вельмі недасканалымі. Такім парадкам даць больш-менш дакладны матар‘ял адносна націску яны ня могуць.

У галіне лексыкалёгіі мы павінны зазначыць, што і ў чыста беларускіх, не макаранічных частках цікавых для нас твораў ёсьць пэўная колькасьць чужых слоў.

Kolko za adnym pakosom kasiec dobry trau *schędożyć* II 79.67:68; A jak my *zausze* da lesa ad niekrutou uciekajem II 79.71 i 79; Da paczałi *wodku* pić II 187.18 (хоць у той-жа самой песьні ўспамінаецца „гарэлка“ II 187.9).

Вышэй памянёнае siny можна таксама лічыць чужаземным (польскім) словам: Na szapcy *siny* baran. Nim (=пакуль) II 82,129,131, niech II 79.57, II 80.74—відавочныя паленізмы.

У сказе: Radaści *iszczem naprasna* II 202.25 мы знаходзім аж два чужаземныя словы; такім чынам ён цалком выглядае як быццам ня нашым, а расійскім. Naprasna ёсьць і ў Мікітавай песьні II 82.135; Ска-

зы: jак ciebie *niet* II 202.24 i: kali ciebie tut *niet* II 202.30 маюць у сваім складзе расійскае слова „нет“; myśl (=думка)—неабавязкова лічыць за палёнізм або расіізм II 78.42—u nas myśl nie bahata.

Але наагул апроч наўмысна ўтвораных макаранізмаў лексычны склад Чачотавае мовы даволі чысты беларускі.

Скажам цяпер некалькі слоў аб марфалёгічных асаблівасьцях нашых тэкстаў.

*Імя назоўнае.*

Вінавальны склон мужчынскага роду адзіночнага ліку ад няжывога прадмету на *а*: u Kraleuca замест u Karalewiec II 78.30, Можна, аднак, знайсьці і іншае тлумачэньне для гэтае формы: Можна думаць, што *u* тут стаіць у сэнсе kala; тады: „у Кралеўца“ было-б тое самае, што „каля Каралеўца“=расійскаму; „у Кёнигсберга“, вблизи Кёнигсберга.

Аб прыладных (творных) склонах niehadziaju, soleju мы ўжо гаварылі. Cieniom II 82.131 i II 84 183 належыць да фанэтыкі; bekiem II 82.125 я лічу палёнізмам. Месны склон адзіночнага ліку ад слоў мужчынскага й ніякага роду часам мае канчатак, узяты ад скланеньня слоў з асновамі на u (лац. літара),—калі трымацца тэрміналёгіі, прынятай ў параўнальнай граматыцы інда-эўрапэйскіх моў.

Гэта бывае пасьля мяккіх і зацьвярдзелых зычных; w czystom ruczaju II 83.166; pa siercu II 82.136; pa pradwieśniu II 82.128 pa kochaniu II 81.111.

Аднак і наадварот—мы бачым давальны склон адзіночнага ліку ніякага роду на у (*ы*): pszeniczka rownaje soncy II 80.80; слова trocha II 79.62 з сучаснага пагляду трэба лічыць прыслоўем; на яго мы ўжо зьвярнулі ўвагу ў фанэтычным аглядзе.

Клічная форма адзіночнага ліку можа мець свае канчаткі і можа замяняцца назоўным склонам (як гэта бывае і ў літаратурнай сучаснай нам мове):

Jedziesz, mileńki Adam, II 201.1; nasz ty mileńki Adam II 203,35 але: panie II 80.94; paniczu II 77.14; panoczku II 81.107; (ёсьць і ласкальныя формы; panenku II 80.88 i paniczenku II 78.19).

Слова hałubczyku II 82.122 вельмі спадабалася філёматам. Яны ўстаўлялі яго нават у свае польскія творы.

У множным ліку асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на захаваньне старажытнага канчатка *а* ў назоўна-вінавальнай-клічнай форме ад слоў ніякага роду: spiewania II 84.181 (назоўны склон), waratca II 202.11 (вінавальны склон), dzieuczata II 78.10 (назоўны склон), dzieuczata II 81.108;

Форма на—owie, уласьцівая асновам на u (лацінская літара), у сучаснай літаратурнай беларускай мове ўжываецца ў якасьці клічнага склона множнага ліку ад назваў асоб мужчынскага роду. Але першапачаткова яна была галоўным парадкам назоўным склонам. У нашых тэкстах мы знаходзім сказ: а naszy *panowie* pa-polski usio haworać; kiepśko naszaj mowie! Тут слова panowie II 82.123 бясспрэчна зьяўляецца назоўным склонам множнага ліку.

Адзначым яшчэ цікавую форму Lićwinie (назоўны склон множнага ліку ад слова Lićwin). Няправільнасьці тут няма: у нас можна сказаць: цыганы і цыгане і г. п., але, здаецца, больш ужываецца форма ліцьвіны, чымся ліцьвіне.

Родны склон множнага ліку ludziej II 80.96 (у даным выпадку ўжыты ў якасьці вінавальнага склону) не выклікае ніякіх уваг. Хоць канчатак—ёў і пераважае, але *коняй* (а таксама і *людзей*) трэба лічыць

выключэньнямі з агульнага правіла. Часам гавораць „грошай“. Але ў нашых тэкстах мы сустракаем сказ: My bolsz majem hroszy (а ня hroszaj) II 77.10—таксама форма, вядомая і сучаснай нам літаратурнай мове, як і *pannou* II 81.102; *w uszach* (а ня *u wuszoch* аб *u wuszszu*)— форма неўласьцівая сучаснай нам літаратурнай мове.

*Імя прыметнае.*

У склонавых канчатках трэба зьвярнуць увагу на—om у месным склоне адзіночнага ліку: u czystom II 83.166 : гэтая форма саўсім такая, як і ў расійцаў.

Цікава тое, што так званыя „поўныя“ і „кароткія“ формы іменьняў прыметных ужываюцца саўсім роўнапраўна—у адНолькавых выпадках і нават поруч адна з аднэй.

Budź, jak lisiczka, zdarowy, jak konik, wiesioł pry trudzie, II 79.55:56; Sonko jasno, charoszoje, pszeniczka rownaje soncy, małaczko smaczno, biełoje. II 80.79,80:81; Ale naszaja panienka jaśniejsza jeść i bielszaja II 80.83:84; jena piekna, usiutenka, cnatliwa i razumnaja II 8085:86. Naraim tabie swacieju życzliwu II 80.87 і 88; Budziesz mieć krasnu żonenku. II 80.90; zasleplon II 81.101 (з фанэтычнага боку палёнізм, на што паказвае адсутнасьць элевага памякчэньня; гэтая дзеяслоўная прымета ўжыта ў якасьці азначэньня, тады як byu ubran II 81.116 ёсьць выказьнік і таму не зьяўляецца выключэньнем); byczki spasły II 82.129. Jazepowy II 82.123, як імя прыметнае прыналежнае, і ў літаратурнай мове можа мець кароткія канчаткі; jasna II 82.133; miła II 82.139; luba II 83.142; smacznu haryłoczku pić II 202.26; krasnu dziewoczku II 187.7; jon u lesie zdarou bliszczycca II 79.50; ci zausiody byu wiasioł II 202.16; uwieś nam niamił świet—кароткія формы стаяць на належным ім месцы, бо зьяўляюцца выказьнікамі. „Czas tabie, miła, paznacca, szto ty dla mienie mukoju“ II 139.140, а таксама і „wyhladaju paciechy od ciebie, luba“, маюць прыметнікі ў клічным склоне. Адзначым запазычаны ў палякаў нескланяльны прыметнік kontent II 76.2.

*Займя.*

Тыя займеньнікі, якія з фармальнага погляду зьяўляюцца прыметнікамі, маюць *om* (ом) у месным склоне адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага радоў: u naszom II 77,20; u niom II 83.159; pad niom II 201.4.

Саўсім так, як у літаратурнай мове, займеньнікі прыналежныя: наш(ы) і ваш(ы) ўжываюцца і ў кароткай і ў поўнай форме ў так званых даўней „простых“ склонах: naszu II 77.23 waszy (множны лік) II 77.9 і II 77.22; nasz II 203,35 і 1874, але naszaja panienka II 80,83;

Вельмі цікава форма majeje II 83,148.—родны склон адзіночнага ліку жаночага роду.

Адзначым яшчэ: twaje szczaście II 83.150. У сучаснай літаратурнай мове пераважае форма twajo. Таксама і majeju II 84.170 (а не majoju).

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на формы: ad niaho, k niej (а не jaho, joj) II 187,10; pad niom II 201,4 (а не pad im); z nieju II 80,89 і хоць тут n уласна кажучы, з гістарычнага погляду мае не займеннае, а прыназоўнікавае пахаджэньне.

On II 77.26 можна было б лічыць палёнізмам або расіізмам, але магчыма бачыць тут недагляд—памылку на пісьме замест jon, або on (як пісаў Чачот замест літаратурнага сучаснага нам „вунь“).

Jona II 202.17 і jena II 80,89—адменьнікі не марфалёгічнага, а чыста фанэтычнага (калі не графічнага) характару.

*Sia* i ś часам злучаюцца з імем або з дзеясловам у такіх выпадках, дзе, здаецца, у расійцаў ужываецца слова „себе“=da jedź-że-ś. (да поезжай-же себе) II 80,94; niewielmi-sia tož i brydki (ничего себе, недурён) II 83,165.

Пераходзячы да агляду дзеясловаў, павінны мы перад гэтым аглядам зазначыць, што sia, як-бы на галіцкі лад, часам стаіць паасобку wy sia zalecajacia II 77.7 i my sia nie dziwiam II 77.9; my sia dawiedali II 77.21; sia zaszlubiać II 80.77; da jak się (замест sia) tabie dzieja? II 202,15;

kolko (а ня „колькі“) II 79.63. II 79,68, II 82.121; tolko (а ня „стoлькі“) II79,64 II79.69.

*Дзеяслоў.*

Перш за ўсё трэба зьвярнуць увагу на пашыранасьць суфіксных і бяссуфіксных канчаткаў у трэцяй асобе адзіночнага ліку ў дзеясловах першага спражэньня.

znajeć II 78.27; hrajeć II 78.23; spuskajeć II 78.25; świdrujeć II 82.125; darujeć II 82.126; budzieć II 84.172

dureje II 79.51; nie dbaje II 79.52; sklikaje II 79.54; budzie II 79.58; pieje II 79.53; uciecze II 80.74; minie II 81.113 (магчыма, палёнізм, бо цэлы радок макаранічны); uzojdzie II 84.181; ziaja II 201.5; taja II 201.6; jedzie II 202.10; da jak się tabie dzieja II 202.15; uspieja II 202.17; pieja II 202.27; nie pachnie II 202.28; płacze II 202.31

Бяссуфіксныя канчаткі сустракаюцца часьцей за суфіксныя таксама, як гэта мы маем і ў сучаснай нам літаратурнай мове.

Загадны лад у множным ліку дзеясловаў другога спражэньня мае *ie*(e).

pahadziemsia II 77.17; hladziecie II 201.2;

За тое мы знаходзім *i* ў дзеясловаў першага спражэньня zacznijcie II 78.37, але не заўсёды: ёсьць, напрыклад, kriknіemo II 187.3 Заўважым, што zacznijcie II 78.37 і pomnij II 77.20 маюць j; żyj замест żywi лепш усё-ткі лічыць палёнізмам, хоць гэтая форма магла ў нас утварыцца і арганічна.

Ня трэба блытаць з формамі загаднага ладу формы абвесныя, дзе *e* не пераходзіць у ё: idziem II 77.24 (цяперашні час) zahudziem II 79.62 (будучы час). Паміж budziem II 77.25 і budziam II 202.19; 22, розьніца, як мне здаецца, толькі правапісная. Таксама, як majecie II 77.6 і zalacajecia II 77.7.

У форме mauczycie (абвесны лад) II 82.119-ie не падлягае абавязковаму пераходу ў *-io* (бо тут яно стаіць не перад цьвёрдасьцю, а на канцы слова). Уся розьніца толькі ў націску: mauczýcie (або пад уплывам адпаведнай формы 1-га спражэньня—mauczècie)—загадны лад, а mauczycie̍ (або менш правільнае mauczyció)—абвесны лад.

zahudziem я лічу формаю першага спражэньня ад дзеяслова zahuści (а не ад zahudzieć, якое належыць да другога спражэньня.

Mauczycie i mauczycio першапачаткова былі ў розных становішчах. Перад наступнаю цьвёрдасьцю атрымоўвалася—*io*.

Потым гэтае правіла ўжо не захоўвалася дакладна—і мы знаходзім mauczycie і mauczycio там, дзе ня трэба.

Але даволі цяжка растлумачыць поруч з idziem у таго-ж самага аўтара форму waźmiom II 202.21, як і pomnij і pomni II 82.122.

Усюды маем мы толькі jeść. Формаў jość, jo—саўсім няма, а jest знаходзіцца толькі ў макаранічных сказах II 84.181; II 84.186; II 84.188.

наму выгляду композыцыі належыць даць назву *стылістычнай*. У склад композыцыі гэтага роду ўваходзяць: 1) слоўныя адзінкі: нэолёгізмы, сэнтэтычныя ўтварэньні і інш., 2) слоўныя комплексы: а) сымболь, в) мэтафора, в) антытэза, d) градацыя, е) параўнаньні, f) прыслоўкі g) паўторы, i) інвэрсыя, k) мастацкі сынтакс і інш.

Апошні выгляд композыцыі можа быць названым *сюжэтным*, паколькі ў межах яе пісьменьнік, маючы справу з матар'ялам ужо апрацаваным у фонэтычных і стылістычных адносінах, будуе мастацкі твор у яго скончаным выглядзе, разьмяркоўваючы асобныя яго органічныя часткі ў азначаным парадку, якi ўмоўна можна выявіць у тэрмінах—сюжэтнае пабудаваньне. Гэты выгляд композыцыі разглядае: 1) тэмы, 2) мотывы—пэрсонажныя, абстановачныя, соцыяльныя, бытавыя, філёзофскія, матывы прыроды і др. і 3) сюжэты.

Мы зазначылі прыкладную схэму асобных частак поэтыкі і паказалі ў межах кожнай з іх шэраг паасобных пытаньняў, надаўшы ім азначаныя конкрэтныя назвы. Уводзячы іх ва ўжытак навуковага вывучэньня мастацкага твору, трэба мець на ўвазе, што большасьць іх ня мае яшчэ дакладных азначэньняў і строга азначаных граніц. Значная частка гэтых разуменьняў была азначана яшчэ ў клясычнай старажытнасьці. У прыватнасьці Арыстотэль зрабіў вялікі ўклад у гэтай галіне ведаў, падарыўшы свае дасягненьні наступнаму часу. Рымская старажытнасьць у асобе Горацыя, Квінтыліана і іншых тэорэтыкаў літаратуры паўтарыла гэтыя вынікі, дадаўшы да іх вельмі мала. Сярэднявякоўе і новы час таксама ў значным стопні абмежаваліся толькі паўтарэньнем тых ведаў, якія яны атрымалі па традыцыі ад мінулых часоў. Да сучаснасьці гэтыя разуменьні, што азначаюць актыўнасьці, якія складаюць мастацкую творчасьць, маюць умоўны характар. Задача дасьледчыка ў галіне гэтага пытаньня састаіць ў тым, каб на падставе навуковага вывучэньня мастацкае творчасьці, даць азначаныя і дакладныя формулы для гэтых разуменьняў.

Апрача таго, у даныя часы мы ня можам з поўным праканаеньнем сказаць, што тыя зьявішчы мастацкае творчасьці, якія ўжо занатаваны і маюць азначаную назву, абхопліваюць *увесь круг* тых складаных частак, якія ўтвараюць мастацкі твор. Толькі дэтальнае ўдумнае вывучэньне літаратуры, накіраванае ў гэты бок, дасьць на гэта канчатковы адказ.

Далей пытаньне аб узаемных адносінах і тэлеолёгічнай сувязі між асобнымі актыўнасьцямі, якія ўжо ўвайшлі ў асадкі гісторыка-літаратурных разуменьняў таксама застаецца да гэтых часоў цьмяным і вымагае для сябе вычэрпваючага адказу. Той парадак у разьмеркаваньні паасобных пытаньняў поэтыкі, які падаецца намі, мае ўмоўны і часовы характар, паколькі мы ня маем яшчэ цяпер грунтоўных даных для вызначэньня патрэбнай іерархічнай паступовасьці між імі.

Мы вызначалі агульныя заданьні ў галіне вывучэньняў першага парадку, вывучэньняў констатуючай уласьцівасьці ў сфэры пабудаваньня поэтыкі мастака, якія ў сваю чаргу выклікаюць пытаньне аб *парадку* іх дасьледваньня. Нам думаецца, што вывучэньні кожнай з пастаўленых задач поэтыкі пісьменьніка, кожнага зьявішча ў галіне композыцыі фонэтычнай, стылістычнай і сюжэтнай, павінна быць пабудавана па наступнаму пляну.

Перш за ўсё, вывучэньне таго ці іншага прыёму творчасьці, яго актыўнасьцяй, можа быць выканана дваякім чынам—або ў паземным, уздоўжным разрэзе, або ў простастаўным, папярочным.

У першым выпадку, вядомае зьявішча напрыклад, прысловак, параўнаньне і г. д., або ўсе спосабы вывучаюцца на працягу ўсяе

творчасьці мастака. Непасрэдным і бліжэйшым об'ектам вывучэньня зьяўляюцца ў гэтым разе самыя актыўнасьці творчасьці, іх стан у творах пісьменьніка—характар іх і выпаўняемыя імі поэтычныя заданьні; мастацкі матар'ял у яго асобных творах губляе свае індывідуальныя асаблівасьці ў сфэры спосабаў, якія вывучаюцца; кожны самастойны твор ня прыцягвае ўвагу дасьледчыка да вывучэньня яго адмен у галіне тэй, ці іншай яго актыўнай часткі. Яго цікавасьць накірована ў бок досьледаў данага прыёму ва *ўсёй* творчасьці аўтара, які вывучаецца.

У другім выпадку кожны асобны твор пісьменьніка зьяўляецца прадметам вывучэньня з боку яго актыўнасьцяй, з прычыны чаго яго індывідуальная фізыономія выяўляецца ў больш яснай і азначанай форме. Аднак і адмены і асаблівасьці ў адносінах тых ці іншых спосабаў больш выразна могуць быць вылучаны пры параўнаньні з шэрагам іншых твораў вывучаемых у тым самым парадку.

Абодвы спосабы вывучэньня маюць пад сабою навуковы грунт і даюць вынікі, хоць і рознага роду, але аднальково каштоўныя для нашае навукі. Аднак, пры выкананьні задачы другога роду—вывучэньня простастаўнага—сустракаюцца значныя *тэхнічныя* перашкоды, асабліва ў межах такога жанру творчасьці, які налічвае вялікую колькасьць асобных твораў. Асабліва гэта трэба сказаць аб творчасьці лірычнай, якая ў большасьці мастакоў выяўляецца ў значнай колькасьці асобных вершаў. Пры аналізе кожнага лірычнага вершу ў адносінах яго спосабаў, у адносінах да яго складаных частак, калі мы вывучаем усю сумеснасьць твораў данага віду, атрымоўваецца ланцуг невялікіх самастойных апісаньняў, але ў агульнай суме аднастайных і паўторных, якія пазбываюць дасьледаваньне ў яго цэлым гарманічнага адзінства. Дзеля гэтага, як асобны спосаб, вывучэньне простастаўнае можа быць ужыта толькі пры досьледах невялікай колькасьці асобных твораў, толькі нязначнай часткі таго ці іншага жанру творчасьці. У межах вывучэньня твораў мастака ў іх сумеснасьці, што мы галоўным чынам і маем на ўвазе пры пабудаваньні гісторыка-літаратурнай навукі, патрэбна злучэньне гэтых двох спосабаў вывучэньня ў адно сыстэматычнае цэлае, што залежыць ужо ад асабістага ўменьня кожнага дасьледчыка.

Актыўнасьці, творчасьці, якія вывучаюцца пры пабудаваньні поэтыкі, належыць браць—адна па другой—з твораў мастака, які дасьлядуецца. Браць іх у мэтах палягчэньня далейшай працы па-над імі належыць, разьмеркаваўшы мастацкія творы ў хронолёгічным парадку зьяўленьня кожнага з іх у сьвет, а таксама па асобных родах і відах творчасьці.

Потым здабыты матар'ял, які тычыцца таго, ці іншага зьявішча і мае сыры бязформавы выгляд, падлягае азначанай апрацоўцы. З тае прычыны, што вывучэньне ў гэтай частцы гісторыка-літаратурнае навукі мае констатуючы характар, апрацоўка матар'ялу можа быць толькі клясыфікацыйнае ўласьцівасьці. Першы момант яе складае клясыфікацыя спосабу, які вывучаецца ў парадку *лёгічным*. Другі—клясыфікацыя яго ў *хронолёгічнай* паступовасьці і трэці—разьмеркаваньне гэтага спосабу па *родах* і *відах* мастацкае творчасьці.

Істотную частку гэтай стадыі вывучэньня, складае клясыфікацыя *лёгічная*, якая мае сваёй задачай шляхам азначанай генэралізацыі матар'ялу; зрабіць вядомым *усю наяўнасьць* зьявішча, што вывучаецца ў творчасьці мастака. У аснову клясыфікацыі павінны быць паложаны аднначасова прынцыпы ўзятыя з галіны нагляданьняў над паходжаньнем мастацкіх зьявішч—тэматычнай і фармальнай, а таксама і выпаў-

няемай імі мастацкай мэтаімкнёнасьці. Задача вучонага будзе складацца з таго, каб пабудаваць лёгічна зграбны малюнак вывучэньня ўсяе сумы констатаваных зьявішч на аснове клясыфікацыі іх па азнаках зьместу і формы. У гэтым выпадку толькі творчы талент дасьледчыка можа служыць асновай для пасьпешнага разьвязваньня пастаўленага пытаньня.

Пры аналізе гэтага парадку творчасьць пісьменьніка ў яе цэлым характарызуецца з боку спосабу, які вывучаецца, паказваючы нам, у якіх відах і формах ён „прысутнічае“ у ім. Але адначасна з гэтым, у асадках гэтага самага вывучэньня мы атрымоўваем фактычныя даныя, ва ўсякім разе, у межах творчасьці аднаго мастака, які вывучаецца для меркаваньня аб прыродзе самага спосабу, як такога. Рознастайныя віды, занатаваныя ў творы, што вывучаецца, даюць вялікі конкрэтны матар'ял для больш выразнага азначэньня іх існасьці і ўласьцівасьцяй. У асадках клясыфікацыі, іменна, гэтага парадку мы будзем мець тыя даныя, на падставе якіх павінна разьвязвацца адна з канцовых задач нашай навукі—пабудаваньне тэорыі поэтыкі, як *агульнай* дысцыпліны аб слоўным мастацтве. Такім чынам пры вывучэньні гэтага шэрагу і творчасьць пісьменьніка і самы спосаб, які ў ім зазначаецца, урэшце атрымоўваюць тое, ці іншае фактычнае асьвятленьне. Але ў межах тэй самай клясыфікацыі ўвага дасьледчыка павінна быць накірована і ў бок вызначэньня *мастацкае тэлеолёгіі* тэхнічнай актыўнасьці, якая вывучаецца. Калі, напр.: у галіне параўнаньняў, або мэтафор, мы ўстанавілі, шляхам азначанай клясыфікацыі, шэраг тэматычных зьявішч і паказалі адначасова адпаведныя формы, якія іх выражаюць, дык мы тым самым у процэсе гэтага абагульваньня, вызначым і падставы для вынікаў адносна іх тэлеолёгіі. Мы можам у гэтым выпадку сказаць, што мастак ужывае вядомыя формы паказаных спосабаў, *для выражэньня* азначаных ідэёвых велічынь. Такім чынам, тым самым мы адкажам на пытаньне: для чаго, у якіх мэтах пісьменьнік ужывае той ці іншы спосаб, г. зн. вызначаем даныя для меркаваньня аб мастацкай мэтаімкнёнасьці аўтара ў межах зьявішча яго поэтыкі, якое дасьлядуецца.

Але разуменьне мастацкай тэлеолёгіі па свайму зьместу ўяўляе з сябе зьявішча складанага парадку. Мастацкае імкненьне пісьменьніка накіроўваецца ў розныя бакі ня толькі ў галіне яго ідэёвых пабудоў, але і формальных. Возьмем для прыкладу такі выпадак. Можна лічыць зазначаным той факт, што параўнаньні выражаныя за дапамогай злучнікаў больш яскравы і выразны, чымся параўнаньні, выражаныя ў параўнальнай ступені і прыладным склонам. У процэсе чытаньня або слуханьня—параўнаньні другога роду амаль зусім не заўважваюцца і ня прыпыняюць на сабе ўвагу чытача або слухача. Калі ў творчасьці таго, ці іншага мастака мы зазначаем, што „злучковыя“ параўнаньні зьяўляюцца значнна пераважваючымі па-над параўнаньнямі бяззлучковымі, дык мы адгэтуль можам зрабіць вывад, што стыль пісьменьніка ў сфэры данага спосабу носіць рысы яснасьці, выразнасьці, *плястычнасьці*. У гэтым выпадку мы адзначаем, пэўную долю тэлеолёгічнасьці параўнаньняў у адносінах да іх граматычнай формы.

Але адначасова ў гэтым мы можам таксама паказаць мастацкія мэты і ў асадках лёгічных форм параўнаньня. Гэтак мы ведаем, што параўнаньні т. зв. прэпозыцыйныя (тэрмін проф. А. А. Потэбні) зьмяшчаюць вобраз, які тлумачыць прадмет параўнаньня, на першым месцы, адсуваючы самы прадмет на другі плян. Наадварот—постпозыцыйныя ставяць прадмет, які вымагае параўнаньня, наперадзе, а вобраз—ззаду яго. У першым выпадку вобраз параўнаньня, які ўспрый-

маецца чытачом у першую чаргу і ўсьведамляецца ім тады, калі яшчэ самы прадмет яго невядомы, служыць мэтам *эволюцыйнай* уражальнасьці, псыхолёгічнай экспрэсыўнасьці. У другім-жа, наадварот, вобраз, які ідзе за прадметам, яго тлумачыць, конкрэтызуе і выконвае, такім чынам, задачы *плястычнага* абмаляваньня прадмету. Мы зазначаем толькі агульныя магчымасьці ў сфэры тэлеолёгічнасьці асобных зьявішч поэтыкі. У кожным асобным выпадку толькі асабістае адчуваньне дасьледчыка можа асьвятліць гэтае пытаньне ўва ўсёй яго яснасьці і азначанасьці.

Клясыфікацыя другога роду—*хронолёгічная*, гэтак сама, як і наступная, зьяўляецца толькі вынікам з папярэдняга вывучэньня, якое констатавала наяўнасьць пэўнага спосабу, што складае аб'ект досьледу. Зьяўляецца цяпер патрэбнасьць даць групаваньне таго самага матар'ялу ў хронолёгічным парадку. Трэба зазначыць хронолёгічную плынь спосабу, які вывучаецца ў асадках усяе творчасьці пісьменьніка. Нагляданьні, якія вынікаюць адгэтуль, могуць быць дваякага роду. Хронолёгічная клясыфікацыя тэматычных зьявішч, дасьць магчымасьць зазначыць процэс разьвіцьця ідэёвых розуманастрояў мастака. Аналіз гэтага роду з поўнай відавочнасьцю пакажа, ці разьвінаўся ў межах спосабу, які вывучаецца, сьветагляд пісьменьніка прогрэсыўна— у бок паглыбленьня і пашырэньня яго мастацкага кругавіду, ці рэгрэсыўна—шляхам паступовага скарачэньня і скамячэньня шырокіх пэрспэктыў яго. Ня выключаецца магчымасьць і руху ідэёвых зьявішч у выглядзе ламанай лініі. Клясыфікацыя гэтага самага парадку, але формальных элемэнтаў творчасьці дае ў рукі дасьледчыка матар'ял для характарыстыкі разьвіцьця манеры ў асадках таго самага спосабу, які дасьлядуецца. Процэс гэтага разьвіцьця можа быць такім самым, які паказаны і для ідэёвых шэрагаў. Такім чынам, калі лёгічная клясыфікацыя дае вынікі, якія тычацца творчасьці пісьменьніка ў яе цэлым, а таксама і прыроды самага спосабу, што зьяўляецца аб'ектам вывучэньня, дык клясыфікацыя хронолёгічная зьмяшчае ў сабе даныя для абмаляваньня асобы мастака ў адносінах яго мастацкага сьветаразуменьня і поэтычнай манеры творчасьці.

У межы гэтай самай клясыфікацыі павінен уваходзіць аналіз крыху іншага роду, які, праўда, таксама грунтуецца на прынцыпах хронолёгічных, але накірованы ў іншы бок. Калі ў папярэднім выпадку клясыфікацыя спосабаў адбываецца ў хронолёгічных асадках усяе творчасьці пісьменьніка ці яго асобных жанраў, дык на гэты раз увага дасьледчыка павінна быць зьвернута на тое, якім чынам актыўнасьць, якая вывучаецца, відазьмянялася ў процэсе стварэньня кожнага асобнага твору. Увага вучонага павінна быць зьвернута ў гэтым выпадку на тое, каб зазначыць тые відазьмены якім падлягаў спосаб на працягу розных сьпісаў аднаго і таго самага твору, пачынаючы ад першых накідаў і канчаючы яго канчатковай рэдакцыяй. Гэта той момант вывучэньня, які адбівае творчы процэс мастака і складае звычайна прыналежнасьць тэкстолёгічных вывучэньняў з пункту погляду мэтаду філёлёгічнага. Для выкананьня, гэтае задачы дасьледчык павінен мець каля рук усе рэдакцыі твораў, якія вывучаюцца, або ў рукапісах самага пісьменьніка, або ў друкаваным выглядзе. Без такіх матар'ялаў вывучэньне гэтае ня можа быць зьдзейсьнена. Але рукапісныя крыніцы даступны толькі нязначнаму кругу асоб, з тае прычыны, што яны хаваюцца звычайна ў буйных цэнтрах і карыстаньне імі злучана з вялікімі перашкодамі. Апрача таго, пасьля шмат якіх пісьменьнікаў рукапісы зусім не захаваліся. Друкаваныя выданьні сьпісаў розных твораў маюцца ў вельмі абмежаванай колькасьці. Таму вывучэньне такога характару цяжка выконваць, хоць па каштоўнасьці яго-

вынікаў яно мае вялікае значэньне. Хронолёгічны аналіз тых ці іншых мастацкіх элементаў у межах „творчай гісторыі" кожнага асобнага твору дае магчымасьць зазначыць для кожнага з гэтых спосабаў процэс іх творчасьці, як у адносінах тэматычных зьявішч, гэтак і фармальных.

Гэтыя нагляданьні ў сваю чаргу даюць дасьледчыку пэўныя матар'ялы для зазначэньня таго, што мае назву „псыхолёгіі творчасьці".

Тым самым чынам гэты аналіз вылучыць і такія даныя, якія будуць зьмяшчаць пэўныя рысы для характарыстыкі і асобы мастака ў сфэры яго сьветаразуменьня, а таксама і яго мастацкай манеры. Другімі словамі вывучэньне гэтага роду дасьць пэўныя падставы для вынікаў, якія будуць зроблены пры хронолёгічным аналізе спосабу, які вывучаецца ў асадках усяе творчасьці пісьменьніка. З гэтае прычыны, пры ўмове зьдзейсьненьня аналізу рэдакцыяй твору, уся схэма хронолёгічнай клясыфікацыі будзе зьмяшчаць у сабе два моманты: першы — вывучэньне мастацкіх элементаў у межах творчага процэсу кожнага асобнага твору; другі—аналіз іх у асадках усяе творчасьці ў цэлым ці яго асобных жанраў.

Клясыфікацыя трэцяга шэрагу—*радавая і відавая*—мае на ўвазе зазначэньне такога роду нагляданьняў, якія характарызавалі-б асобныя роды мастацкае творчасьці—лірыку, эпос і драму, а таксама і рознастайныя віды іх. У азначэньні гэтых разуменьняў мы захоўваем у значным стопні тыя формулы, якія ідуць да нас з далёкай старажытнасьці і ў большасьці выпадкаў маюць апрыорны характар. Бяручы-ж матарыял для іх азначэньня ў парадку клясыфікацыі мастацкіх элементаў па родах і відах творчасьці, мы тым самым атрымоўваем даныя эксперыментальнае ўласьцівасьці апостэрыорнага характару. Паколькі гэтая клясыфікацыя адбываецца адначасна ў галіне ідэёвых зьявішч і фармальных, пастолькі мы атрымоўваем з яе вынікі, якія характарызуюць радавыя і відавыя катэгорыі мастацкае творчасьці ў адносінах іх зьместу і формы.

Схэма, якая прапануецца, вызначае прыкладны парадак вывучэньня асобных спосабаў мастацкае творчасьці, асобных элементаў яе, ідэёвых і фармальных. На гэтым задача пабудаваньня поэтыкі яшчэ несканчаецца. Замыкальным этапам у вывучэньні, якое констатуе, зьяўляецца абагульваньне тых вынікаў, якія маюцца адносна асобных элементаў творчасьці, з паказаньнем з паміж іх таго, што называецца *дамінантай* г. зн. тых спосабаў, якія дамінуюць, пануюць у творах мастака, якія вывучаюцца. Вылучэньне дамінанты у сваю чаргу дасьць магчымасьць азначыць становішча і рэшты элементаў творчасьці; дасьледца можа пабудаваць у гэтым выпадку ерархічную драбіну, па сходках якой будуць разьмеркаваны асобныя актыўнасьці ў залежнасьці ад іх значэньня ў творчасьці—і якаснага ліку асобных тыпаў іх, і кольказнага—іх тэлеолёгічнай энэргіі. Вывучэньне гэтага роду выдзяліць конкрэтныя дадзеныя для суджэньня аб прыналежнасьці пісьменьніка к пэўнаму мастацкаму стылю да таго ці іншага літаратурнага кірунку.

На гэтым пабудаваньне поэтыкі кожнага асобнага мастака можна лічыць скончаным. Дастасоўка да групы пісьменьнікаў, аб'ядналых імкненьнем да аднастайных мастацкіх актыўнасьцей, канцовай задачай поэтыкі зьяўляецца дазначэньне стылю асобнай літаратурнай школы, таго, што мае назву *норматыўнай* поэтыкі, якая азначае правілы мастацкае творчасьці і прапануе іх, як норму для пісьменьнікаў данага кірунку. Разьвязваньне гэтага пытаньня адбываецца шляхам вывучэньня, якое генэралізуе тыя нагляданьні і абагуленьні, якія ўжо выкананы пры конструяваньні поэтыкі аўтараў, што маюць цяжэньне да пэўнага літаратурнага асяродку.

III.

Другі момант гісторыка-літаратурнае навукі, як было адзначана раней, складае вывучэньне *дынамічнага* стану ў яго гістарычнай пераемнасьці. Конкрэтная задача гэтага парадку зьмяшчаецца ў *экзэгэтаваньні*, тлумачэньні тых нагляданьняў, якія дадзены папярэднім вывучэньнем. У навуковым сэнсе гэта даводзіць да разьвязаньня проблемы „гістарызму“ („гістарычнага аб‘ясьненьня“) у навуцы аб літаратуры, каторы і заключаецца ў устанаўленьні прынцыпнага і эволюцыйнага парадку. Об‘ект досьледу ў гэтым выпадку складзе поэтыка пісьменьніка, вызначаная ў першай часьці гісторыка-літаратурнае навукі шляхам констатаваньня ідэёвых і формальных элементаў мастацкае творчасьці. Даныя для тлумачэньня поэтыкі гэтая частка навукі аб літаратуры чэрпае з умоў гісторыка-культурных абставін, з акружаючай рачавістасьці ва ўсіх яе рознастайных праявах. Гэтае вывучэньне поэтыкі мастака, якое экзэгэтуе, складае тое, чаму мы ўжо далі назву *гісторыі літаратуры*.

Раней паказана, што поэтыка вывучаемага мастака заключае ў сабе апісаньне *ўсей* налічнасьці мастацкіх актыўнасьцей, якія маюцца ў творы і вядомы ў цяперашні час навуцы аб літаратуры. Гэтая абставіна дае права дасьледчыку гаварыць пры ўстанаўленьні „гістарызму“ ў галіне нашае навукі, якраз аб гісторыі *літаратуры*, у склад якой, як пэўная частка, ўваходзіць і *поэтыка гістарычная*, якая разглядае ў гістарычным аспэкце лёс асобных прыёмаў мастацкай творчасьці вывучаемага пісьменьніка.

Тая акалічнасьць, што гісторыя літаратуры чарпае сваё тлумачэньне з умоў акружаючых абставін, не вымагае асаблівых довадаў. Паколькі кожны індывідуум жыве, дзейнічае ў абставінах знадворных умоў—фізычных і духоўных, пастолькі ён адчувае ў тым ці іншым стопні іх узьдзеяньне, якое пакідае на ім адпаведны адбітак. Узьдзеяньне знадворных абставін зьяўляецца бясспрэчным ня толькі ў адносінах да асобнае пэрсоны, як такой, але яно мае моц таксама і для тае дзейнасьці, тых вынікаў творчай працы, якую зьдзейсьнівае кожны чалавек.

Іншая справа, якавы тыя конкрэтныя зьявішчы рэальнага жыцьця, якія складаюць зьмест „Гісторыка-Культурных абставін“. Ці абмяжоўваецца ён тымі зьявішчамі, якія напрыклад, паказвае Тэн, г. зн „зьявішчамі расы“, „абставін“ і „моманту“, а таксама „пануючай здольнасьці“, ці ўсе элементы зьместу і формы творчасьці знаходзяць сваё поўнае тлумачэньне ва ўмовах соцыяльнай псыхолёгіі і быту, як напрыклад, вучыць мэтад соцыолёгічны. Разьвязваньне гэтага пытаньня складае адну з істотных задач гісторыка літаратурнае навукі.

Як натуральны вынік адгэтуль паўстае пытаньне аб тым, якія іменна, зьявішчы „гісторыка-культурных абставін“ „*ўплываюць*“ на чалавека і на творы яго духоўнай дзейнасьці. У гэтым выпадку вывучэньне, якое экзэгэтуе, высоўвае такія задачы. Ці ўсе ўмовы абкружаючай рачавістасьці „*ўзьдзейнічаюць*“, на творчасьць ці толькі пэўныя з іх. Ці ўсе зьявішчы „гісторыка культурных абставін“, ці толькі асобныя з іх зьяўляюцца тымі, якія азначаюць самы характар літаратуры і тлумачаць яе ідэёвае і формальнае багацьце ў яго агульнай сумеснасьці.

Далей, калі „гісторыка-культурныя абставіны ў цэлым або толькі пэўныя ўмовы, якія ўваходзяць у іх зьмест, робяць узьдзеяньне на мастацкую творчасьць і, значыцца, зьяўляюццa сродкам тлумачэньня яе, дык паўстае пытаньне, у *якім стопні* тое ці іншае зьявішча іх

уплывае на літаратуру і якія, іменна, элементы мастацкага зьместу і формы яны тлумачаць. Другімі словамі ці знаходзяць сваё тлумачэньне ў іх толькі ідэёвасьць літаратуры ці адначасна і яе форма. Ці тлумачаць яны гэту ідэёвасьць, гэтак сама як і форму, ва ўсім ахопе ці толькі пэўныя іх часткі.

На пастаўленыя пытаньні даць поўны і дакладны адказ пры сучасным стане навукі аб літаратуры няма магчымасьці. Можна вызначыць толькі пэўныя контуры ў разьвязваньні гэтых пытаньняў, грунтуючыся на тых конкрэтных „спробах гісторыка літаратурнага характару, якія ўжо маюцца ў нашай навуцы.

Паперш за ўсё—аб зьмесьце „гісторыка культурных абставін". У іх склад, на наш погляд, уваходзяць наступныя моманты: соцыяльна-палітычныя зьявы, розуманастроі ў галіне рэлігійнай і філёзофскай думкі, літаратурныя кірункі, плыні ў галіне вобразных мастацтваў, жыцьця жыцьцяпісны момант.

Кожная з пералічаных умоў знаходзіцца ў пэўнай сувязі адна з аднэй. Гэтая акалічнасьць выклікае пытаньне аб іх узаемных адносінах між сабою. У гэтым выпадку мэтады навукі аб літаратуры, якія існуюць у даны час, можна падзяліць на дзьве групы.

Першая абхоплівае такі мэтод як соцыолёгічны і яго адмену—марксыцкі, адыходзіць у сваім тлумачэньні літаратуры і ўсяго наогул жыцьця з моністычнага сьветаразуменьня. Як вядома, гэтыя мэтады высоўваюць пытаньне аб домінанце сярод зьявішч, якія складаюць абкружаючую рачавістасьць і аб яе надбудовах. Соцыяльныя адносіны, з пункту погляду соцыолёгічнага, складаюць *асноўную* крыніцу для вывучэньня літаратуры, якое экзэгэтуе, рэшта-ж умоў зьяўляюцца толькі няўхільным вынікам адносін першага парадку. Гэтыя *другарадныя* зьявішчы таксама маюць пэўнае значэньне ў сфэры экзэгэтаваньня літаратуры, аднак і яны залежаць ад асноўнага прынцыпу і ў ім знаходзяць сваё тлумачэньне. Такім чынам увесь процэс вывучэньня мастацкае творчасьці, якое экзэгітуе, пры соцыолёгічным досьледзе грунтуецца на срога моністычным прынцыпе.

Другая група, якая зьмяшчае ў сабе мэтады гісторыка-культурны, эволюцыйны і інш., грунтуецца на прынцыпах плюралістычнага парадку, дазваляючы наяўнасьць цэлага шэрагу рознастайных умоў жыцьцёвых абставін, якія маюць у эгзэгэтуючым вывучэньні мастацкае творчасьці, роўнапраўнае значэньне.

Сьледаваньне першаму, ці другому парадку вывучэньня знаходзіцца ў залежнасьці ад таго якім мэтадам апэрыруе ў сваёй працы кожны дасьледчык літаратуры - ці мэтадам першага шэрагу—соцыолёгічным ці адным з мэтадаў другой групы. Але ў тым і другім выпадку астаецца цяжкасьць азначэньня граніц таго, дзе канчаецца ўплыў аднаго з фактараў рэальнай асярэдзіны і пачынаецца дзейнічаньне другога незалежна ад таго, ці будзе ён галоўным ці другарадным. Гэта цяжкасьць утварае бліжэйшую задачу, якая належыць да вырашэньня гісторыка-літаратурнай мэтадалёгіі.

Што тычыцца *стопню* ўплыву тых, ці іншых зьявішч асяродзьдзя, дык у гэтых адносінах можна выказаць меркаваньні толькі агульнага характару. Дэталі проблемы ў даны момант разьвязаць няма магчымасьці. Досьледы ў гэтай галіне толькі яшчэ распачынаюцца.

Пры разьвязваньні гэтага пытаньня, мы думаем, належыць адрозьніваць у ім два бакі: першы—гэта *крыніцы* творчасьці, а другі *ўплывы* ў ім. Паміж гэтымі разуменьнямі, як гісторыка-літаратурнымі проблемамі, існуе значная розьніца.

Пытаньне аб крыніцах дапушчае зазначэньне таго тэматычнага матар'ялу па-за эстэтычнае ўласьцівасьці, якім карыстаецца пісьменьнік, зьмяняючы яго шляхам творчай працы, у матар'ял эстэтычнага парадку ў мастацкі твор. Такі матар'ял кожны мастак запазычае або са сфэры знадворных адносін або асабовых. Дастасоўна да тых частак „гісторыка-культурных абставін", якія складаюць іх і якія адзначаліся вышэй крыніцамі творчасьці зьяўляюцца з аднаго боку, соцыяльна-палітычнага і разумовага жыцьця, з другога—асабістага, факты жыцьця-піснага характару. У іх мастацкая літаратура ў адносінах да ідэёвых элементаў, знаходзіць сваё тлумачэньне г. зн. адказ на пытаньне, чаму тэматычны бок ужо пабудованай поэтыкі, іменна такі, а ня інш. Не зьмяняе становішча і той выпадак, калі мастак бярэ свой матар'-ял для твору, асабліва гістарычнага характару з помнікаў кніжных, літаратурных. Наяўнасьць двох элементаў—па-заэстэтычнага і эстэтычнага—захоўваецца і тут.

Проблема аб крыніцах творчасьці ніколькі не абумоўлівае традыцыйнага пытаньня аб арыгінальнасьці мастака, або яго звычайнасьці і шаблённасьці. „Крыніцы творчасьці" ў аднолькавым стопні ўласьцівы мастаком, як нязначным, так і выдатным у гэтых адносінах яны зьяўляюцца роўнапраўнымі. Адхіленьне ў той ці іншы бок можа мець месца толькі між крыніцамі аб'ектыўнымі—сфэра па заэстэтычных зьявішч—і суб'ектыўнымі—галіна індывідуальных адносін, якое таксама не азначае самастойнасьці пісьменьніка.

Але тлумачачы наяўнасьць азначаных тэматычных зьявішч літаратурнае творчасьці з умоў „па замастацкай" рачавістасьці, мы тым самым вызначаем пэўныя сувязі між імі і азначаныя прычынныя адносіны. Калі мы кажам, што тое. ці іншае зьявішча з кругу надворнага рэальнага жыцьця або з галін асабістага жыцьця мастака зьявілася крыніцай для яго твору, дык тым самым мы зазначаем, што першае з іх было прычынай,—а другое вынікам. Такім чынам, разьвязваньне проблемы аб крыніцах творчасьці зьмяшчаецца ў разьвязаньні аднаго з момантаў гістарызму ў навуцы аб літаратуры, іменна, моманту прычынных адносін паміж літаратураю і азначанымі зьявішчамі „гісторыка-культурнай асярэдзіны".

У сфэры вывучэньняў гэтага-ж парадку знаходзяцца дадзеныя для разважаньняў аб паходжаньні твору, які вывучаецца, бо, вызначаючы прычыны, якія выклікалі яго, мы разам з гэтым устанаўляем умовы гэнэтычнай уласьцівасьці—вырашаем пытаньне аб яго гэнэзісу. Такім чынам момант каузальных адносін знаходзіцца ў цеснай непасрэднай сувязі з пытаньнем аб гэнэтычнай праблеме мастацкага тварэньня.

Другая проблема таго самага пытаньня аб *стопні* ўзьдзеяньня абкружаючых абставін—проблема ўплываў таксама знаходзіцца ў цеснай сувьзі з „гістарызмам" нашае навукі, разьвязваючы другі бок яго, іменна, момант эволюцыйных адносін паміж мастацкай творчасьцю пісьменьніка, які вывучаецца і тымі зьявішчамі знадворных абставін, якія абмяжоўваюцца акружынай літаратурных густаў і кірункаў. Разуменьне эволюцыі з пункту погляду тэорэтычнага дапушчае пэўныя адносіны між зьявішчамі роднага аднолькавага тыпу. У галіне слоўнага мастацтва дасьледчык можа гаварыць толькі аб эволюцыйнай сувязі зьявішч мастацкага літаратурнага характару.

У процэсе ўплываў трэба адрозьніць тры розныя моманты: *перайманьне, запазычаньне і асабістае багацьце мастака.* Першыя два —перайманьне і запазычаньне—уваходзяць у зьмест разуменьня *ўплыў*,

а трэці—індывідуальны элемэнт пісьменьніка—вылучаецца ў выніку азначэньня першых.

Істотную і найбольш шырокую частку ў зьмесьце ўплываў складае перайманьне, або дакладней,—ужываньне тых ці іншых нахільнасьцей і густаў, якія зьяўляюцца характэрнымі для пэўнага літаратурнага кірунку. Але пераймаючы стыль азначанай літаратурнай эпохі, яе мастацкія тэндэнцыі, ужываючы спосабы творчасьці, што ўжо вызначаліся, яе адзначаную манеру, мастак у кожным асобным выпадку дае *сваё* ўжываньне тым „запазычаньням“ якія зьяўляюцца агульным здабыткам літаратурнага моманту і складаюць аб‘ект яго перайманьня. Гэты індывідуальны элемент павінен падлягаць падліку з боку дасьледчыка, які ў гэтым выпадку адзначыць пэўную долю асабістага багацьця мастака.

У больш конкрэтным выглядзе стане перад намі існасьць перайманьня, калі мы азначым, як належыць разумець момант запазычаньня, а таксама і асабістую спадчыну пісьменьніка. У творчасьці кожнага мастака поруч з элементамі, якія прышлі да яго па традыцыі, у тым ці іншым стопні прысутнічае і элемент асабісты, які складае індывідуальную спадчыну пісьменьніка. У яе зьмест уваходзяць як зьявішча тэматычнага парадку, так і формальнага. У першым выпадку ў асадкі індывідуальных зьместаў мастака ўмоўна можна аднесьці яго тэматычныя нахільнасьці, якія ўзяты ім з яго асабістых перажываньняў—з сфэры яго жыцьцяпісу. Але, як ужо адзначалася, гэты бок вывучэньня складае тое, чаму мы далі назву крыніц творчасьці. Гэта проблема самастойнага парадку. Другая справа—зьявішчы формальныя, спосабы творчасьці, манера пісьменьніка. У данай галіне мастак звычайна ідзе за густамі літаратурнае эпохі, відазьмяняючы іх, аднак па свойму ва ўласнай творчасьці. Але поруч з гэтым ён утварае і формы самастойныя, орыгінальныя, якія не знаходзяць для сябе адпаведнасьці ў стылю яго эпохі. Гэты момант таксама складае сфэру яго асабістых дасягненьняў. І ў галіне толькі гэтых індывідуальных спосабаў пісьменьніка мы можам гаварыць аб запазычаньнях. Толькі пры ўмове запазычаньня зьявішч такой ўласьцівасьці адным мастаком у другога мы можам паставіць пытаньне аб уплывах, іменна, у выглядзе запазычаньняў. Але акружына такога роду самастойных непаўторных зьявішч вельмі вузкая, бо ў большасьці выпадкаў галіна формальнага боку творчасьці зьяўляецца адбіткам мастацкіх заданьняў эпохі і складае прадмет вывучэньня ўплываў у выглядзе перайманьня і сьледаваньня наказам эпохі.

Вывучаючы зьявішча перайманьня і запазычаньня дасьледчык, як зазначалася, мае справу з матар‘ялам аднолькавым—мастацкім. У яго межах ён зазначае, дасьлядуючы гэтае пытаньне, пэўныя сувязі ў выглядзе перайманьняў ці запазычаньняў між тым, што дае літаратурная эпоха ў агульнай масе яе мастацкіх твораў і тым, што маецца ў творчасьці пісьменьніка, які вывучаецца. У гэтым выпадку ён вызначае эволюцыйныя адносіны між імі, г. зн. закончвае другі момант гістарызму.

Такім чынам проблема ўплываў і пытаньне аб крыніцах творчасьці прывялі да высьвятленьня тых конкрэтных задач „гістарызму“, якія ставіць сабе вывучэньне мастацкага твору, якое экзэгэтуе. Аднačасна з гэтым, як няўхільны вынік, азначыліся і агульныя формы *індывідуальнага моманту*, вылучанага ў процэсе таго самага вывучэньня, як элемэнт супрацьлеглы таму, што ўваходзіць у зьмест „уплываў“ і „крыніц“ і ўтварае *традыцыйны здабытак* у творчасьці пісьменьніка. Гэтыя два моманты—традыцыйны і індывідуальны—складаюць

істотныя бакі ў поэтыцы пісьменьніка, якія вынікаюць пры яе тлумачэньні. Але поруч з гэтым у іх межах трэба адрозьніваць і момант *тыповых* зьявішч. Задача дасьледчыка ў гэтым выпадку будзе складацца з таго, каб адзначыць, у якім стопні творчасьць пісьменьніка, які вывучаецца, або яе асобныя часткі, зьяўляюцца тыповымі, як для азначанага пэрыяду часу, для пэўнай эпохі, гэтак і для чалавечага жыцьця наогул, у яго шырокім маштабе; іншымі словамі, наколькі вялікія ў яго творчасьці элементы чыста-часовага пераходнага характару, а таксама, заўсёдныя. У конкрэтным выглядзе, дастасоўна да тых пытаньняў, якія вызначаны ў асадках коордынат—традыцыйнага і індывідуальнага, азначэньне тыповага дапушчае вызначэньне таго ў якім стопні ў сваю чаргу тыя, ці іншыя зьявішчы традыцыі, а таксама асабістае спадчыны мастака, у адносінах да наступнае літаратуры, зьяўляюцца ў ролі фактаў, якія ўзьдзейнічаюць на яе, або ў форме ўплываў, або яе крыніц. У гэтым выпадку вучоны зазначыць гістарычныя сувязі твораў, якія вывучаюцца з наступнымі літаратурнымі зьявішчамі. Такім чынам, у канцовым падліку, вылучаючы тры коордынаты традыцыйнае, індывідуальнае і тыповае і зазначаючы гістарычную сувязь творчасьці, якая вывучаецца як з папярэднімі для яе творамі, гэтак і з наступнымі мы выконваем вымаганьні „гістарызму“ навукі аб літаратуры ў поўным стопні.

Узаемаадносіны, якія вызначыліся ў процэсе папярэдняга выкладаньня, між .гісторыка-культурнымі абставінамі“ і творчасьцю даюць магчымасьць паказаць для першага разуменьня, перш за ўсё, яго разьмеры выкладаныя ў вывучэньні літаратуры, якое экзэгэтуе, а потым і яго значэньня ў навуцы аб літаратуры. Выкладаньне асобных зьявішч жыцьцёвай рэчавістасьці можа быць толькі ў такім ахопе, у якім гэта патрэбна для тлумачэньня тых, ці іншых зьявішч у галіне зьместу і формы мастацкае творчасьці. Такім чынам „гісторыка-культурныя абставіны“, як фактар, які толькі тлумачыць, ня мае ў нашай навуцы самастойнага значэньня і зьяўляецца толькі яе дапаможнай часткай.

Уводзячы ў асадкі нашых вывучэньняў культурна-гістарычны фон, трэба адзначыць, што для абмаляваньня яго ні ў якім разе ня трэба зварачацца да літаратурных твораў і адтуль браць матар‘ял для абмаляваньня культурных настрояў эпохі. Гісторыка-культурная навука, як гэта вынікае з папярэдняга выкладаньня, ня можа разглядаць і кваліфікаваць мастацкі твор, як дакумант, яно мае толькі гістарычны інтарэс і зьмяшчае ў сабе толькі фарбы для намаляваньня малюнку абкружаючых абставін. Тыя даныя, на падставе якіх гісторык літаратуры будзе яго маляваць, павінны быць узяты з дысцыплін, якія мяжуюць з літаратурай, з гісторыі, соцыолёгіі, філёзофіі, гісторыі мастацтваў і г. д., іменна, такіх, якія вывучаюць рачавістасьць пазаэстэтычнага парадку.

Вызначаючы асноўныя пуціны гісторыка-літаратурнай навукі наагул і беларускай, паасобна і ствараючы схэму навуковага вывучэньня літаратуры і яе гісторыі, мы далёкі ад думкі, што веданьне тэорэтычных правіл і паказаньняў забясьпечвае посьпех гісторыка-літаратурных досьледаў і што па пунктах мэтадалёгіі нашае навукі можна навучыцца працаваць і зрабіцца вучоным гісторыкам літаратуры. Мэтадалёгія толькі вядзе думку вучонага ў вядомым кірунку і яна зьяўляецца свайго роду зоркай, што паказвае шлях, у яго навуковых занятках. Увесь сакрэт навуковай працы месьціцца ў тым, каб найлепшым чынам сыры мастацкі матар‘ял апрануць у адпаведную навуковую форму, дапасаваць тэорыю да практыкі і даць „сапраўдную“

навуку аб літаратуры. У гэтым выпадку мэтадалёгічныя прадпасылкі і тэхнічныя правілы не абхопліваюць усіх даных для пабудаваньня гэтае навукі. Адзіная сіла, ад якой залежыць посьпех і найлепшае выкананьне гісторыка-літаратурных досьледаў у сэнсе апрацоўкі матар'ялу ў навуковую форму, зьяўляецца творчая самадзейнасьць, асабістая талентнасьць вучонага, яго інтуіцыя, яго мастацкасьць, яго імпрэсыя. Творчае выбражэньне складае адзін з істотных момантаў навуковай працы.

Такім чынам, зрок вучонага гісторыка-літаратуры павінен абхопліваць тры галоўныя прадметы: мастацкую творчасьць ў выглядзе матар'ялу, бясформенага ў навуковых адносінах, мэтад, як адпраўны пункт, прыём, шлях і мэта навуковых досьледаў і, нарэшце, індывідуальную творчую талянавітасьць, як сілу, якая найлепшым чынам тлумачыць абодва папярэднія фактары. Гэтыя тры часткі зьяўляюцца істотнаю прыналежнасьцю гісторыка-літаратурнае навукі, а іх аб'яднаньне ў выглядзе цэльнае сыстэмы складае ўвесь сакрэт навуковых гісторыка-літаратурных досьледаў.

---

**Павел Панкевич.**

# Проблема политехнического воспитания [1]).

## Индустриализация СССР и политехническая школа.

1) Индустриализация СССР выдвигает на очередь дня вопрос о политехническом воспитании. Несмотря на то, что этот вопрос принципиально разрешен в программе ВКП(б) и в официальных документах Советского Правительства в первые годы революции, политехническая школа у нас отсутствует и до сих пор. Причиной этого является разрушение хозяйственной базы нашего государства в период военного коммунизма и гражданской войны, а также общая экономическая отсталость Советского Союза по сравнению с передовыми капиталистическими странами (например, по сравнению с С.-Ам. С. Шт.). Однако, в связи с тем, что „восстановительный период" развития нашего хозяйства уже завершен, мы переходим к реконструкции техники производства в государственной промышленности на новых началах. А это создает условия для построения политехнической школы.

## Автоматизация и химизация современной промышленности.

2) Материальной базой политехнической школы является крупная промышленность, развивающаяся на основах автоматизации и химизации процесса производства. Эти процессы сопровождаются, во-первых, концентрацией производства, во-вторых, уменьшением количества рабочих сравнительно с величиной основного капитала, и, в-третьих, упрощением труда, благодаря чему создаются предпосылки для нивелирования рабочей силы. Если взять промышленность С.-Ам. С. Шт., то рост ее с 1899 по 1909 г. выражается в следующем: число предприятий возросло на 29 проц., мощность механических двигателей на 85 проц., общая сумма капитала на 106 проц., а число рабочих и служащих увеличилось на 45 проц. Рост мощности механических двигателей и общей суммы капитала превышает увеличение количества рабочих и служащих на американских предприятиях за тот же промежуток времени.

О процессах автоматизации и химизации крупной промышленности говорят уже основоположники марксизма. Вот что, например, пишет Энгельс о промышленном перевороте в Англии в первой половине XIX в. „Место домашнего труда занял труд общественный в больших зданиях. Ручной труд был заменен движущей силой пара и работой машин. С помощью машины ребенок 8 лет производил больше, чем прежде двадцать взрослых мужчин. Шестьсот тысяч фабричных рабочих, из которых половина детей и больше половины женщин, исполняют работу ста пятидесяти миллионов человек. Но это только начало промышленного переворота. Мы видели, как крашение, набойка и

[1]) Эта статья является кратким изложением моего доклада, прочитанного в Московском исследовательском Институте Научной Педагогики 29 января и 5 февраля 1927 г.

беление развились в связи с прогрессом пряденья и ткачества и вследствие этого пришлось прибегнуть к помощи механики и химии. Со времени применения паровой машины и металлистических цилиндров при набойке один рабочий исполняет работу двухсот человек. Употребление пара вместо кислорода при белении сократило эту операцию с двух месяцев до нескольких часов“ (Маркс и Энгельс, Сочинения т. II, стр. 390). Здесь Энгельс рисует яркую картину, каким образом автоматизация и химизация процесса производства вызывают изменение качества человеческого труда.

## Электрификация промышленности, как основная база коммунистического общества.

3) Если этот переворот был вызван тем, что промышленность использовала в качестве двигателя пар, то дальнейшим шагом в развитии промышленности было введение электрического двигателя и широкое использование в производстве химических процессов. Это падает на 70-80 годы прошлого столетия. Теперь в С.-Ам. С. Шт. на протяжении 500.000 кв. верст слились в одну сеть 7 электрических кампаний, располагая центральными станциями общей мощностью в 1.010.355 лош. сил. Берлинские электростанции вырабатывали в 1888 г. 1,5 милл. киловатт-часов для света и только 300.000 киловатт-часов для электродвигателей, а в 1908 г. соответственно—40 и 55 милл. киловатт-часов. Теперь электричество большею частью используется в промышленности. В результате этого упрощение труда достигло небывалых размеров. Какой именно переворот произвело электричество, механика и химия в крупной промышленности, можно видеть хотя бы из следующего описания: „Современный бессемеровский завод с двумя конверторами по 10 тонн вместимости производит 2000 тонн в день, так что каждые четверть часа конвертор опоражнивается. Из этих 15 минут, 4 мин. идут на пополнение конвертора, 9 мин. на самое выдувание, на все прочее—остальные две минуты. Расплавленный чугун доставляется на тележке вместимостью в 20 тонн со скоростью 2 метров в секунду, расплавленная сталь при помощи крана опоражнивается в кокош. Для всего этого необходимо 4 человека, которые приводят в движение рычаги конвертора, тележки с чугуном. кран; причем, несмотря на крайнюю быстроту, все совершается с полнейшим спокойствием—ручного труда нет, человек направляет машины и двигатели, командует над ними“ (Кулишер, промышленность и условия труда, стр. 160). Из анализа процесса развития современного крупного производства легко сделать вывод о коммунистической форме производства в будущем. Эта форма производства будет универсальна и едина.

Здесь фабрики целого района, провинции или страны превратятся в расчлененную систему рабочих машин, получающих энергию „через единый для всей территории передаточный механизм от одной централизованной системы автоматов“.

## Депрофессионализация труда.

4) Прогрессивное развитие техники в современной промышленности создало условия для новых производственных отношений, выражением которых является депрофессионализация труда. Последняя характеризуется следующими моментами: 1) отмирание системы технического и общественного разделения труда, 2) превращение физического труда в умственный и 3) нивелирование рабочей силы. Элементы депрофессионализации труда выявляются в том, что „приорда крупной промышленности обусловливает перемену труда, движение функ-

ций, всестороннюю подвижность рабочего“ (Маркс). Но наряду с этим, капиталистическая форма промышленности воспроизводит мануфактурный способ производства, основанный на техническом разделении труда, ибо это выгодно для капиталистов. Отсюда, в капиталистическом производстве наблюдаются две противоположные тенденции развития: с одной стороны, депрофессионализация труда, а с другой, крайняя его социализация. Это противоречие разрешится только в коммунистическом обществе в пользу прогрессивных тенденций, а именно: в направлении победы универсального труда.

### Переход физического труда в умственный.

5) Превращение физического труда в умственный можно проследить на процессе развития современной крупной промышленности. В настоящее время рабочий является представителем физического труда: он только исполнитель. Его профессия не требует особенного напряжения умственной деятельности. Десятник выполняет не только физическую работу, но и руководит известной частью производства. Он не только исполнитель, но и организатор. Техник больше всего занимается умственной деятельностью, хотя его профессия не исключает элементов физического труда. Наконец, инженер является представителем умственной деятельности, он наиболее типичный организатор производства.

Но даже и в профессии инженера есть известные элементы физической работы (например, черчение, измерение и проч.). Современная промышленность развивается в таком направлении, что сокращается потребность в рабочих и увеличивается потребность в техническом персонале. Относительный рост числа рабочих, служащих и иженеров в германской промышленности за два периода выражается в следующих цифрах.

| Категории работников | 1895 г. | 1907 г. |
|---|---|---|
| 1) рабочих . . | 100 | 143 |
| 2) конт. персон. | 100 | 290 |
| 3) ср.-тех. персон. | 100 | 230 |
| 4) высш. техн. песонал . . | 100 | 255 |

Если не принимать во внимание конторский персонал, наибольший процент роста падает на высший технический персонал. Теперь промышленность больше всего нуждается в инженерах. Но и от рабочих она требует повышения их образовательной подготовки. Об этом открыто пишут инженеры буржуазных стран. „Машина уменьшает число работников—пишет Харри Кемпель—,требует наличности высшего типа работы“, Профессор колледжа в Лауренсе Чарльс Рейтель заявляет следующее: „Умственный контроль у рабочего требуется все больший; это доказывается, между прочим, расценкой заработной платы .Машина вводит большую стоимость ошибок. Урони тачку с рудой, велика ли беда от этого! Урони автоматический ковш и не оберешься

убытков и хлопот“. То же повторяет и Карроль Райт. „Темный ум находится в опасности рядом со сложной машиной, но и сложные машины находятся в опасности от темного ума, ими управляющего. Влияние машины делается все более значительным. Она требует не более сильных мускулов, а более сильного интеллекта“. Так говорят представители буржуазного общества. Тем более мы должны учесть эту новую тенденцию экономического развития, чтобы представить себе картину будущего социалистического общества. Уже Маркс и Энгельс сумели отметить этот факт в том месте, где они говорят об уничтожении труда в коммунистическом обществе. Они пишут: „При всех прошлых революциях оставался всегда нетронутым род деятельности,—дело шло всегда только о каком то ином распределении этой деятельности, о новом распределении труда между иными лицами, между тем как коммунистическая революция направляется вообще против прежнего рода деятельности и устраняет труд“, (Архив Маркса и Энгельса, кн. I, стр. 226). Такая же мысль повторена и в другом месте того же произведения: „Пролетарии, чтобы выявить свою личность, должны уничтожить условие своего собственного существования, являющееся в то же время условием существования всего теперешнего общества, т. е. должны уничтожить труд“ (там же, стр. 245). В приведенных выдержках Маркс и Энгельс говорят не об уничтожении труда вообще, а об уничтожении прежних форм труда. ибо коммунистическая революция, направляясь против прежнего рода деятельности, должна уничтожить физический труд, создав предпосылки для прогрессивного развития „реального сознания“ и интенсивной умственной деятельности. Иванов справедливо указывает, что „коммунистическая форма стремится к положению, когда усеченная фабрика, став органом одной общественной машины, будет представлять автомат под надзором одного рабочего или инженера“. Уже и теперь встречаются такие примеры. „На станции у радужного водопада (на реке Миссуры), дающей 46.000 лош. сил, инж. Колясников, к своему удивлению. встретил лишь одного человека—инженера, записывавшего расход энергии. В здании было пусто“ (Вестник соц. акад., № 4, за 1923 г., стр. 179).

**Мысли Маркса и Энгельса о депрофессионализации труда в коммунистическом обществе.**

6) В коммунистическом обществе не будет профессий. Каждый человек будет принимать участие в самых различных отраслях производства и общественной деятельности. Эта мысль подтверждается Марксом и Энгельсом. „В коммунистическом обществе—пишут они,— где каждому индивиду не отведен исключительный круг деятельности и каждый может развиваться в любой отрасли труда, общество регулирует все производство и именно поэтому создает для меня возможность сегодня делать одно, а завтра другое, утром охотиться, после обеда ловить рыбу, вечером заниматься скотоводством или критиковать еду—как моей душе угодно, при чем я не становлюсь от этого охотником, рыболовом, пастухом или критиком“. (Арх. Маркса и Энгельса кн. I-ая стр. 223). В другом месте Энгельс указывает, что „настанет время, когда не будет ни извозчиков, ни архитекторов по профессии, и что человек, который распоряжался в течение 1/2 часа, как архитектор, будет затем править лошадью в качестве извозчика, пока не явится опять необходимость в его деятельности, как архитектора“. (Анти-Дюринг, изд. 1918 г., стр. 179). Отсюда и возникает необходимость политехнического воспитания. „Воспитание—говорит Энгельс— позволит молодым людям быстро знакомиться со всей системой произ-

Яўхім Гаворка, да якога цяпер зварочваецца аўтар, які, нібыта, ўжо даўно яму служыў, гэта іншасказ. Проста адчуваецца, што Камунякa ў гэтым выразе вызначае сваё мастацкае пяро, і жадае сказаць, што ўжо з даўных часоў ён займаўся творамі літаратурнымі, не навак у гэтай галіне.

Вось чаму сама набіваецца задача адшукаць і іншыя творы гэтага пісьменьніка.

З прычыны таго, што аўтар, як мы бачылі вышэй, яшчэ больш блізка быў знаёмы з Мялешкай, чымся з Абуховічам, мімавольна вынікае жаданьне дасьледваць літаратурны твор, вядомы пад назвай „Прамова Мялешкі“.

Трэба зазначыць і яшчэ адно: В. У. Ластоўскі выказаў ужо думку, што „па стылі Прамова Мялешкі і Ліст Камунякі да Абуховіча калі не аднае і тае-ж рукі, то, бязумоўна, аднае і тае-ж самой пісьменьніцкай школы“ [16]).

Само сабой паўстала заданьне дэтальнага вывучэньня літаратуры „Прамовы Мялешкі“ і самага твору.

---

## РАЗЬДЗЕЛ ДРУГІ.

## Прамова Мялешкі.

### I. Літаратура.

„Прамова Мялешкі“ мае сваю досыць значную літаратуру. Цікава, што перш за ўсё „Прамова Мялешкі“ зьвярнула на сябе ўвагу польскіх дасьледчыкаў, затым украінскіх, расійскіх і ўжо напасьледак беларускіх.

У першы раз гэты твор надрукаваў у 1819 г. польскі гісторык I. U. Niemcewicz у выданьні „Zbiór pamiętników historycznych o dawnej Polsce (t. II, str. 341—344), але ў транскрыпцыі лацінікай. Niemcewicz даў такі агаловак: „цікаўная прамова Івана Мялешкі, кашталяна Смаленскага, на сойме ў Варшаве ў часы Жыгімонта III ў 1589 г.“ Пры гэтым Нямцэвіч адзначыў толькі, што ў яго пад рукамі быў сьпіс гэтага твору з бібліотэкі гр. Серакоўскага... Але невядома —адкуль зьявіўся ў Нямцэвіча паданы ім агаловак?

У 1851 г польскі вучоны М. Вішнеўскі, аўтар працы „Historja lit. Polskiej“ апублікаваў прамову Мялешкі па рукапісе з бібліотэкі Хрэптовічаў у Шчорсах (на Меншчыне). Вішнеўскі надрукаваў гэты твор лацінікай, з такой заўвагай: „Вельмі цікаўным помнікам беларускай мовы, а таксама і цікавай спробай беларускага вымаўленьня XVI сталецьця, зьяўляецца „Прамова Мялешкі“, Смаленскага кашталяна, на Варшаўскім сойме ў часы Жыгімонта III ў 1589 г.“ („Bardzo ciekawyn języka białoruskiego zabytkiem, a razem ciekawą białoruskiej wymowy z szesnastego wieku próbką, jest mowa Meleszki, kasztelana Smoleńskiego, miana na sejmie w Warszawie za króla Zygmunta III, r. 1589[17]).

У 1862 г. на падставе рэдакцыі, апублікаванай Нямцэвічам, зьявіўся пераклад прамовы Мялешкі на мову украінскую. Зрабіў і надрукаваў яго ў часопісе „Основа“ слынны украінскі пясьняр П. А. Куліш[18]). Гэты пераклад, такім чынам, не дае нічога новага ў параўнаньні з I. U. Niemczewicz‘ам.

У навуковы, агульна расійскі, зварот „Прамова Мялешкі“ ўвашла ў 1865 г., калі яна была надрукавана ў другім томе выданьня Архэографічнае Камісіі „Акты относящиеся к Истории Южной и Западной России“ пад рэдакцыяй М. І. Кастамарава. Гэтую прамову Кастамараў (як Nimcewicz і Wiszniewski) датаваў 1589 г. і даў ёй наступны агаловак: „Речь Ивана Мелешка, каштеляна Смоленского, произнесенная на Варшавском сейме в присутствии короля Сигизмунда III, против покровительствуемого польскими королями влияния немцев и поляков на обычаи и приемы жизни в Руси и Литве“[19]).

Зусім невядома і незразумела: а) на падставе чаго датавана гэтая „прамова“—1589 г., б) чаму яна прыпісана ўласна Смаленскаму кашталяну Івану Мялешку і в) аткуль відаць, што сказана яна на сойме ў Варшаве. Праф. М. І. Кастамараў прамінуў чамусьці нават спаслацца на крыніцу, з якое ён пачарпнуў гэты помнік. Толькі ў прадмове да азначанага тому актаў ён зрабіў наступную заўвагу: „Весьма замечательна речь Ивана Мялешка (№ 158), где в юмористическом тоне изображается изменение русских нравов под польским влиянием, которое впоследствии много способствовало успехам унии и господства

польского элемента в русских краях" [20]). З гэтае заўвагі ясна, што Кастамараў лічыў прамову не мастацкім творам, а „замечательным гістарычным актам". Тым больш, здаецца, патрэбна было Кастамараву зрабіць спасылку на крыніцу, што ён падаў яе ў модэрнізаванай рэдакцыі (у украінскі бок). Напрыклад, выразы: „радыты", „прыждаты", „говорыты", „ходыць", „годынник", „открыты" і г. д. побач з яскрава беларускімі: „на гэтакіх зьездах няколі не бывалі", „гетая", „на все гето", „гетого чорта", „по хрыпте", „трубіць", „іему", „іего", „нашіе старшіе" і г. д.

Такім чынам, хаця „Прамова Мялешкі", як памятнік старога беларускага пісьменства, вядома з пачатку XIX стал., аднак, выгляд яе першаўзору заставаўся ўвесь час невядомым.

У 1894 г. проф. Н. Ф. Сумцоў надрукаваў у „Киевской Старине" (кн. V, стар. 195—215) артыкул: „Рѣчь Ивана Мелешки, как литературный памятник". Вывады, зробленыя проф. Сумцовым у сваім артыкуле, наступныя: 1. Ён лічыць маючай поўную навуковую вартасьць рэдакцыю прамовы, пададзеную М. І. Кастамаравым у „Актах" і зрабіў яе пераклад на расійскую мову, не закрануўшы пытаньне аб адносінах яе да копій з бібліотэк гр. Серакоўскага і Хрэптовіча. 2. Проф. Сумцоў не адважваецца лічыць аўтарам прамовы кашталяна Смаленскага Мялешку, але не закранае пытаньне аб запраўдным аўтару гэтага твору. 3. Проф. Сумцоў лічыць „Прамову Мялешкі" сатырай на побыт XVI сталецьця, і, наогул, літаратурным творам, зробленым тутжа на Беларусі, але пад украінскім уплывам.

Артыкул проф. Сумцова, па шчырай праўдзе, трэба прызнаць лепшым за ўсё, што надрукована адносна прамовы Мялешкі, ня гледзячы на шэраг закідаў, якія ім выклікаюцца, асабліва з боку імкненьня аўтара паставіць „прамову" пад непасрэдны ўплыў твораў Івана Вішэнскага.

У 1921 годзе акадэмік Е. Ф. Карскі ў сваёй капітальнай працы „Белорусы" (т. III, ч. 2, стар. 113-116) зрабіў спробу літаратурнага агляду прамовы Мялешкі. Застанавіўшыся крыху на выданьнях гэтага твору Вішнеўскім, Кастамаравым, Сумцовым і перакладах Куліша і Нямцэвіча, Карскі пераходзіць да разгляду зьместа „Прамовы". Вынік досьледаў Карскага наступны: Прамова ёсьць гумурыстычны малюнак перамены „рускіх" звычаяў пад польскім уплывам, а не парлямэнцкая мова. Твор гэты быў складзены яшчэ ў XVI ст. і хадзіў па руках, перарабляўся і дапаўняўся. Што датычыць мовы, то ў „Прамове" „не мало" асобнасьцяй украінскае мовы, аднак і беларускія рысы ў ім адбіліся яскрава: цьвярдое усюды „р" і „дз".

Відаць, што Карскі ня ідзе далей проф. Сумцова ў вышэйпаданым аглядзе. Арыгінальным, здаецца, зьяўляецца ў Карскага паказаньне, нібыта, месцам пахаджэньня „Прамовы" быў Слонімскі павет, дзе быў маёнтак Яна Мялешкі (Жыровіцы).

Амаль што ў адзін час працаваў над досьледам „Прамовы Мялешкі" проф. Н. А. Янчук, які ўвайшоў у яго „Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры" (Менск 1922 г., стар. 83-89). Паводлуг яго разважаньняў, „Прамова"—сатыра на шляхецкі стан XVI ст. Аўтар яго невядомы, і толькі захаваў сваё імя пад псэўдонімам Яна Мялешкі. Такім чынам, Янчук далучаецца да думкі проф. Н. Ф. Сумцова, якім ён і карыстаецца ў сваёй працы і далей ня йдзе.

У 1924 г. Максім Гарэцкі ў „Гісторыі Беларускае Літаратуры" (Менск, стар. 127-129) застанаўліваецца над „Прамовай Мялешкі", як над „політычным памфлетам". Аўтар, па яго думцы, належаў да тых колаў шляхецтва канца XVI ст., якое было вельмі незадаволеным згубай політычнай незалежнасьці (відаць у выніку вуніі 1569 г.) і шкад-

лівымі польскімі ўплывамі. Аднак, Гарэцкі ня даў грунтоўнае падставы для такога погляду. Таксама ня выказвае ён падстаў, калі падае думку, што аўтар „Прамовы“ пад „немцамі“, да якіх адносіцца вельмі неспачуваюча, разумеў наагул „заходня-эўропейскі ўплыў“... Па нашай думцы такая гіпотэза зусім адпадае, паколькі ў творы ясна адзначаюцца немцы і ляхі паасобна і аўтар выказвае пытаньне, як тых і другіх выгнаць або сьцяць (р. 120-127 паводле рэдакцыі Niemcewicz'а).

1926 г. у гісторыі „Прамовы Мялешкі“ складае як-бы новую эру. Апублікавана новая рэдакцыя гэтага твору па рукапісу, які маецца ў бібліотэцы В. У. Ластоўскага, у выданьні яго „Гісторыя Беларускай (Крыўскай) кнігі“ (Коўна, 1926 г., стар. 446-448). Паводле паведамленьня Ластоўскага, рукапіс „Прамовы“ набыты ім у Вільні з паперамі Турава-Пінскай Архіепіскопіі, пісаны ён кірылаўкай і павінен быць залічаны да 1663 г., бо на адвароце яго захаваўся такі напіс: „Roku 1663, miesiąca Julii 20 dnia. Mowa kasztelana Smoleńskiego Mieleszki, miana roku 1589 na Seymie w Warszawie. Pisałem Michal Bielski, strażnik województwa Brzeskiego (стар. 446).

Трэба зьвярнуць увагу і яшчэ на адну заўвагу, паданую Ластоўскім у названай кнізе: нібыта, у яго руках ёсьць і іншая копія „Прамовы Мялешкі“. Яна пісана лацінікай, характарам XVIII стал. Атрымана ад В. Сьвятаполк-Мірскага. Але, нажаль, гэта копія неапублікавана.

Усё выказанае падтрымлівае думку, што наагул „Прамова Мялешкі“ была творам, пашыраным на Беларусі, хаця ён у друку не зьяўляўся, таксама як і „Ліст да Абуховіча“ Цыпрыяна Камунякі.

## II. Параўнаньне рэдакцый.

З агляду літаратуры твору „Прамова Мялешкі“ лёгка заўважыць, што ён пакуль што вядомы з трох крыніц: а) з бібліотэкі гр. Сераkоўскага, з якой мы маем тлумачэньні Niemcewicz'а і Куліша, але ня ведаем яе пэўнага выгляду; б) з бібліотэкі Хрэптовічаў, з якой даў копію Wiszniewski лацінікай і перадрукаваў Кастамараў ужо кірылаўкай, згодна аўтэнтыку, і в) з архіву Тураўска-Пінскай архіепіскопіі, надрукованая ўпяршыню Ластоўскім з адзначэньнем, што орыгінал зьяўляецца рукапісам 1663 г. Але апрача гэтых копій маецца яшчэ чацьвертая, пісаная лацінікай, якая застаецца неапублікованай.

Мы лічым, што Niemcewicz падаў (хаця больш-менш і ў тлумачэньні) поўны і бяз зьмен тэкст аўтэнтыку, які ён меў прад вачыма. Бяз гэткага прыпушчэньня, нельга ставіць гэтае, усё-ж такі перапрацоўкі, пад адну мерку з дзьвюма апошнімі копіямі.

Пры выказанай умове, мы паспрабуем параўняць гэтыя тры крыніцы.

Першая, паданая Нямцэвічам (глядзі дадатак IV), відаць, самая карацейшая і найбольш удалая з боку зразумеласьці. Разам з тым, мы знаходзім тутака значную колькасьць дадаткаў, якіх няма ў двух апошніх крыніцах Усе гэтыя асобнасьці адзначаны намі курсывам. Застановімся спачатку на зусім новых сказах: 1) Паміж 14 і 15 радкамі маецца такі дадатак: „Choć kto podrwil, to z dobrej chęci“ (Niemcewicz), „Хоть хто й поглозуе, то з доброю мислю (Куліш); 2) Рад. 39-й чытаецца: „а my па coż patrzemy“ (N.) „а ми-на що дивимось“ (К), што зусім зьмяняе сэнс гэтага радку ў двух іншых копіях, „надто вже огледимося на все тое“ (Ластоўскі), або „надто ўже насмотрыўся на все гето (Wisznewski і Кастамараў); 3) Паміж 50 і 51 радкамі—дадатак: „różnemi językami gadaią“ (N) „усіма язикамы говорять“ (К); 4) рад. 68-69 чытаецца: „żeby i krol Jmści poznal, że co nam po takich poganach“ (N.), „нехай би и король его-милость знав, що нам тиі поганці“

(К.). Гэтая форма, здаецца, больш зразумела, чымся „штоб король его милосць не слыхал (Л) абоуслыхал (W. К.) нехай бы морды такой поганой не надымал“ (Л. К.); 5) Рад. 104-105: „tylko, wykradłszy się z gospody, do dziewek dybią (N),—Тільки укравшись из господи до дівчат диблют (К), тады як у другіх двох крыніцах стаіць: „И толко убравшысе на высоких подковках до девок дыбле“ (Л. W. К.). Найбольш да сэнсу падыходзіць, напэўна, першая рэдакцыя; 6) Рад. 120-127: „Jabym mówił: czas tych to Polasków z Niemcami powycinać, od porucznika do rady, a co do nich wlazło przeciwko prawu naszemu odjąć od nich. Starsze pokłony Smoleńskie, przedzierajcie oczy, lepiej o nich radzić jak o Inflantach“ (N). „Я-б сказав: час тих ляшків з німцями повистинати, од поручніка тай до рады, а що од іх улезло против нашому праву, одняти в них. Старші поклоні Смоленські, продирайте очи, „Ліпше об іх радити, ниж об Инфлянтох“ (К). У іншых двух крыніцах зусім іншае падаецца: „И такого чертополоха з немцами выгнати, што до нас влезли противко праву нашому“ (Л. W. К.). А далейшае ёсьць толькі ў адной крыніцы: „Од их милостей, панов Ляхов гинуть наши старие поклоны Смоленские. Передирайце очи лепше о Инфлянты“ (Л). 7) Паміж рад. 194-195 знаходзім дадатак: „byłoby warowniej i spokojnej od dobrochotników miłosnych (N), „було-б“ защитній и спокойній од доброхотників милосних“ (К).

Больш мелкія дэталі копіі Niemcowicz'a—Куліша, аб якіх мы зрабілі ўспаміны вышэй, могуць быць падзелены на дзьве часткі: а) ужываньне іншых слоў або тэрмінаў, але блізкіх па літарах, ці па сэнсе і б) унясеньне слоў, якія зусім зьмяняюць сэнс таго, што мы знаходзім у іншых копіях. Прыклады мажліва бачыць у наступнай табліцы:

| Радок | Ў копіі Niemcewicz'a | Ў Ластоўскага, Wisznewski'ego |
|---|---|---|
| | А | |
| 18 | Stany | Нашые старые (W.) князи (Л). |
| 58 | porucznik | paniczyk |
| 64 | ściska | нашептываеть |
| 65 | skrobiec po nodzie | в долонку скробеть |
| 92 | jak podurzeni | як подвареные |
| 98 | mili panowie | милостивые панове |
| 102 | tłusto | сластно |
| 131 | zdradno wymowlać | здармо поговорили есмо |
| 136 | konie drabantom | кони дрыганты |
| 147 | drabant koło kobiet | дрыгант коло кобыл |
| 170 | bankiet | достатки |
| 190 | białoszyjki i інш. | белоножки і інш. |
| | Б | |
| 21 | jak Zygmunt August | проч Жыкгимонта |
| 24 | będąc Lachem | Ляхом менечися |
| 46 | w jakich to sukniach | в сукнях перестых |
| 63 | miga czapką albo kapelusz przekrywia | шапкою перекривляеть |
| 74 | nie dawali niemcom jego brykać | а немци его не вельми перекрикавали |
| 149 | sam ojciec, mówią oni (drabanty), nie upilnujo was | и сам дидко не упилнует |

| Радок | Ў копіі Niemcewicz'a | Ў Ластоўскага Wisznem-ski'ego |
|---|---|---|
| 155-6 | jakośmy posłow wysyłali do Wilna, Cóż? nie długo kręcić zaczoł złodzej zamorszczyk | Як есмо послали до Вилни на паправу, ажно на пятую копу крутить злодей заморщик |
| 194 | Z niemiecka pluder nie używać | З немецка зажывали плюндрыки |

Гэтыя заўвагі патрабуюць, каб копію, паданую Niemcewicz'ам, лічыць за асобную рэдакцыю прамовы Мялешкі.

Цяпер зробім параўнаньне копій: а) Ластоўскага з аднаго боку (глядзі дадатак II) і б) Wiszniewskiego і Кастамарава з другога (глядзі дадатак III).

Першая мае 20 радкоў такіх, якіх зусім няма ў апошняй. Усе гэтыя радкі намі вызначаны курсывам (17, 47-48, 94-95, 123-130, 162-163, 211-217). Апроч гэтага заўважаюцца і паасобныя словы ў некаторых радкох, якія таксама адсутнічаюць у копіі Wiszniewskiego—Кастамарава (напр. 18, 23, 30, 35, 89, 108, 110, 176 і інш.). У копіі Wiszniewskiego—Кастамарава сустракаюцца некаторыя паасобныя словы, якіх няма ў копіі Ластоўскага (глядзі спасылкі ў дадатку II: 7 „и привитал", 11—„покойников", 38—„братья", 49—„капелюшем", 70—„не пожывятся", 91—„наших интересах", 93—„держати", 136—„Аннульку" інш.). Трэба таксама адзначыць і іншую расстаноўку слоў у сказах (гл. дадатак II спасылкі 14, 16, 42, 139 і інш.).

Такім чынам, паміж копіямі, апублікаванымі Ластоўскім і Wiszniewskim—Кастамаравым, заўважаецца вельмі значнае разыходжаньне, але не такое вялізнае, як ад копіі Niemcewicz'a.

Зробленае параўнаньне вядомых нам копій „Прамовы Мялешкі" дае падставу лічыць усе іх паасобнымі *рэдакцыямі.* Самай кароткай зьяўляецца першая, з бібліотэкі гр. Серакоўскага (Niemcewicz—Куліш), і самай пашыранай—з архіву Тураўска-Пінскай архіепіскопіі (Ластоўскі). Трэцяя—з бібліотэкі Хрэптовічаў (Wiszniewski—Кастамараў) займае паміж двух сярэдзіну.

Нажаль, пакуль у літаратуры няма сьцісла навуковых, з мовазнаўчага боку, выданьняў усіх вядомых ужо нам копій твору, нельга даць агляду тых моўных адзнак, якімі істотна адрозьніваюцца яны паміж сабой. Агульнае ўражаньне ад трэцяй рэдакцыі (Wiszniewski—Кастамараў) дае падставу шукаць тут украінскі ўплыў („радыты" гл. спасылкі 9,129; „в люды"—20; „годыны прыждаты"—33; „мутыты"—73; „купиты"—99; „щипнуты"—124; „поциловали"—137 і інш.), а таксама і полёнізмы („пруч Зыгмунта"—19; „іего, іему"—24, 29, 47, 48, 54, 58, 76, 77 і інш.).

Мова другой рэдакцыі (Ластоўскі) надзвычайна блізка да „Ліста Абуховічу".

Але гэтыя уражаньні патрабуюць працы над фотографічнымі, так кажучы, выданьнямі ўсіх рэдакцый самаго твору. У сучасных абставінах мажліва падыйсьці да гэтага твору з боку яго пляну, зьместу.

### III. Плян і зьмест „Прамовы Мялешкі".

Твор пачынаецца з прывітаньня да вялікага князя і сойму (радкі 1-5), што зьяўляецца ўступам у сьцíслым сэнсе.

Далей аўтар выказвае тое пачуцьцё, якое ён перажывае, трапіўшы на сойм упяршыню, бо на сойме ён ніколі ня быў і ня ведае смаку ў выказваньні „сэнтэнцый" і зараз пераходзіць на параўнаньне „старых часоў" вялікіх князёў літоўскіх, калі, па яго думцы, ня ведалі

„палітыкі“, а праўдай, як сольлю, у вочы кідывалі. Але з працягам часу каралі пачалі больш набліжаць да сябе немцаў і раздалі ім тое, што сабралі „старыя літоўскія гаспадары“. З іх найгоршую славу заставіў Жыгімонт II Аўгуст, які аддаў ляхам Падляшша і Валынь. Апошнія добрыя часы для Літоўска-Беларускай дзяржавы былі за Жыгімонтам I Аўгустам, які вельмі ня любіў ляхаў. Тады быў просты побыт, як і простае адзеньне (радкі 6—38). Гэтыя радкі складаюць лёгічны пераход да самага выкладу твора, які мае, па нашым меркаваньні, чатыры часткі.

Частка першая (р. 39—79) дае агляд сучаснасьці пад уплывам новых наежджых людзей—немцаў і ляхаў, якія ўжо выдзяляюцца сваім адзеньнем, бо ходзяць у „перестых“ суканях. Яны дзержаць бяз ліку мест і гарадоў, зусім зьмяшаліся з літоўцамі і беларусамі, атачылі караля і ім кіруюць на згубу дзяржавы Літоўска-Беларускай. Ад іх перш за ўсё пашла псота абычайнасьці,—абуткі са скрыпам, парфума, спакуса жанчын вайсковай моладзьдзю. Застаецца адзіны спосаб барацьбы: „кулаком па мордзе, або поліцай па хрэбту“, каб кароль пачуў і зрабіў належныя мерапрыемствы да зьнішчэньня гэтае псоты, альбо скарыстаў сам прыклад караля Гэнрыха Валуа (1573—1574), які сам уцёк з каралеўства, калі зразумеў, што грамадзянства рашуча ідзе супроць „немцаў“.

У другой частцы (р. 80—97) выкладу аўтар выказвае думку, што вінават у заняпадзе дзяржавы ня столькі кароль, як акаляючыя яго радныя. Яны сваім баламуцтвам не даюць, каб прасоўваліся „нашынцы“, грамадзяне літоўска-беларускага пахаджэньня. З другога боку, гэтыя „нашынцы“ зусім прыбіты, так што баяцца выказаць праўду і падхлебствуюць. І зноў аўтар лічыць, што застаецца кулак, як сродак барацьбы супроць ворагаў дзяржавы.

Трэцяя частка (р. 98—197) прысьвечана вызначэньню шкодных уплываў на абычайнасьць: а) з боку слуг з ляхаў, якія „улезлі супроць праву нашому“. Службы ад іх ня пытай, але давай ім каштоўнае утрыманьне. Між тым, ляхі праяўляюць надзвычайную нясьціпнасьць і распусту. Каб ад іх пазбавіцца, застаецца адзіны сродак—выгнаць сумесна з немцамі, маючы на ўвазе, што ляхі давялі да утраты Смаленску, а з боку немцаў ідзе небясьпека праз Інфлянты.

Шкодна адбіваецца на грамадзянскім жыцьці:

б) утрыманьне стаень для коньніцы (драбантаў) (135—149),

в) гадзіньнікі тандэтнай работы (150—158),

г) новая пышная кухня (159—174),

д) жаночае адзеньне і пакрашэньня (179—194).

Усё гэта мае вынікам непамерныя страты і зьнішчэньне, а таксама заняпад вайсковых здольнасьцяй (175—178) і распусту (195—197).

Апошняя, чацьвертая частка (р. 198—217) прысьвечана паляпшэньню становішча Літоўскае Дзяржавы. Трэба, каб пры каралі заўсёды была колькасьць сэнатараў і паноў з літоўцаў, але заўважаецца, што паміж сэнатараў большасьці цікавіцца тым, каб найбольш захапіць каралеўшчын і пралезьці ў ласку каралеўскіх фаварытаў, як Уршулька.

У заключэньні твору (р. 218—239) аўтар зварочваецца да біографіі Івана Мялешкі і зазначае паважаньне да яго з боку грамадзянства як у Смаленску, так і ў Мазыры. Фінальны зварот прамоўцы да сойму:

„Сказал бы кто з вас лучшей,
только не баламутячы,
то и я на том перестану“.

Такім чынам, мы бачым, што „Прамова Мялешкі“ мае добрую лёгічную пабудову. Мы лічым неабходным таксама заўважыць, што плян гэты вельмі блізкі да пляну „Ліста да Абуховіча“.

Агульная думка, якая прасякае „Прамову Мялешкі“,—высьвятляе пералом у грамадзкім жыцьці Беларусі ў часы пасьля Люблінскай уніі 1569 г., калі ляхі і немцы „зьмяшаліся“ тут з вышэйшымі клясамі і пачалі адыгрываць вялікую ролю ў дзяржаўных справах, асабліва з часоў Жыгімонта III.

## IV. Мастацтва ў „Прамове Мялешкі“.

Вывучэньне твору „Прамова Мялешкі“ ўпэўняе ў тым, што перад намі штучны мастацкі літаратурны твор, а не прамова соймавага дэпутата.

Гэта рашуча выказаў ужо проф. Н. Ф. Сумцоў: „Речь Мелешка носит все следы литературного произведения, вымысла, исторической мистификации, памфлета, сатиры“ [21]). Сумцоў, зусім слушна, лічыць немажлівым, каб соймавы ўдзельнік выказваў у прысутнасьці караля такія балючыя заганы ў дзейнасьці хаця і памершых каралёў і жальбы на нейкіх услугуючых [22]).

Таксама проф. Сумцоў знаходзіць, што з боку мовы гэты твор вельмі блізка падыходзіць да літаратурных твораў таго часу. Такімі творамі ён лічыць пасланьне Івана Вішанскага і нават думкі украінскія, з якіх, нібыта, аўтар бярэ і звароты і глагольную рыфму. Ён жа звараціў увагу; на тыя трапныя выразы, якія ўжыты аўтарам у яго творы. Напрыклад:

„Правым сердцем просто говорили (р 12).
„Правдою, як солею в очи, кидывали (р. 14)
„пачали нами шебунковати (р. 17 і 73)
„того нечего и в люди личити (р. 22)
„солодкая память его“ (р. 26)
„седить, як бес, надувшись, морокуеть (р. 61-62)
„з великого куфля трубить“ (р. 106)
„щыпнути солодкого мяса“ (р. 187-188)
„хотя наша костка, аднак, собачьим мясом обросла“ (р. 84-85)
„и зублем не выкуришь, як пщолы од меду (р. 129-130)
„ходим как подвареные“ (р. 92)
„як жеребец рже“ (р. 146) і інш.

Усе гэты параўнаньні і прыказкі жывуць у народнай беларускай мове да гэтага часу і зьяўляюцца трапнымі словамі народу. Ужытыя ў гэткай колькасьці ў творы, які бязумоўна мае выгляд твору напалову рыфмованага, гэтыя пакрашэньні вымушаюць аднесьці самы твор да мастацкіх старажытных твораў. З гэтай думкай згаджаюцца проф. Н. Ф. Сумцоў [23]), Карскі [24]), Янчук [25]) і інш. Такім чынам, павінны адыйсьці ў бок, як не адпавядаючы рэчавістасьці, няправільны погляд Куліша і Кастамарава, якія лічылі гэтую прамову гістарычным актам, а не поэтычным творам.

## V. Іван Мялешка.

Іван (Ян) Мялешка, бязумоўна, запраўдная гістарычная асоба.

Першы докумэнт, які мы маем адносна яго, належыць да 23 чэрвеня 1593 г.

Гэта прывілей Жыгімонта III Яну Мялешцы не першы ступень павятовых урадоўцаў (officiales districtuum)—на ўрад стольніка Гарадзенскага павету [26]). Адсюль мы бачым, што Ян Мялешка яшчэ дагэтуль не займаў ніякага ўраду, бо ён прызначаецца проста з земян

Горадзенскага павету. Дапасоўваючы гэтае соцыяльнае адзначэньне „земянін“ да тагачаснай беларускай тэрмінолёгіі, слушна параўняць яго з станам—мелкі шляхціц.

У самым канцы XVI ст., мы сустракаем Яна Мялешку ўжо на пасадзе Слонімскага маршалка [27]).

Затым, з пачатку XVII ст. ён паступова займаў урады кашталяна (камэндант, начальнік крэпасьці, замку) ў Мсьціслаўлі (з 1603 г.), Бярэсьці (з 1610 г.) і ў Смаленску (з 1615 г.). На апошняй пасадзе Ян Мялешка сканаў у самым пачатку (студзень) 1623 г. [28]).

Калі палічым, што Мялешка памёр, маючы 55-60 гадоў, то яго нараджэньне трэба аднесьці да часоў каля 1565 г. Адсюль натуральна вынікае пытаньне: ці мажліва, каб гэты Іван Малешка мог быць абраны ў якасьці дэпутата на сойм 1589 г.

Здаецца, адказ павінны быць адмоўны.

Між тым, мы маем рашучае адзначэньне, што з прамовай на сойме Мялешка выступаў у якасьці Смаленскага кашталяна:

„koli byw pan Mieleszko
„kasztalanam Smolenskim,
„a ia na tot czas za im
„z kordikom staiaw:
„iego mowa w tyie słowa byla... [29])

На пасадзе Смаленскага кашталяна Мялешка быў у 1615-1622 г. г.

Зусім зразумела, што першы кароль, якога ён „помніў“, быў менавіта Гэнрык Валуа, які нікому не аказаўшыся за мора скочыў (р. 70-78). Прыймаючы пад увагу, што Гэнрык Валуа быў абраны на каралеўства 11 мая 1573 г., а ўцёк за мора 17 чэрвеня 1574 году, мажліва прыняць за факт, што Мялешка меў у гэты час каля дзесяцёх гадоў, чаму ўжо і мог ведаць аб гэтай падзеі.

Далей у „Лісту да Абуховіча“, мы сустракаем і некаторыя іншыя падрабязговасьці з біографіі Івана Мялешкі.

„Nie boiawsia tak korola Jmści Zygmunta
y wsich senatarow,
a nie umiew boli,
odno Czasownik a Psałtyr proczytaw“ [30]).

Тутака вельмі яскрава паказана нявысокая адукацыя Яна Мялешкі, якая абмяжоўвалася глаўнымі крыніцамі старое вучобы: Часоўнік і Псалтыр. Але ня гледзячы на параўнальную неадукаванасьць, ён не баяўся ні самога караля Жыгімонта, ні санатараў, бо адважваўся выступаць з досыць ужчыплівымі прамовамі, асабліва супроць махлярства ў сэнатарскіх прамовах, супроць баламутных сэнтэнцый.

У тым жа „Лісту да Абуховіча“ падаецца прамова Мялешкі ў наступных выразах:

„Panowie! każu wam praudu
po wielmi mudrych ludziach:
niczoho na swieti—hetaia chwila,—
szto z bolota czyniat zołoto,
a z zołota boloto
swaimi szałbierskami mowami:

I on panie z prawdy nieprawdu
a z nieprawdy prawdu urobił,
a szczoby nas, ubohich ludey,

nie mieli oszukat y w błazny postrychczy...
Ale pokul on toho dokażet,
sam kiepem zostaniet:

Nadułsie w senati, jak petuch galaguckij,
a praudu ni pytay—
usio bałamutnia!
usio derżyt: tak, tak...
a koli mowit: to-nie tak!
i pisnut nie choczet [31]).

У кароткіх рысах зьмест прыведзенае вытрымкі можна вызначыць так: Прамовы сэнатараў—былі махлярскія (szalberskija), бо былі накірованы да ашуканства ўбогіх людзей. Сэнатары былі вельмі зазнатыя, надутыя, нібыта індыкі. Толькі патакалі. Калі-ж пачаць пярэчыць і давадзіць, што справа зусім інакш выглядае, то ня мелі адвагі, каб хаця піснуць...

Гэта менавіта і ёсьць протэст супроць тых „сэнтэнцый", якія выказваліся сэнатарамі. Адначасова гэта зьяўляецца тэй праўдай, якую кінуў у вочы сэнатараў Мялешка, выказаўшы гэтым сваю грамадзкую сьмеласьць, свае здольнасьці і адсутнасьць якога-небудзь страху перад каралём і сэнатарамі.

Здаецца, што такі зьмест прамовы вельмі падыходзіў да моманту і таксама да годнасьці сэнатара Івана Мялешкі. Усё гэта магло быць сказана і ў сэнаце, або на сойме. Гэтым і вычарпалася прамова Мялешкі, якую чуў і перадаў Цыпрыян Камуняка.

Адсюль тое, што нам вядома пад назваю „Прамова Мялешкі",—толькі фантастычны твор, штучны зьмест якога ня мае сувязі з соймавымі, або сэнацкімі справамі.

Запраўдная дзейнасьць Яна Мялешкі ў сэнаце лічылася, відаць-каштоўнай з погляду грамадзянства, бо ён бараніў паспольства з боку сэнатароў. Як „земянін" па сваім пахаджэньні, які не нахапаў „каралеўшчын", ён упаўне мог лічыць сябе „ўбогім". І калі ён вёў барацьбу за паспольства, адважна высьвятляў супярэчаньні, якія заўважаліся паміж прамовамі сэнатараў і рэчавістасьцю, ён зусім ясна відзеў, што сэнатарскія прамовы зьяўляліся баламутняй, а тыя довады, якімі яны опэравалі,—глупствам.

Усё гэта і рабіла дзейнасьць Мялешкі, у якасьці сэнатара, популярнай і давала падставу для ўтварэньня вядомае „Прамовы Мялешкі".

## VI. Датоўка прамовы Мялешкі.

У творы „Прамова Мялешкі" ёсьць адно мейсца, якое, нібыта, дае ключ для вырашэньня пытаньня аб часе зьяўленьня гэтага твору.

„А Уршульку-королевну, ее милости,
миленко в ручку поцаловали,
как и другіе молодшые сенаторчыкі.
не дивуйтеся, милостивые панове братя,
все веком сказываеть:
сивизна в бороде, и чорт в лядвех за
поесом". (р. 208—215).

Відаць, аўтар падае гістарычную падзею. Ён называе вядомую фаварытку часоў Жыгімонта III Уршулю Мэйер. Яна зьявілася пры двары Жыгімонта III не раней 1608 г. і была асабіста блізка да другое жонкі Жыгімонта III, Констанцыі, прынцэсы аўстрыйскай. Уплыў

гэтае Уршулі Мэйер у прыдворных сфэрах пачаўся пасьля 1614 г. Аднак, у прамове нідзе няма ўспаміну аб каралеве. Выступае адна толькі Уршуля. Відаць, што гэтым адзначаны час, калі Уршуля выступала ў поўнай меры адна. Гэта было якраз пасьля сьмерці каралевы Канстанцыі (1632), калі пры двары польскім уплыў Уршулі на караля зрабіўся неабмежаваным. Польскі гісторык Niemcewicz кажа, шчо ў гэты час усё ішло праз Уршулю Мэйер, што яна правіла ўсімі дамовымі таямніцамі Жыгімонта III [32].

Адсюль, здаецца, зразумела, чаму Уршуля Мэйер атрымала пад пяром аўтара „Прамовы Мялешкі", гучны тытул „каралеўны", і чаму „сэнатарчыкі" імкнуліся „міленько цаловаць Уршульцы ў ручку", найбольшае зрабіць уражаньне, каб атрымаць і для сябе карысьць; ухапіць „каралеўшчыну" (р. 204).

Але пры гэтым аўтар зрабіў працівапалажэньне—„малодшыя сэнатарчыкі" і Ян Мялешка—ужо ў сівізьне, інакш кажучы—стары па ўзросту, што зусім будзе адпавядаць часу сэнатарскай дзейнасьці Мялешкі [33]).

Выяўленая падрабязговасьць дакладна сьведчыць, што „Прамова Мялешкі" магла зьявіцца толькі ў апошнія гады панаваньня Жыгімонта III. Такім чынам, дата прамовы, 1589 г., выстаўленая М. І. Кастамаравым, зьяўляецца нейкім непаразуменьнем, як поўнай недарэчнасьцю зьяўляецца зробленая П. А. Кулішом заўвага,—нібыта, гэтая прамова сказана на сойме ў *Смаленску*, між тым у Смаленску да і ў прысутнасьці караля, аніводнага сойму гісторыя ня ведае.

Але, здаецца, ключ для адказу на пастаўленае пытаньне дае нам наступнае мейсца твору:

„От их милостей, панов ляхов,
гинуть наши старие
поклоны Смоленские" (р. 123—125).

Гэтыя радкі маюцца толькі ў рэдакцыі Турава-Пінскай 1663 г., апублікаванай Ластоўскім. Калі лічыць, што аўтар зварочвае тут увагу на гістарычныя падзеі, якія вялі да ўтраты Смаленску, то трэба аднесьці зьяўленьне гэтага твору да часоў вельмі блізкіх да 1654 г., калі Смаленск быў далучаны да Масквы і згінуў для Белар.-Літоўскай дзяржавы

### VII. Аўтар „Прамовы Мялешкі" і „Ліста да Абуховіча".

Параўнаньне двух вызначаных твораў як з боку іх пабудовы, таксама і з боку дэталяй выкананьня—дае наступныя вынікі.

1. Абодвы творы маюць аднальковы выгляд, на палову вершаваны, і ў абодвух аднолькова рыфмуецца ў большасьці дзеясłоў.

2. Мастацкай афарбоўцы як у адным, таксама і другім творы істотна дапамагае шэраг прыгожых прыказак з жывое народнае мовы і мастацкіх параўнаньняў, акія аўтар аднолькава мастацкі ўжывае.

3. Найбольш-жа важкім аргумэнтам тоесамасьці аўтара абодвух названых твораў зьяўляецца карыстаньне аднолькавымі выразамі, як, напрыклад, бредня, баламуты, баламутня, выкурыць венікам, выкурыць зублём, галагуцкіе куры, галагуцкі пятух, седіть як бес надувшись, седіть як дьявол у дуплі, гораздо вспомнити маю, гораздо лепш наши мевалися і інш. словнікова інвентар.

4. У канцы, абодва гэтыя творы аб'яднаны фігурай, або асобай аднаго гістарычнага дзеяча Івана Мялешкі. І калі ў адным творы аўтар выдае сябе за дасканалага знаўцу і прыхільніка гэтага дзеяча і малюе яго як барацьбіта за „убогае“ паспольства, то зусім зразумела, што ніхто іншы як той жа самы пісьменьнік меў здольнасьць і ахвоту займацца творам, выключна прысьвечаным гэтаму дзеячу, Мялешцы.

Усё выказанае дае нам падставу, каб лічыць Камуняку аўтарам ня толькі „Ліста да Абуховіча“, а таксама і „Прамовы Мялешкі“.

Час пахаджэньня першага твору сьцісла адзначаны датай 6 ліпня 1655 г. Дата зьяўленьня ў сьвет „Прамовы“ Мялешкі“ павінна быць некалькі ранейшай, але не раней трыццатых гадоў XVII сталецьця.

---

## ЗАЎВАГІ.

[1]) Baliński, M. Pamiętniki historyczne do wyjaśnienia spraw publicznych w Polsce XVII wieku. Wilno 1859 г., str. VIII—IX.

[2]) Kondratowicz Ludwik (Władysław Syrokomla). Dzieje literatury w Polsce. Tom III. Warszawa 1875, str. 169.

[3]) Власт. (В. У. Ластоўскі)—Кароткая гісторыя Беларусі. Вільня, 1910 г. стар. 72-75

[4]) Ластоўскі В. У.—Гісторыя Беларускай (Крыўскай) кнігі. Коўня, 1926 г. стар. 574-575

[5]) Усё гэта вызначана ў надпісу на гэтым манускрыпце, але хто такі быў Людзьвік Міхал Любленскі, нам невядома. Пэўна, аднак, што ён меў нейкае дачыненьне да Магілеву-Беларускага. Напрыклад, Любленскі зрабіў у гэтай кнізе, на лацінскай мове, такі запіс: „1748 г. мая 30, каля другое гадзіны з поўначы, пачаў гарэць Магілеў і да 8-9 гадзіны амаль што ўвесь выгарэў, як ёсьць паміж валоў. Нешчасьлівы гэты пажар скончыўся на касьцеле і кляштары езуітаў. Я быў прысутным і глядзеў на гэты няшчасны выпадак“.

[6]) Власт. Кароткая гісторыя Беларусі. Вільня 1910 г., стар. 72.

[7]) Ластоўскі, В. У. Гісторыя беларускай кнігі. Коўня 1926, стр. 576.

[8]) Kondnatowicz Ludwik (Władysław Syrakomla). Dzieje literatnry w Polsce. T. III, Warszawa 1875, str. 146-170: O świstkach satyrystycznych za Wazów. У Карскага Е. Ф. паданы ўзор сатыры 1642 г., надрукаванае ў Вільні: „Witanie na pierwszy wjazd z Królewca do Kadłubka Saskiego Wileńskiego J (egomosci)x(ię́dz)a Hern Lutermachera (Белорусы т. III, кн. 2, стар. 212-214).

[9]) Выдана ў Вільні ў 1859 г.

[10]) Археогр. Сборн. документов, относящихся к истории С. Зап России, т. XIV.— Довгялло Д. И. Предисловие стр. XVI—XXII. Wol. Leg. t VI, str. 242 §. 14.

[11]) Baliński, M.—Op. cit,. str. VIII

[12]) Wolff, I. Senatorowie i dygnitarze W. X. Lit. Kraków 1895, str. 115, 131.—3-га лютага 1623 г., „пасьля сьмерці“ Яна Мялешкі, на гэтую пасаду быў вызначаны князь Лявон Мікалаевіч Саламерэцкі.

[13]) Wierzbowski Th. Vade mecum Warszawa 1908, ztr. 146.

[14]) АВАК. т. XVIII, стр. 250 і 255.

[15]) АВАК. т. XX, стр. 388, т. VIII, стр. 132-133. Трэба заўважыць, што Крыштоф Комуняка першага акта ў апошнім называецца Крыштоф Комоняка, чым сьведчыцца тоесамасьць гэтае асобы і прозьвішча.

[16]) Ластоўскі. В. У. Гісторыя беларускай кнігі. Коўня, 1926, стар. 447.

[17]) Wiszniewski Historja literatury polskiej t. VII str. 480.

[18]) Основа 1862 г., кн. 6, стр. 13—16.

[19]) АЮЗ и ЗР. т. II, стр. 188.

[20]) АЮЗ. и ЗР. т. I:, стр. IV.

[21]) Сумцов, Н. Ф. „Речь Ивана Мелешкі“. „Киев. Старина“ 1894, май, стар. 201.

[22]) Там жа, стар. 202—203.

[23]) Там-жа, стар. 201.

[24]) Карский Е. Ф. Белорусы, т. 3, кн. 2, стар. 115.

[25]) Янчук, Н. А. Нарысы па гісторыі Беларускай літаратуры, стар. 89.

[26]) Мы знайшлі гэты докумэнт у архіве Літоўскае Мэтрыкі ў Маскве. (Кн. Зап. № 77, л. 489, № 552). Дзеля таго, што ён не надрукаваны, падаем яго тутака:

Прывиле|й| урожоному Яну Мелешку на сто|л|нико|в|ство Городе|н|ское

Жикгимо|нт| Трети|й| Бо|ж|ю м|и|л|ос|тью коро|л|.

Озна|й|муем симъ листом н|а|шим всим вобец и кожъдому зособна, кому бы то ведати належало, нинешним и на потом будучим. Ижъ мы, г|оспо|д|а|ръ, маючы ласкавы|й| взглядъ на ве|р|ные и цнотливые службы земенина н|а|шого повету Городеньского урожоного Яна Мелешка, которие о|н| з молодости летъ своихъ про|д|комъ н|а|шимъ, королемъ и|х| милости польскимъ и великимъ кн|я|земъ Литовскимъ, также и Речи Посполито|й| никоторое потребы не ѐмешкивалъ, не литуючы здоровья и маетности своее, зъ себе ѐказова|л|, а хотечи ему знак ласки нашое г|оспо|д|а|рское ѐказати и впередъ до служб нашихъ г|оспо|д|а|рьских и земскихъ тым хутлившого способити, дали е|с|мо и симъ листомъ нашим ему даем, врад земски|й| сто|л|никовски|й| в повете Городеньскомъ. Маеть Я|н| Мелешко тым врадом сто|л|никовским в повете Городеньском справовати и местъце свое ч|а|су Со|й|миковъ во|д|ле права заседа|ти| и о потребах Речи Посполитое зданье свое подавать, так же теж всякое учтивости и владз-, тому враду належачое, аж до живота своего, альбо до лепшого ѐпатреньня н|а|шого г|оспо|д|аръского. И на то дали есмо Яну Мелешку, стольнику нашому, сесь н|а|ш лист, с подъписом руки нашое г|оспо|д|а|ръское, до которого на тве|р|дость и печать нашу притиснуть е|с|мо росказали.

Писанъ у Варшаве, лета Божего нароженья тисеча пятьсотъ деве|т| десят третего, м-ца июня двадъцать третего дня.

Подпис руки господаръское.

Ярош Волович писар.

[27]) З Слонімшчынай Ян Мялешка меў бязумоўна маемнасную сувязь, бо быў адным з галоўных фундатароў Жыравіцкага базыліянскага манастыра. Ф. Турук у сваёй працы „Униатский митр. Иосиф Вельямин Рутский (Журн. М. Н. Пр. 1916 г., кн. III, стр. 151) падаў зьвестку, што Жыравіцы належалі да маёнткаў фаміліі Мялешкаў.— Гэта трэба падкрэсьліць таму, што проф. М. В. Доўнар-Запольскі мае думку, нібыта Іван Мялешка „паходзіў з Полацкай Беларусі і быў суседам і сучасьнікам Васіля Цяпінскага", але, на жаль, мы не знайшлі ў яго спасылкі на крыніцу, з якой ён уняў гэтую зьвестку. (Довнар-Запольский М. В. — Исследования и статьи. Киев 1910 г., стр. 256).

[28]) Wolff, J.—Senatorowie i dignitarze, str. 115-131.

[29]) List da Abuchowicza, рад. 99-104.

[30]) Там-жа р. 180-184.

[31]) Там-жа р. 105-128.

[32]) Niemcewicz, I. U. Dzieje panowania Zygmunta III, t. III. Warszawa 1819, str. 140, 543, 544.

[33]) Мажліва, аднак, тлумачыць, што ў радкох 213—215 закрануты сам Жыгімонт III ў яго адносінах да Уршулі... У час сьмерці 2-ой жонкі (1632) ён меў 65 годаў, і сканаў 30 красавіка таго-ж 1632 г.

# ДАДАТКІ.

I. „Ліст да Абуховіча“ паводле рукапісу XVIII ст. Адэскай Дзяржаўнай Бібліотэкі,—знойдзенага намі ў 1926 г.

II. „Прамова Мялешкі“,—паводле рукапісу 20 ліпня 1663 г. Бельскага, з архіву Турава-Пінскай архіепіскопіі (выд. В. У. Ластоўскім у 1926 г.).

III. „Прамова Мялешкі“ па рукапісу Шчорсаўскае бібліотэкі граф. Хрэптовічаў—апублікавана лацінікай Wiszniewskim у 1851 г.

IV. „Прамова Мялешкі“ па рукапісу архіва гр. Серакоўскага, надрукаваная лацінікай Niemcewiczem у 1839 г.

V. Пераклад „Прамовы Мялешкі“ на украінскую мову, зроблены П. А. Кулішом і надрукаваны ў 1862 г.

I

## Ліст да Абуховіча.

## (Рукапісны аддзел Адэскай Дзярж. Бібліотэкі № 26, л. 249 адв —250).

*Заўвагі*: Мы падаем „Ліст да Абуховіча“ бяз усялякіх зьмен у транскрыпцыі. Але, з прычыны перакананьня ў тым, што гэты „Ліст“ мае свойскі вершаваны склад, робім спробу надрукаваць яго ў вершаваным выглядзе.

Апрача гэтага мы лічым неабходным у мэтах лепшай яснасьці дапоўніць яго лікам радкоў.

Прыймаючы пад увагу, што ў Адэскай копіі, якая друкуецца намі, маюцца варыянты, уласьцівыя толькі гэтай рэдакцыі, мы падаем іх асобным шрыфтам (курсывам).

У нізе, пад радкамі, прыведзены варыянты паводле Віленскай рэдакцыі, надрукаванай В. У. Ластоўскім у яго „Гісторыі Беларускай Кнігі“ (стар. 575-576). Далей-жа, за гэтымі варыянтамі, зьмешчаны заўвагі як лексічныя, так і гістарычныя.

Па нашай думцы вершаваны выгляд патрэбны ў мэтах асьвятленьня мастацкага боку, а іншае ўсё неабходна для больш дасканалага разуменьня твору.

**Kopia listu p-a Cypryana Komuniaki, szlachcica woiewódstwa Smoleńskiego, pisanego do IMPana Filipa Obuchowicza, wojewody Smoleńskiego, w tę słowo:**

Miłostywy panie Obuchowicz,
a moj łaskawy panie.
Z umysłu *moieho*
posyłaiu służku naszoho *dawnoho*,
pana Jowchima[1]) Howorku,
odwieszczajuczy dobroje zdorowie
Waszej Miłości,
czyli[2]) niezdorowie,
w jakim, *na* tot czas,
*miłostiwy* Hospod chowat raczyt[3])
pośle toho perepudu Moskowskoho.
I tak[4]) znaiu,
szczo nudno Waszey Miłości[5]) na żywotie.
Nie hniewajsie, twoja miłość,[6]) na mene,

*У рэдакцыі гэтага твору, якая надрукована В. У. Ластоўскім у яго выданьні „Гісторыя Беларускай (Крыўскай) кнігі (Коўна 1926 г., стр. 575-576) маюцца наступныя асобнасьці ў чытаньні:* [1])*—Іоахима,* [2]) *ти,* [3]) *ховати вас рачыть,* [4]) *і я так,* [5]) *што трудно Вашмости всим,* [6]) *да не гневайся, господару,*

szczo tytulu woiewodzkoho nie dołożyw:[7])
napisawszy ia[8]) woiewodoiu Smoleńskim—
tob[9]) i.i sołhał;
napisawszy[10]) *opiat* bezwoiewodzkim,
toby się Wasza Miłość hniewaw,[11])
choc niet za szto.[12])
ja tak rozumieju:[13])
koli[14]) Smoleńsk prodali,
to y tytuł prodali[15]).
Mnoho ludey *ob tom* zwieszczali,
szto ludie y hroszy[16]) pobrali.
Lepiey było, panie Filipie,
sedet[17]) u Lipie а)
*A tos*[18]) uwalausie u wielikoiu sławu
jak świnia u hraz.
Horsz to sie[19]) *stało*,
koli chto upadiet[20])
w[21]) nowym każusie w[22]) hustoie boloto.
*U złom rozumieniu, w obmowach ludzkich y w soromoti,*
*sedit, kak diawel u dupli.*
Ot nam za toe, szto deszawo[23]) Moskwa soboli pradawała:
wsiu Ruś z ludmi odebrala.[24])
I koli my obaczyli[25]) hustyie sobolie kołniery,[26])
poznali zaraz,[27])
szto chudo budut hitsia naszyie żołniery.[28])
a szto my, durnyie,[29]) w kożuchach,
siem lit Smolinska[30]) dobywali,
to wy, mudryie,[31]) w sobolach,
za czetyrnacać niediel oddali.
Bajusia wielmi,
sztob za toie
baba komu pupa nie ryzała[32])
obmenszaja czyiu winu,[33]) każut ludie.
Oscika[34]) neboszczyka
napołochaw kat u Wilni,[35])
aż miaso ieho wałałosie.[36])
Szczo odno.
Kartaczka pisaw do Moskwy nieostrożna,[37]) б)
a my y Cara w nohu całowali
y hroszy pobrali.

[7]) *доложил, бо,* [8]) *написавшиб,* [9]) *тобы,* [10]) *написавшиб,* [11]) *тобы Вашмости загнева(л),* [12]) *хоть незашто,* [13]) *бо мне бачится,* [14]) *колі Вашмость,* [15]) *отдалі,* [16]) *што и Вашимости люди грошц,* [17]) *седети тобе,* [18]) *Увалялся Вашмость,* [19]) *горш того,* [20]) *попаде,* [21], [22]) *у,* [23]) *дешово,* [24]) *забрала,* [25]) *Мы вбачивши,* [26]) *ковнери,* [27]) *позналі есмы,*[28]) *буоуть битися наши жовнери.*[29])*бедные* [30]) *Смоленска,* [31]) *мудрейшие,* [32]) *не резала,* [33]) *за меншую вину,*[34]) *пана Остика,* [35]) *кат у Вильни,* [36]) *волоклося,* [37]) *неостерожно,*

а) Ліпа—вёска і прыгожы маёнтак у Навагрудзкім павеце, Сноўскай воласьці, над. р. Сноўкай. Фольварак—даўная асада старое фаміліі Абуховічаў. Глеба высокай якасьці, адборныя лугі (Słow Geogr. t. V, str. 247).

б) Осьцік, Рыгор Юравіч, загінуў ад рукі ката ў Вільні, ў 1580 г. Абвінавачаны ў перапісцы з маскоўскім баярынам Нашчокіным на здраду Літоўск.-Бел. дзяржаве (Boniecki—Pocz. rod. str. 228;—Kojałowicz—Herbarż ryc. W. K. Lit.—str. 309; Niesiecki—Herbarz. VII, 172).

A bezmal[38]) nam toie nie minietsie.
Pan Gonsiewski a) [39]) niemnoho polacinsku umiew,[40])
a z menszym ludom y apparatam woiennym y z żywnostaiu[41])
Smoleńska doderżaw.[42])
Mudrost wielikaia, każut[43]) ludzie:
swinia,[44]) koli mnogo chto ieie zażywaiet,
to niczoho[45]) nie dbaiet,
a koli człowik nadto ukusit,[46])
y postahnać musić[47])
y chwastu bywaiet nieupokoy.[48])
Zofia filozofiu radiła[49]):
Sedit[50]) wysoko, howoryt hłyboko.
Kudela, pane, żanockaja recz,
da szczob pekła horazd olatki.
Jost[51]) u mene starye knihi,
leżat u nowym kucie.
Zawsiody ia tam mnoho wyczytaiu[52]) żanockoy psoty, b)
jak iany[53]) z uma zwodiut ludey mudrych,
a sztobab nas hrysznych[55]) k lichu ne pryweli!
A kolib dotul Wasza Miłość pisarom byw,[56])
tob czołowiekam sływ,[57])
y tohob z nas hodia[58]) było—
za naszoie lichoie[59]) szalberstwo c)
Pokazuiut ludie
y toie na Wszey Miłości,
jakoby do wymyszlania[60]) podymnoho
nichto nie byw pryczynoiu,[61])
tolko[62]) Wasza Miłość,
kotorym wykuryli naszych mużykow,
iak werebiow z wienika,[63])
bo zmal[64]) z mudrych oratorow[65])
nie budet mnoho rataiow d) [66])
Posłom zostawszy,
prawdy ne howorył,
tolko:—berete kopy;
deputatam kopy,
komisarom kopy.
A tyie kopy
postryhut nieodnoho u chłopy,
a pan niet wiedama hdie budiet.

---

[38]) *Але больш,* [39]) *Госевски,* [40]) *умел,* [41]) *и живностю,* [42]) *додержал,* [43]) *Мудрость велика—кажуць,* [44]) *як тая свиня,* [45]) *то и ничего,* [46]) *А коли человек много кусить,* [47]) *то и постогнать мусить,* [48]) *бывае непокой,* [49]) *Зофія философія судила,* [50]) *седеть,* [51]) *Ест.* [52]) *Завседы я там вычытал много,* [58]) *яковой,* [54]) *зводять людей мудрых, многых,* [55]) *а штоб як нас грешных.* [56]) *был,* [57]) *тобы человеком слыл,* [58]) *годи,* [59]) *за нашое лихое,* [60]) *вымысленя,* [61]) *не хто был причиною,* [62]) *тольки,* [63]) *з вениковъ,* [64]) *безмало,* [65]) *орацієвъ,* [66]) *не буде много ратієвъ,*

a) На пасадзе ваяводы ў Смаленску былі адзін за другім двое Гасеўскіх: 1) Аляксандра Корвін-Гасеўскі з 15 чэрвеня 1625 да сваей сьмерці ў красавіку 1639 году, і за ім, яго сын, 2) Крыштоф Аляксандравіч Корвін-Гасеўскі с 24 мая 1639 г. да сьмерці ў сьнежні 1643 г. (Wolff-Senatorowie i dygnitarze, str. 52-53).

b) psota—распуснасьць.

c) шалберства—махлярства, ашуканства.

d) ратай стара-славянск.-земляроб, селянін

We Gdańsku iost tam komu wał[67]) sypaty y bez nas.
Szto *kolwiek* ludie starye howoryli,[68])
to wsio prawda.
I harazd wspomnity[69]) maju:
koli byw[70]) pan Mieleszko[71])
kasztalanom Smolenskim,
buduczy na soymie,
a ia na toy czas[72]) za nim z kordikom e) stoiaw,
ieho mowa
w tyie słowa była:
Panowie!
Każu wam praudu
po wielmi mudrych ludiach:
Niczoho na swieti[73])
hetaia chwila,[74])
*szto* z bołota czyniat zołoto,
a z zołota bołoto
swaimi szalbierskami f)
mowami.[75])
*I on panie*
*z praudy niepraudu*
*a z niepraudy praudu*
*urobil,*
a szczoby nas, ubohich[76]) *ludey,*
*nie mieli* oszukat
y w błazny postrychczy,
ale, pokul on toho dokażet,
sam kiepem g) zostaniet.[77])
Nadułse w senati kak[78]) petuch gałagucki y.
A praudy nie pytay,
wsio bałamutnia,
usio derzyt: tak, tak,[79])
a koli mowit: to ne tak,—
y pisnut nie choczet.[80])
Nie boiawsia[81]) *tak* korola JMści Zygmunta[82])
y wsich senatorow,
a nieumiew boli,[83])
odno[84]) Czasownik a Psałtyr proczytaw.[85])
Po mnohych knyhach
zbłudiwsia tepereczny rozum,
jak koza po lise,[86])
a na praudu swietuiu[87])
niodnoho[88]) *oka* zdorowoho niet,
odno bałamutnia.

---

[67]) *У Гданску есть кому там валы,* [68]) *мовили,* [69]) *и горазд у па мети маю,* [70]) *был,* [71]) *Мелешка,* [72]) *то я, будучи на сойме на тот часъ,* [73]) *ничого на семъ свете,* [74]) *за три хвили,* [75]) *мовами и разговорами,* [76]) *простых,* [77]) *останеть,* [78]) *надувся въ сенате, як,* [79]) *З гурбою держить, так, так, так,* [80]) *а коли мовишь: тое не так—и писк нути не хочеть,* [81]) *боялся,* [82]) *Жыкгимонта,* [83]) *ани вмел болей,* [84]) *только,* [85]) *перечитати,* [86]) *по лесе,* [87]) *святую,* [88]) *ни од кого,*

e) кордзік- шабелька.
f) Шальберскія мовы—махлярскія, ашуканскія прамовы.
g) Кеп—дурань.

*Za toiu balamutnioiu*
y sami pohibnut
y nas pohubiat.
Rozon im,
Panie,
u żywot bude.[89])
*A ja*
*takaia osobka,*
*taki czołowik*:
Ciwuniec h) moy, z rykunieiu, i)
byw z syrami na torhu
u lenney k) maietności moiey,
czuw od kogoś y *to* mne zwiestiw,[90])
szczo Lachy na MWści
welmi chwosty pozakaraczywali,[91])
odnob tolko seym doyszow,
*albo ziezd byw*:
choczut[92]) WMści ob toie turbowat.
Nie kiepsko.
Day to, Boże,
szczob się toie nie minuło,[93])
i toli—prauda,
czy nie—
pokazuiut[94]) na WMści,
jakoby *miew* WMść
dwanascie sot piechaty zatehnut
na odyskanie Smolenska—[95])
Daremnoie[96]) WMsci staranie!
Miewszy[97]) czetarnascie sot[98]) piechoty
do oborony[99]) Smolenska,
ludey zacnych y dobrych,
pry żywnosty, armatie,[100])
da nie chotiw[101]) boronity,
a teper tolko *swu* maiuczy[102]) hreblu u maietnosci,
pol onoy[103]) sypat pozwolaju,[104])
a ne Smolenska nazad odyskiwat.[105])
Oy, panie!
hodia *Franca* witat,[106])
jak sliża w Niemen upustit.[107])
Nie zawtro toie budet,[108])
*Minut ieho y troie ludey.*
I toie[109]) kazut dowodnie:

---

[89]) *Кождень Мости пане уживать будеть,* [90]) *Як цюнец мой былъ зъ сынами в местечку Полонной з курми на торгу, чув одъ когось и мне зьвесно,* [91]) *вельми позакручывали хвосты,* [92]) *бо ены хочуть,* [93]) *тое дармо не минуло,* [94]) *показуваюць,* [95]) *якобы Вашмость у дванадесять пехоты зьехал на одзыскане Смоленска,* [96]) *Даремно то,* [97]) *маючы,* [98]) *четырнадсот,* [99]) *обороны,* [100]) *и гармате,* [101]) *не хотел,* [102]) *маючы дванадесять пехоты,* [103]) *полонной,* [104]) *сыпати позваляюць,* [105]) *одзыскивають,* [106]) *годи вы так,* [107]) *у Неман упустить,* [108]) *не завтра тое вже будеть,* Люди и тое.

h) Ciwuniec—цівун, які пазіраў за сялянскай працай на паншчыне.
i) rykuni—рыкуны-жанчыны, якія даглядалі кароў у маёнтку пана.
k) lennaja maiętność—нярухомая маемасьць.

